Анатоль Іверс

# З глыбінь жыцця

## Нататкі прамінулай эпохі

Мінск, «Кнігазбор», 2012

УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
І-25

Укладанне і прадмова
Сяргея Чыгрына

Кніга выдадзена рупнасцю ўнука Анатоля Іверса
спадара **Аляксандра Міско**

**Іверс, А.**

І-25 З глыбінь жыцця : нататкі прамінулай эпохі / Анатоль Іверс ; уклад. і прадм. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 208 с.

ISBN 978-985-7007-64-6.

У кнігу старэйшага беларускага пісьменніка Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско, 1912–1999) са Слоніма ўвайшлі артыкулы, напісаныя ім у 1960–1990-я гады падчас журналісцкіх і літаратурна-краязнаўчых вандровак па родным краі.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-64-6**



## Шмат пройдзена дарог

Беларускі пісьменнік Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) усё жыццё пражыў на Слонімшчыне. Родны кут ён прайшоў і праехаў уздоўж і ўпоперак. І ведаў яго вельмі добра. Паэт быў знаёмы з многімі слонімцамі, якія жылі з ім побач, сябраваў, перапісваўся з літаратарамі, заўсёды шчыра запрашаў да сябе ў госці.

Шмат пісаў пра сваіх землякоў Анатоль Іверс, калі працаваў карэспандэнтам у Слонімскай раённай газеце. Пісаў у «раёнку», у іншыя выданні і тады, калі працаваў на смалакурні, у раённым аддзяленні Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, калі пайшоў на пенсію. У 1960–1970-я гады Іван Дарафеевіч найчасцей у сваіх артыкулах прыгадваў Другую сусветную вайну, акупацыю, людзей, якія з ім разам змагаліся супраць гітлераўцаў, сяброў-равеснікаў, што загінулі маладымі, а таксама жыццё ў былой Заходняй Беларусі.

Пісаў пісьменнік і пра лес. Лясная тэма была яму з маленства знаёмая і блізкая. На чамяроўскім хутары каля лесу ён гадаваўся, жыў. З лесам была звязана яго антыфашысцкая дзейнасць. З лістапада 1943 года Анатоль Іверс быў партызанам брыгады імя Ракасоўскага. Брыгада знаходзілася ў лесе недалёка ад Слоніма.

Пасля вайны Іван Дарафеевіч Міско шмат гадоў адпрацаваў на смалакурні, пешшу абышоў сотні кіламетраў лясных дарог і сцяжын. Таму, відаць, на Слонімшчыне не было лепшага лесазнаўца за яго. Паэт любіў лес, яму прысвяціў вязанку паэтычных твораў і артыкулаў. Прыгадваю яго радкі:

*І што тут дзівіцца: родам*
*Я з гэтых лясных мясцін.*

*І гоман люблю, і водар,*
*І шум маладых ялін…*

Калі гартаеш Слонімскую раённую газету, на вочы трапляецца шэраг яго артыкулаў пра лес, пра работнікаў лясной гаспадаркі, розныя гісторыі, звязаныя з жыццём і прыгодамі лясных звяроў. У слонімскай «раёнцы» Іван Дарафеевіч Міско вёў некалі старонку «Чалавек і прырода», дзе і друкаваў свае нататкі пра лес.

Але найлягчэй і цікавей пісалася паэту і журналісту заўсёды пра літаратуру, культуру, мастацтва, пра людзей, якіх Бог надзяліў талентам: мастакоў, рэзчыкаў па дрэве, вышывальшчыц, ганчароў… Пісалася яму проста і вольна, бо гэта была яго тэма, яго жыццё, яго захапленне. Героямі матэрыялаў былі і бібліятэкары Чамяроўскай і Вялікакракоцкай сельскіх бібліятэк імя Янкі Купалы і Якуба Коласа, артысты Слонімскага народнага тэатра (цяпер Слонімскі драматычны тэатр), работнікі музеяў, клубаў, настаўнікі. Шмат пісаў паэт пра новыя кнігі, якія тады выходзілі з друку. Ён, як і аўтары тых кніг, шчыра радаваўся кожнаму новаму выданню — ці гэта была гістарычная, краязнаўчая кніга, ці зборнікі паэзіі або прозы, ці кнігі ўспамінаў.

Анатоль Іверс любіў тэатр. Пасля Другой сусветнай вайны ў Слоніме пры РДК існаваў народны тэатр, якім спачатку кіраваў Міхаіл Фрыдман, а потым — Мікалай Варвашэвіч. Рэжысёры Івана Дарафеевіча заўсёды клікалі на прэм’еры спектакляў, і ён з вялікім задавальненнем іх наведваў, а потым выказваў сваю суб’ектыўную думку на старонках газет і часопісаў.

Шчыра і цёпла пісьменнік згадваў пра Валянціна Таўлая, Гальяша Леўчыка, Піліпа Пестрака, Ігната Дварчаніна, Адама Станкевіча, Янку Купалу і іншых знакамітых людзей Беларусі. Вядома ж, у 1960–1980-я гады не ўсё ён мог надрукаваць тое, аб чым хацелася сказаць, успомніць. Тым не менш, артыкулы і ўспаміны, якія

склалі кнігу «З глыбінь жыцця» Анатоля Іверса, вельмі каштоўныя як з гісторыка-краязнаўчага пункту гледжання, так і з творчага. Яны розныя, але адлюстроўваюць і час, і тыя падзеі, калі жыў паэт, калі артыкулы пісаліся. Няпросты быў той час, і нялёгка жылося Анатолю Іверсу ў Слоніме. Але ён лячыўся творчасцю, спагадаю і добрымі словамі родных людзей і сяброў. Анатоль Іверс шмат прайшоў дарог па роднай зямлі, якую ён любіў. І беларуская зямля і нашы людзі яго будуць доўга памятаць.

*Сяргей Чыгрын*



## Ён вершам краты пілаваў

Нацыянальна-вызваленчая барацьба працоўных былой Заходняй Беларусі супраць польскай буржуазіі ахапляла шырокія слаі народа і вылучала з народнай гушчыні шмат выдатных рэвалюцыянераў. У ліку іх быў і наш зямляк паэт Валянцін Паўлавіч Таўлай.

8 лютага 1966 года Таўлаю споўнілася б 52 гады. Споўнілася б... Вось ужо 19 гадоў мы жывём без яго, захапляючыся чыстатой душы, таленавітасцю, мужнасцю і самаахвярнасцю гэтага выдатнага чалавека.

Бацька паэта Павел Дзям'янавіч — з вёскі Рудаўка Слонімскага раёна. Ён працаваў на чыгунцы і доўга не заседжваўся на адным месцы, яго перакідвалі з адной станцыі на другую. Валянцін нарадзіўся ў Баранавічах, дзіцячыя гады пракаціліся на колах, а юначыя прайшлі на Слонімшчыне і ў турмах.

Сялянская бедната, нацыянальны прыгнёт, рэвалюцыйнае асяроддзе, настрой бацькоў — гэта элементы, якія ўплывалі на фармаванне свядомасці хлапчука. І не выпадкова ў 1927 годзе Валянцін Таўлай паступае ў Віленскую беларускую гімназію, дзе гартаваліся маладыя сілы і «пра якую пачыналі ўжо сніцца сны».

На нашых вачах шустры юнак набывае паважную сталасць. Яго цікавіць усё, а найбольш вершы, паэзія Купалы і Коласа — такая блізкая, прывабная. Таўлай пачынае сам пісаць вершы. І даволі добрыя. За подпісам «Янка Дванаццаты» іх змяшчалі беларускія газеты левага напрамку.

Я таксама крадком пісаў вершы (тады пісалі амаль усе навучэнцы). І, хоць быў на два гады старэйшы, хутка пасябраваў з Таўлаем. Сяброўства змацоўвала камсамольскае падполле і тое, што разам прымалі ўдзел у выданні на шапірографе вучнёўскіх часопісаў «Золак» і «Пралескі».

Рэвалюцыйная і літаратурная праца Таўлая ўзаемна дапаўняліся. Ён бачыў: каб пачуць са сцэны мастацкае слова, вясковая моладзь ішла на спектаклі за 20 і больш кіламетраў. І чым мацнейшы быў верш, тым большыя чуліся воплескі. Ён разумеў і другую аксіёму — літаратуру павінен тварыць сам народ.

Падзеі шпарка развіваліся. На пятнаццатым годзе жыцця Таўлая першы раз арыштоўваюць за ўдзел у школьнай забастоўцы пратэсту супраць паланізацыі беларускай гімназіі. Потым не раз былі суд і турма.

Значнай падзеяй у літаратурным руху Заходняй Беларусі ў 1933 і 1934 гадах была першая нарада рэвалюцыйных паэтаў у Вільні і выхад у свет нацыянальна-рэвалюцыйнага часопіса «Літаратурная старонка». Галоўную ролю ў гэтым адыграў Валянцін Таўлай.

Часопіс паны закрылі на другім нумары, а Таўлай і другія пісьменнікі трапілі за краты вядомай віленскай турмы Лукішкі. Там Таўлай арганізаваў выданне часопіса «Краты», дзе разам з Піліпам Пестраком і Максімам Танкам друкаваў свае творы. Кожны палітвязень, што выходзіў з турмы, выносіў на волю і вершы.

Пасылаючы з-за кратаў сваю паэзію ў масы, Таўлай пісаў:

Я сам і пасядзець магу,
а вершам — часу шкода:

шумець ім трэба на сцягу
І калыхаць паходы.

Надаючы баявую сілу мастацкаму слову, паэт працягваў:

Глядзі ў ваўчок як дзень так ноч, —
не ўбачыш, чорт зіркаты,
што я заўзята і даўно
пілую вершам краты.

Паэтычнае слова поруч з іншымі відамі агітацыі супраць панскай няволі мелі вялікае выхаваўчае значэнне. Гэта вельмі добра разумеў паэт і заўсёды настройваў сваю ліру на ваяўнічы тон.

У незакончанай паэме «Непераможныя» ёсць радкі, якія ўжо не ў пераносным сэнсе, а проста заклікалі народ да барацьбы:

Перад намі ясны шлях —
калаці паноў па лбах.
Заўтра ў панскім у двары
будзем мы гаспадары.

На нашых вачах Таўлай стаў выдатным беларускім паэтам. Гартавала яго барацьба. Ён нястомна вучыўся, карпатліва шліфаваў радкі. Таўлай так і гаварыў:

Толькі аднаго адкінуць нельга:
шліфаваў радок, як сталь звяна;
ланцугі тады на мне звінелі —
можа й вершы ад таго звіняць.

У часы гітлераўскай акупацыі Таўлая як паэта-рэвалюцыянера пасадзілі ў лідскую турму. Сябрам удалося вырваць паэта з крывавых рук гестапаўцаў. І тады ён стаў падпольшчыкам, партызанам. Бачыц-

ца з ім у той час мне не давялося. Аднак сувязныя Слонімскага антыфашысцкага і партызанскага руху сустракаліся ў Мінску з Таўлаем, дзе ён выконваў важнае падпольнае даручэнне.

Пасля вызвалення Валянцін Таўлай, нягледзячы на падарваныя ў турмах сілы, актыўна працаваў, аднаўляў напісаныя ў памяці вершы, рыхтаваў да друку зборнік. Апошні раз я наведаў земляка ў мінскай бальніцы ў канцы сакавіка ці ў пачатку красавіка 1947 года. Ён ляжаў высока на падушках. На тумбачцы былі кнігі. На каленях — папера. Яму тады палепшала, і ён марыў да 1 мая выпісацца з бальніцы.

Друк прынёс сумную вестку: 27 красавіка Таўлая не стала.

Мы ганарымся сваім земляком Валянцінам Таўлаем, які ўвайшоў у нашу літаратуру праз шырокія дзверы шматграннай сапраўднасці, той сапраўднасці, у дасягненне якой ён уклаў усе свае сілы і талент.

*1966*

## Бібліятэка з аўтографамі

Гэта бадай найменшая бібліятэчка, якую мне давялося бачыць. Але вартасць яе ацаніць немагчыма.

Даведаўшыся, што вучні Чамяроўскай васьмігадовай школы Слонімскага раёна збіраюць кніжкі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, мяне пацягнула ў родную вёску. Мне знаёмы юнацкі запал школьнікаў. Некалі і мы, вучні Віленскай беларускай гімназіі, з аганьком збіралі літаратуру для вясковай бібліятэкі-чытальні, якую польскія паны закрылі, калі там было ўжо больш дзвюх тысяч тамоў.

З таго часу мінула шмат гадоў. Кніга ў наш час дайшла да масавага чытача, у самыя аддаленыя мясціны.

Энтузіястам-збіральнікам гэтага мала. Ім патрэбны аўтографы любімых пісьменнікаў. І хто з пісьменнікаў адмовіцца падарыць школе сваю кнігу з надпісам!

На кнігах гэтай бібліятэчкі няма ніякіх штампаў і рэгістрацыйных знакаў, толькі цікавыя надпісы аўтараў.

Народны пісьменнік Беларусі Пятрусь Броўка прыслаў збор сваіх твораў у двух тамах. Максім Танк — таксама збор твораў у двух тамах і зборнік вершаў «Мой хлеб надзённы» з надпісам: «Дарагім сябрам — школьнікам Чамяроўскай школы ад шчырага сэрца».

На кожнай кніжцы рука аўтара з цёплымі, задушэўнымі словамі. Янка Брыль прадстаўлены трыма кнігамі («Птушкі і гнёзды», «Жменя сонечных праменняў» і на рускай мове «Выбранае»). На адной з іх чытаем: «На добры ўспамін дарагім землякам — чытачам Чамяроўскай школьнай бібліятэкі!»

Сярод прысланага — творы Івана Шамякіна, Івана Мележа, Ільі Гурскага, Алеся Звонака, Янкі Скрыгана, Міколы Хведаровіча, Рамана Сабаленкі, Паўла Кавалёва, Аляксея Зарыцкага, Пятра Прыходзькі, Міколы Аўрамчыка, Уладзіміра Корбана, Сяргея Дзяргая, Пімена Панчанкі, Міхася Калачынскага, Данілы Еўзікава, калектыўны зборнік твораў паэтаў былой Заходняй Беларусі «Сцягі і паходні».

Кніжачку вершаў нашага слаўнага земляка В. Таўлая пад загалоўкам «Выбраныя творы» прыслалі з такім надпісам: «Ад дачкі і жонкі паэта і ад імя самога Валянціна».

На тытульнай старонцы рамана «Серадзібор» напісана: «Вучаніцам і вучням Чамяроўскай школы, каб любілі сваю Радзіму, каб для яе стараліся. — Аўтар Піліп Пестрак».

Антон Бялевіч на сваёй кнізе паэм «Рэха навальніц» напісаў верш:

Вам, вучням школы Чамяроўскай,
Я шлю сардэчны свой прывет,
Віншую школу, вашу вёску
І вас, дзівосны веснацвет.
Хачу, каб вы былі як песня,
З душой праменнаю былі,
Каб вы маглі задумы здзейсніць,
Кавалі шчасце на зямлі.

А Мікола Хведаровіч піша: «Жадаю вам поспехаў у вучобе і творчасці. Веру, што сярод вас ёсць вучні, якія будуць маімі паслядоўнікамі на ніве беларускай літаратуры».

Хацелася б прывесці пажаданні з усіх трыццаці сямі кніг, бо ўсе яны задушэўныя, цікавыя. Але пакінем на другі раз, спадзеючыся, што бібліятэка з аўтографамі будзе расці.

*1966*

## Стаў музей памочнікам

Калі пачуеш слова «музей», то на цябе адразу нібы павее пылам старадаўнасці. Аднак, наведаўшы школьны музей у вёсцы Чамяры Слонімскага раёна, атрымліваеш іншае, даволі светлае ўражанне, хоць ёсць там экспанаты з цяжкім, суровым зместам.

Музей змяшчаецца ў пакоі пятага класа. Месца не хапае для партаў і экспанатаў, некаторыя з іх

схаваліся за шырокую класную дошку. Тым не менш у класе пануюць чысціня, утульнасць, парадак. Вучні шануюць музей, бо самі яго ствараюць, разам з настаўнікамі клапатліва збіраюць матэрыял.

Паказ гісторыі рэвалюцыйнага руху пачынаецца са стэнда аб першым з'ездзе РСДРП. Затым ідуць стэнды, дзе паказана барацьба за ўстанаўленне савецкай улады ў 1917–1920 гадах у роднай вёсцы, а таксама барацьба піянераў Слонімшчыны ў часы панскай акупацыі. З фотаздымкаў, зробленых у тыя часы ў дэфензіве, на нас глядзяць маладыя, але з дошкамі на грудзях і збітыя хлопцы. Гэта Сцяпан Жук, Пётр Дабрыян, Уладзімір Бялько. Асобны стэнд прысвечаны ўраджэнцы вёскі Чамяры Ганне Іванаўне Кароль, якая прайшла праз панскія катоўні, дачакалася савецкай улады, але была застрэлена ворагамі.

Перыяду, калі Заходняя Беларусь знаходзілася пад панаваннем буржуазна-памешчыцкай Польшчы, прысвечана шмат матэрыялаў. Тут фатаграфіі аднавяскоўцаў, што прымалі актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху (Сямён Хвясеня, Якуб Міско і другія), арыгіналы і фотакопіі падпольных газет, судовыя прыгаворы.

Пачэснае месца займаюць фотаздымкі землякоў, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму. На нас глядзяць сямнаццаць юнакоў: сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта Феакціст Захаравіч Міско, воін Савецкай Арміі Іван Міхайлавіч Хвясеня і другія.

Усе матэрыялы падаюцца ў храналагічным парадку, ад суровых гадоў падпольнай і ўзброенай барацьбы да аднаўлення і будаўніцтва светлага жыцця. На фотаздымках, малюнках і ў лічбах паказаны культурнае і гаспадарчае будаўніцтва на вёсцы,

рост мясцовага калгаса за апошнія дзесяць гадоў. Вісяць фатаграфіі ардэнаносцаў і іншых выдатных землякоў.

Многа матэрыялаў ілюструе жыццёвы шлях земляка — акадэміка Андрэя Якаўлевіча Пракапчука. Школьнікі наведалі яго ў Мінску, прывезлі шмат фатаграфій. Акадэмік таксама не забывае чамяроўцаў, трымае са школай сувязь, прыслаў у музей тры тамы сваіх навуковых прац.

На стэндзе пад загалоўкам «Зямляк-скульптар» паказаны Іван Якімавіч Міско за працай у сваёй майстэрні. Ёсць некалькі фотарэпрадукцый з яго партрэтных работ, у тым ліку — «Герой Сацыялістычнай Працы Алексіевіч», «Маці-партызанка», «Выдатніца».

Чамяроўскія піянеры і школьнікі пабывалі на экскурсіях у Брэсцкай крэпасці , на шклозаводзе «Нёман» і вярнуліся адтуль з цікавымі экспанатамі. У музеі выстаўлены 27 прыгожых узораў вырабаў сыравіны.

Воіны падарылі школьнікам чатыры бюсты: Карла Маркса, Уладзіміра Леніна, Максіма Горкага і Аляксандра Пушкіна.

Вучні трымаюць цесную сувязь са сваімі польскімі сябрамі, якія прыслалі ў музей гарцэрскі гальштук і шнуркі, шмат фотаздымкаў, у тым ліку з відамі старажытнай Варшавы.

Школьны музей з’яўляецца каштоўным дапаможнікам для вучняў і настаўнікаў, выхоўвае дзяцей у духу рэвалюцыйных і працоўных традыцый, пашырае кругагляд.

Пры разборы твору Якуба Коласа «На прасторах жыцця», дзе паказана, як калісьці моладзь выбівалася ў навуку, выкарысталі стэнд, прысвечаны акадэміку-земляку. Настаўніца беларускай літаратуры Марыя Яфрэмаўна Прохарава падмацоўвала свой прадмет

дакументамі аб жыцці пад уладай польскіх паноў, у прыватнасці, дакументам аб плаце за лячэнне. Настаўніца гісторыі Зінаіда Васільеўна Пракапенка пры праходжанні першабытна-абшчыннага ладу паказала прылады працы таго перыяду.

На занятках былі выкарыстаны музейныя матэрыялы аб айчынных войнах 1812 года і 1941–1945 гадоў.

Вучні ведаюць і любяць сваіх герояў-аднавяскоўцаў, добра вучацца і працуюць на прышкольным участку, паважаюць працу старэйшых. А фарміраваць характар і павышаць веды дапамагае школьны музей.

*1966*

## Клопаты бібліятэкара

Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы ў 1967 годзе будзе адзначаць сваё саракагоддзе. Яе нязменным загадчыкам з 19 жніўня 1946 года, дня пасляваеннага аднаўлення, з’яўляецца інвалід Вялікай Айчыннай вайны Аляксандр Іванавіч Жыткевіч. За гэты дваццацігадовы час бібліятэка вырасла да 10 тысяч кніг, стала ачагом беларускай культуры на вёсцы.

Аляксандр Іванавіч распачаў працу на грамадскіх пачатках, калі ўсю літаратуру можна было змясціць на невялічкай паліцы. Але энтузіяст пры падтрымцы мясцовага актыву дабіўся сваёй мэты. Ён звярнуўся да рассеяных па краіне землякоў з заклікам аб дапамозе — і бібліятэка пачала расці. Вельмі дапамагла Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — жонка паэта Янкі Купалы, чыё імя носіць бібліятэка. Адгукнуліся беларускія пісьменнікі, прысылаючы ў Кракотку творы мастацкай і палітычнай літаратуры.

Гэта — мінулае, але мы напамінаем аб ім, каб паказаць, чаго можна дасягнуць пры гарачым стараннi.

Зараз бібліятэка налічвае 421 чытача. Не ўсе яны прыйшлі самі. Каб ахапіць усіх пісьменных людзей, Аляксандр Іванавіч арганізаваў дзве перасоўкі, падабраў для іх грамадскіх загадчыкаў. У вёсцы Малая Кракотка вечарамі выдае калгаснікам кнігі Іван Маркевіч, а ў Рудаўцы — вучаніца 11-га класа Марыя Арочка. Дапамагаюць таксама вучні 7-га класа Стась Маркевіч, браты Лёня і Віця Ігнатовічы і другія. Састарэлым чытачам яны разносяць па хатах кнігі. Сямідзесяцігадовы Іван Андрэевіч Трафімовіч так палюбіў літаратуру, што без кнігі не можа прабыць ні аднаго дня.

Жаданым госцем у Сцяпана Масальскага і інваліда Міхаіла Аўхачова з’яўляецца дзевяцікласнік Лёня Акулевіч. Ён у бібліятэцы падмяняе загадчыка, калі той па справах выязджае ў горад.

Загадчык бібліятэкі паклапаціўся пра тое, каб кожны наведвальнік мог азнаёміцца з перадавікамі калгаснай вытворчасці, з вынікамі іх працы. На сцяне вісяць і штомесячна абнаўляюцца паказчыкі двух спаборнічаючых калгасаў (імя Дзяржынскага і «Чырвонага партызана»).

У чытальнай зале ёсць выстаўкі літаратуры: «Агратэхніка паляводства», «Заатэхнія жывёлагадоўлі» — і шматлікія стэнды. Адзін са стэндаў паказвае аб жыцці і творчасці нашых народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Цікавы стэнд «Наш зямляк Валянцін Таўлай», дзе ёсць фатаграфіі паэта са сваёй маці, на адпачынку ў Крыму, у слонімскай дэфензіве, дзе рукапісы вершаў. На стэндзе «Яны аддалі жыццё за Радзіму» — 36 фотаздымкаў жыхароў калгаса імя Дзяржынскага, а

далей прадстаўлены стэнд аб вайне «Гэта не павінна паўтарыцца».

Асабліва мнагалюдна ў бібліятэцы вечарамі. Моладзь і старэйшыя прыходзяць паглядзець тэлевізар.

У 1967 годзе спаўняецца 50-годдзе савецкай улады. Аляксандр Іванавіч Жыткевіч рыхтуе стэнд да гэтай гістарычнай даты — «Барацьбіты за Савецкую ўладу на Слонімшчыне», пашырае стэнд і рыхтуе альбом на тэму «Яны змагаліся за Радзіму».

Многа клопатаў у загадчыка бібліятэкі, і ўсе яны накіраваны на павышэнне культуры вёскі.

*1966*

## Прыгожае — людзям

Бывала, выбежыць Пеця на вуліцу і глядзіць удалячынь. Па небе плывуць і плывуць белыя хмары і недзе знікаюць, садзяцца за гарой. Аднойчы, нікому нічога не сказаўшы, выбраўся на мяжу і пайшоў туды, дзе прападалі лёгкія воблачкі. Вельмі цікава было ведаць, што там робіцца.

І вось стаіць ён на гары, углядаецца. Там, далёка, чарнее лес… А хмаркі не садзіліся, як яму раней здавалася, а працягвалі свой шлях за чорную лясную паласу.

Неўзабаве хлопец пайшоў у школу, дзе яму шырэй адкрыўся белы свет. У буквары быў такі малюнак: людзі капаюць бульбу, недалёка ад іх на лугавіне пасуцца каровы, пастухі кладуць агонь і пераскокваюць праз дым, які тоўстай кудзеляй сцелецца па зямлі. А што, каб самому намаляваць такую карціну?

З той пары на вокладках Пецевых сшыткаў пачалі з'яўляцца хаты з саламянымі стрэхамі, коні, каровы, лес…

Пётр Іванавіч Слезнік нарадзіўся ў 1929 годзе на Слонімшчыне, у вёсцы Угрынь (цяпер Мастоўскага раёна). Хлопец рана пачаў прыкмячаць прыгажосць роднага краю. Таму, мабыць, і пацягнула маляваць цудоўныя беларускія краявіды.

Дзе ні быў, усюды маляваў. Для гэтага не хапала толькі спецыяльнай навукі. А жыццё патрабавала многага. Працуючы ў Слонімскім народным тэатры, прыйшлося ўзяцца за плакаты, дэкарацыі. Адчуваў, што трэба вучыцца. І ён паступае завочна на двухгадовыя курсы мастакоў народных тэатраў і мастакоў-афарміцеляў, якія нядаўна закончыў.

Многія гледачы бачылі ў нашым народным тэатры спектаклі па п’есах «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Апошнія» М. Горкага і іншыя. Дэкарацыі да гэтых спектакляў рабіў Пётр Іванавіч.

Дэкарацыі патрабуюць не меншага ўмення тварыць, чым маляванне пейзажаў. Дэкарацыя спектакля, як ілюстрацыя ў кнізе, павінна ўпрыгожваць, дапаўняць твор, ствараць суцэльнае ўражанне.

Зараз Пётр Слезнік працуе мастаком у раённым аб’яднанні «Сельгастэхніка», афармляе плакаты, наглядную агітацыю. Вучоба ў мастацкай школе і сустрэча з мастакамі розных жанраў дапамаглі яму глянуць на свет іншымі, чым раней, вачыма.

Пётр Іванавіч расказвае, што нават ён, чалавек з «мастацкім ухілам», на вуліцах горада раней не заўсёды заўважаў халтурныя плакаты і дэкаратыўныя ўпрыгожанні. А што казаць пра звычайнага працаўніка. Ён прывыкае да безгустоўнасці такіх «карцін», робіцца абыякавым гледачом. Толькі сапраўднае мастацтва, у якім бы жанры яно ні падавалася, можа вобразна адлюстраваць рэчаіснасць,

узняць настрой, выклікаць у чалавека творчую дзейнасць.

Пётр Іванавіч Слезнік поруч з плакатнай работай не забывае і пейзажную. Яго пейзажы ваколіц Шчары і Ісы захапляюць сваёй свежасцю і непасрэднасцю. Добрае ўражанне ствараюць карціны з выглядамі палёў вёскі Талькаўшчына і аднаго з гарадскіх архітэктурных помнікаў.

Творы П. І. Слезніка ў 1961 годзе дэманстраваліся на раённай выстаўцы. Мастак некалькі разоў удзельнічаў на абласной выстаўцы і быў адзначан там ганаровай граматай за лепшае выкананне работ народнай творчасці.

Я зноў узнімаю пытанне аб арганізацыі ў Слоніме выстаўкі твораў нашых мастакоў. Гэта будзе мець вялікае культурнае значэнне. Наш горад-партызан, горад-працаўнік варты гэтага.

*1966*

## Калі б помнік мог гаварыць…

Вясной 1944 года, будучы ў партызанах, мне ўпершыню давялося праходзіць гэтымі мясцінамі. Тады тут шумелі магутныя сосны. У адным месцы на ўзлеску, каля невялікага, зараслага травой возера, мае баявыя сябры спыніліся. Адзін з іх, паказаўшы на высокае, цёмнага колеру быллё, ціхім голасам сказаў:

— Тут немцы палілі людзей.

З той пары прайшлі дваццаць два гады. Сёлетняй вясной я праязджаў праз тыя мясціны. Краявід змяніўся, не было высокіх дрэў, на іх месцы вырас буйны сасняк.

А там, дзе на чалавечай крыві ў гады апошняй вайны шугаў угару быльнёг, на брацкай магіле стаіць помнік. Ён нібы выйшаў з густога зарасніку

насустрач — нечакана, з маўклівай жалобнай урачыстасцю... Сціплая агароджа. На цэментным абеліску надпіс: «Тут спачываюць жывымі спаленыя нямецкімі захопнікамі 113 мірных грамадзян і партызаны Фідрык А. В., Міхальчык К. П., Філёнчык Н. В., Міхальчык А.»

Калі б помнік мог гаварыць...

Няхай гэта зробяць тыя, каму ўдалося вырвацца з крывавых лапаў фашыстаў.

Гэта было 22 верасня 1942 года. Ніна Піліпаўна Міхальчык са сваёй малодшай сястрой Лідай Філёнчык рыхтаваліся капаць бульбу.

— Ліда, чаму мне нічога не хочацца рабіць?

— Ці ж я ведаю...

Не паспела сястра адказаць, як данёсся рокат машын. Немцы! Дзяўчаты хацелі ўбегчы ў лес, але было ўжо позна. З таго боку сунуліся грузавікі.

Вёску акружылі. Карнікі з некаторых хат пачалі забіраць людзей і зганяць у вялікае гумно. Ніна з Лідай цераз гарышча непрыкметна перабраліся ў суседаву хату, што была пад адной страхой. Яны залезлі на печ да старэнькага дзеда. У сваёй хаце засталіся маці, бабулька, сямігадовы Аляксандр і трохгадовая Ніна дачушка Ірынка.

Неўзабаве за сцяной пачуліся выстралы і крыкі дзяцей. Гэта карнікі застрэлілі на ложку бабку, а маці з дзецьмі пагналі з хаты.

Заглянулі і да суседзяў, дзе схаваліся сёстры. Але, нічога не заўважыўшы, салдаты вываліліся за парог.

Апоўначы зноў загулі машыны. Карнікі вывозілі арыштаваных у былы памешчыцкі маёнтак Андрэева.

У тую трывожную ноч у Залессі было схоплена і адпраўлена ў Андрэева шмат людзей. У Мікалая Васільевіча Русецкага, які знаходзіўся ў партыза-

нах, фашысты забралі бацьку, брата Іосіфа з жонкай Марыяй і сынам Валодзем. З сем'яў партызан Міхальчыкаў — Васіля і Аляксандра (Нінінага мужа) — укінулі ў машыну бацьку, маці, Васілёву жонку Ганну з трохгадовым сынам і з малым дзіцем, якое толькі што нарадзілася ў вясковым гумне. Тыя, што заставаліся ў вёсцы, прасілі салдат аддаць ім гэтае двухгадзіннае дзіця, але ў адказ пачулі грубыя насмешкі і словы: «І з яго вырас бы такі ж бандыт».

Уладзімір Філёнчык страціў тады бацьку, маці і двух братоў.

У той жа дзень карнікі ўварваліся і ў суседнія вёскі Загор'е і Заверша, дзе таксама схапілі шмат жанчын, старых і дзяцей.

Калі ў Залессі, Загор'і і Завершы не засталося «заражаных бальшавіцкай заразай» грамадзян, у тым ліку двухгадзіннага, яшчэ безыменнага «бальшавіка» (карнікі глядзелі ў складзены здраднікам Радзімы спіс), ноччу 22 на 23 верасня над Андрэевым узнялося крывавае зарыва. Гэта гарэла гумно, а ў ім 73 чалавекі...

*

Ніну і Ліду суседзі хавалі ў гумнах і хлявах. Калі фашысты пакінулі свае «пазіцыі» ў вёсцы, тыя пайшлі ў партызанскі атрад.

Перад кастрычніцкім святам карнікі наляцелі на вёску Залессе ў другі раз. Зноў затрашчалі аўтаматы, зноў палілася нявінная кроў. Пасля кожнага налёту фашыстаў і іх халуёў на Залессе, Загор'е і Заверша павялічвалася брацкая магіла ў Андрэеве.

Аднойчы на Залессі «гулялі» п'яныя паліцаі. Яны знайшлі ў адной хаце партрэт Аляксандра і

Ніны Міхальчыкаў. Партрэт павесілі на плот і давай страляць. Але ні адна куля не трапіла ў партызан. Асабліва раз'юшыўся няўдачай страляніны стайкаўскі паліцай Антон Кулак. Раззлаваныя служкі фашыстаў разарвалі партрэт на дробныя кавалачкі…

*

Ступіўшы на нашу зямлю, нямецка-фашысцкія захопнікі адразу пачалі расстрэльваць, паліць жывымі мірных людзей. У адказ на фашысцкія зверствы з кожным днём нарастала народная помста. Уклад у разгром ворага ўнеслі і залескія партызаны Аляксандр і Васіль Міхальчыкі, Мікалай Русецкі, Уладзімір Філёнчык, Ніна Міхальчык, Ліда Філёнчык, Іосіф Сушко з Заверша і іншыя.

Аляксандр Лявонавіч Міхальчык, які ў партызанах камандаваў атраднымі разведчыкамі, пасля вызвалення Слонімшчыны працаваў у міліцыі, вёў барацьбу з фашысцкімі недабіткамі, якія яшчэ хаваліся па лясах.

На адным з хутароў Азярніцкага сельсавета засела бандыцкая шайка. 25 снежня 1945 года Аляксандр Лявонавіч у баі з гэтай шайкай быў смяротна паранены. Яго сыну Аляксандру было тады шэсць месяцаў.

Так і вырас хлопец без бацькі, прыняўшы ад яго баявую эстафету. Зараз малады Міхальчык служыць у арміі, стаіць на варце нашай мірнай працы.

*1966*

# Ішоў герою сямнаццаты…

— Чаму ты не кладзешся спаць? — крычала маці на Ваню Дабрыяна, калі той прыцемкам, як мыш, вышмыгваў за дзверы.

Але гэтыя паводзіны хлопца не сведчылі аб непаслушэнстве. Ён кіраваўся іншымі, высакароднымі меркаваннямі, хоць яму яшчэ не споўнілася чатырнаццаці гадоў.

Гутарка ідзе аб тым часе, калі Слонімшчына трапіла пад акупацыю нямецкіх фашыстаў. У вёску Какошчычы ўрываліся на аўтамашынах узброеныя гітлераўцы, забіралі харчовыя прадукты, жывёлу, расстрэльвалі сялян. Ваня прыглядаўся да гэтых злачынстваў, і ў сэрцы разгараліся гнеў і нянавісць да ворага.

Аднойчы да Дабрыяна, засопшыся, прыбег сябар Коля Шынкевіч і кажа:

— Ты ведаеш, нашы хлопцы збіраюць зброю, патроны і носяць у лес.

Гэтая вестка Ваню зацікавіла, але не здзівіла. Ён і сам схаваў у кустах некалькі скрынак з патронамі і гранатамі, а вінтоўкі і кулямёт кінуў у сажалку, што была каля вёскі. І ўсё ж навіна зрабіла пераварот у жыцці хлопца.

Ваню цікавіла не толькі зброя, але і розная тэхніка. Ён разабраў, а потым склаў матор разбітай аўтамашыны, каб пазнаць прынцып работы рухавіка. Трапіла ў рукі трохрадка — навучыўся іграць.

Аднойчы за гумнамі пачуўся ціхі выбух. А праз хвіліну ў хату ўбег з акрываўленымі пальцамі Ваня. Стары Язэп глянуў на сына і сказаў:

— Неасцярожны ты, хлопча. Так можна і загінуць.

Ваня і сам разумеў гэта, але было ўжо позна: кончыкі двух пальцаў паляцелі ў паветра. Пракляты капсуль. Больш такога не здарыцца.

А здарылася горшае…

У 1942 годзе на чыгунцы і шашы пачалі дзейнічаць партызанскія групы. Падпольшчыкі-антыфашысты таксама пачалі выходзіць на аперацыі, раскідвалі надрукаваныя на машынцы лістоўкі. Ваня Дабрыян не раз выходзіў на шашу парушаць тэлефонна-тэлеграфічную сувязь.

…Насупраць хаты нечакана спынілася нямецкая машына з паліцаямі і эсдоўцамі. Уцякаць было позна. Ды Ваня і не думаў, што прыехалі па яго. Загадалі апрануцца, пасадзілі ў кузаў і павезлі ў Слонім.

З той пары маці не знаходзіла спакою. За лёс хлопца трывожыліся ўся сям'я і аднавяскоўцы, бо з СД жывым мала хто выходзіў. Некаторыя баяліся, што хлопец не вытрымае катаванняў і выдасць тых падпольшчыкаў, каго ведае.

Білі Ваню колькі хацелі, дамагаліся, каб ён сказаў, хто ходзіць у лес да партызан. Але ён гаварыў адно: «Не бачыў, не ведаю». Неўзабаве хлопца выпусцілі ледзь жывым.

З той пары малады Дабрыян прысягнуў сабе, што будзе помсціць захопнікам, пакуль будзе жыць на свеце. Толькі вось бяда: колькі разоў прасіўся ў партызаны, а яны не бяруць з сабой, кажуць, што яшчэ малы. А чаму фашысты не глядзелі, што малы, — зрэзалі шомпаламі спіну!

Прайшло колькі часу, пакуль малады мсціўца выбраўся ў лес. Ён не хацеў ісці туды з голымі рукамі, хоць асабістая зброя была, як кажуць, пад рукамі. Трэба ж дастаць з сажалкі вінтоўкі. І ён, як толькі ачысцілася вада ад лёду, нырнуў на дно стаўка. Цела

пякло, як агнём, але зброя ляжала на беразе. Яна нават мала заржавела, хоць салідолу на зброі ўжо не было.

Ваня Дабрыян перадаў партызанам 5 кулямётаў, 16 вінтовак, 8 пісталетаў, 25 скрынак вінтовачных патронаў. Назаўтра ўстаць не змог — запаленне лёгкіх.

Перамог хваробу. У лес Воўчыя Норы, дзе размяшчалася партызанская брыгада імя Ракасоўскага, юнак прыбыў незадоўга да разгрому партызанамі варожага гарнізона ў вёсцы Пляшкі.

Наступ на гарнізон пачалі з усіх бакоў перад світаннем. Два сябры — Ваня Дабрыян і Коля Шынкевіч — былі поруч, кароткімі перабежкамі набліжаліся да ўмацаванай фашыстамі вёскі. Хутка Ваню ранілі ў нагу і ён не мог далей паўзці. Колі побач ужо не было. А ззаду ляжала некалькі нерухомых таварышаў.

Бой закончыўся перамогай партызан. Гарнізон быў знішчаны поўнасцю, але загінула некалькі народных мсціўцаў, сярод іх і Коля Шынкевіч.

— Доктар, калі я ўжо ўстану? — часта дапытваўся юнак.

— Ляжы, ляжы, — кожны раз чуўся кароткі адказ.

Нага балела, але юнак упарта трэніраваўся, спрабаваў хадзіць без кія.

Ваня паступова ўцягваўся ў штодзённыя партызанскія будні. І нарэшце настаў час, калі пайшоў з групай пад Азярніцу. Гэта было таксама перад світаннем. Партызаны ляжалі недалёка ад чыгуначнага палатна. Калі з захаду пачаў нарастаць характэрны грукат цягніка, а нямецкія вартавыя адышліся ад таго месца, адзін з партызан мігам апынуўся ля рэйкі. Міна была закладзена ўдала. Паравоз толькі

параўняўся з выбраным партызанамі арыенцірам, як угару шугануў вогненны слуп. Паравоз і некалькі вагонаў зляцелі пад адхон. Уцалелыя нямецкія салдаты паднялі бязладную страляніну. Але падрыўнікі былі ўжо далёка.

Так у штодзённых паходах, у баях і засадах праходзіў час. А зводкі Саўінфармбюро паведамлялі, што наша армія гоніць фашыстаў з Беларусі. Партызаны ўзмацнілі ўдары па чыгуначных і шасэйных шляхах. Немцы асабліва пільна ахоўвалі брэсцкую дзвюхкалейную магістраль. Але партызаны не давалі ворагу спуску.

Хадзілі туды не раз і партызаны брыгады імя Ракасоўскага.

Было гэта летам, 13 чэрвеня 1944 года. Група партызан, у якой знаходзіўся і Ваня Дабрыян, вярталася з аперацыі на чыгунцы і заднявала каля адной вёскі. І тут на жменьку партызан наскочыў нямецка-паліцэйскі атрад. Завязалася перастрэлка. Ваня з групай прыкрываў таварышаў. Адразу ён не адчуў болю, толькі па целе пабегла нешта гарачае. Гэта з раны ў грудзях сачылася кроў. Падняцца на ногі партызан не змог. Толькі адстрэльваўся да апошняга патрона.

Калі кальцо насядаўшых карнікаў звузілася і стала зразумела, што мсціўца возьмуць у палон, прыйшлося прыняць апошнія меры. З маланкавай хуткасцю ў галаве прамільгнулі звярыныя катаванні ў СД і словы камісара: «Туды табе лепш не пападаць…» Ваня моўчкі развітаўся з сябрамі і прыклаў дула нагана да правай скроні…

Так загінуў народны мсціўца, якому ішоў сямнаццаты год.

Назаўтра баявыя сябры прывезлі ў атрад пакалечанае цела Івана Іосіфавіча Дабрыяна. Пахавалі яго з

воінскімі ўшанаваннямі. А насценная газета «Чырвоны партызан», якая цяпер экспануецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі, змясціла аб маладым партызане біяграфічную даведку і прачулы артыкул.

Не забыты адважны юны патрыёт і цяпер. Адзін з піянерскіх атрадаў чацвёртай сярэдняй школы г. Слоніма з гонарам носіць імя Вані Дабрыяна.

*1966*

## Артыстка народнага…

Здарылася так, што сям'я ў 1922 годзе апынулася ў рэвалюцыйнай вёсцы Заполле Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён). Ні зямлі, ні хаты. І былы чыгуначнік, пасяліўшыся ў братоў, пайшоў у панскі маёнтак шукаць работу.

А яго дзесяцігадовая дачка Фаня, чатырохкласніца, паступіла ў трэці клас польскай прыватнай школы. Бацька выбіваўся з сіл, а здольную дачку вучыў. Фаня вучылася добра, хоць яе не захапляла панская «культура», якая пачыналася на паліцэйскім пастарунку, а канчалася ў дэфензіве і турме. Дзяўчыну вабілі вясковыя вечарынкі, дзе моладзь спявала народныя задушэўныя песні і баявыя рэвалюцыйныя маршы. Не раз паліцаі разганялі моладзь. І тады, прыйшоўшы дадому, яна ніяк не магла заснуць — перад вачыма стаялі яе сябры. Здаецца, усё аддала б, каб першамайскім ранкам прайсціся дружнай грамадой са сцягамі і кветкамі па мнагалюдных вуліцах…

Праляцелі тры гады. Фаня стала «артысткай». Удзельнічала ў хоры і драматычным гуртку. Хлопцы падбіралі такі рэпертуар, які адлюстроўваў беспрасветнае жыццё вёскі, узнімаў шчаслівы настрой. Дзяўчына бачыла са сцэны, як кончыкамі хустак

выціраюць цёткі вочы, калі героя п’есы царскія жандары закоўваюць у ланцугі.

Бачыла гэта і паліцэйскае вока. І на Заполле навалілася бяда: паліцыя забрала бібліятэку, касцюмы, музычныя інструменты.

Прабеглі яшчэ сем гадоў. Феафанія Лявонцьеўна закончыла Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і пайшла па вёсках вучыць сваіх жа беларускіх дзяцей. За ёю след у след крочыла любоў да мастацкай самадзейнасці. У другой вёсцы, якая таксама называлася Заполле, маладая настаўніца стварае хор дарослых, удзельнічае ў драматычным гуртку, ставіць камічны вадэвіль «Збянтэжаны Саўка».

Але і тут не далі доўга папрацаваць, перавялі ў другое месца.

Калі савецкая ўлада прыйшла ў наш край у 1939 годзе, Феафанія Лявонцьеўна прыбыла на Слонімшчыну, у Азярніцкую школу. Там арганізавала харавы і драматычны гурткі. У 1940 годзе азярніцкія ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці занялі першае месца на раённым аглядзе і атрымалі прэмію.

Настаўніца не толькі вучыла чытаць і пісаць сваіх вучняў, але прывівала любоў да працы, мастацтва, да Радзімы. Невыпадкова, калі прыйшлі нямецка-фашысцкія захопнікі, увесь 6 «В» клас Азярніцкай школы пайшоў у партызаны, каб са зброяй у руках адстаяць права на навуку.

Саша Аляксейчык стаў знатным падрыўніком, пусціў пад адхон шмат варожых эшалонаў. Удзельнік школьнай мастацкай самадзейнасці Сяргей Сянкевіч, які меў цудоўны голас, загінуў ад рук гітлераўскіх варвараў. Загінула ў барацьбе за Радзіму яшчэ некалькі вучняў. Былая вучаніца 6 «В» класа Люба

Грыцалевіч цяпер перадавая даярка калгаса «Прагрэс».

У 1944 годзе, калі раён зноў стаў свабодны, Феафанія Лявонцьеўна Ракевіч стала працаваць у трэцяй гарадской школе Слоніма.

Феафанія Лявонцьеўна — нястомны чалавек. У яе хапіла энергіі працаваць, закончыць завочна Баранавіцкі настаўніцкі інстытут і ўвесь час прымаць удзел у мастацкай самадзейнасці.

Сямнаццаць гадоў Ф. Л. Ракевіч выкладае беларускую мову і літаратуру ў другой сярэдняй школе і да 1954 года кіравала школьным драмгуртком. Яна з’яўляецца нязменнай артысткай драматычнага калектыву Слонімскага раённага Дома культуры.

Вялікую папулярнасць самадзейная артыстка заваявала ў вадэвілі Г. Стэфанскага «Нячыстая сіла», выконваючы ролю варажбіткі. Гэтая пастаноўка ішла ў нашым раёне, у Баранавічах і ў Мінску, можа, разоў пяцьдзясят. На дэкадзе ў Мінску ў 1958 годзе слонімскія артысты занялі першае месца. Драматычнаму калектыву РДК аднаму з першых у рэспубліцы было прысвоена званне народнага тэатра. Шэсць артыстаў, у тым ліку і Феафанія Лявонцьеўна, удастоіліся звання артыстаў народнага тэатра.

Пасля гэтага шмат розных вобразаў стварыла Ф. Л. Ракевіч. «Глыбокая плынь», «Выгнанне блудніцы», «Палкоўнік неспакойнай службы», «Чужое дзіця», «Мой сын», «Меч і зоркі», «Жыццё і злачынства Антона Шэлеста» (школьны спектакль) — вось няпоўны пералік п’ес, у якіх запомнілася гледачам здольная артыстка Ф. Л. Ракевіч. Па прыкладу сваёй старэйшай сяброўкі ў народны тэатр прыйшлі настаўнікі Яўген Іванавіч Панкоў, Лілія Міхайлаўна Літвіненка, Кацярына Фёдараўна Палішчук.

Зараз народны тэатр рыхтуе п'есу «Ігла і штык», дзе Ф. Л. Ракевіч іграе ролю жонкі чырвонаармейца. Пажадаем, каб і гэтая роля ўдалася ёй не горш, чым прафесіянальнай артыстцы.

*1966*

## Хатні архіў

Невялікі гэты архіў калгасніка сельгасарцелі імя Леніна Пятра Несцеравіча Дабрыяна. Але ён беражэ дакументы як памятку барацьбы з белапольскай акупацыяй.

Жыхар вёскі Сяргеевічы Пётр Несцеравіч Дабрыян у часы буржуазнай Польшчы, у 1925 годзе, выпісваў з Вільна газету «Беларуская доля». Калі паны закрылі гэтую газету, замест яе пачала выдавацца «Іскра», якая таксама прыходзіла многім сяргеевіцкім падпісчыкам. Паліцыя не раз урывалася ў вясковыя хаты і пад выглядам пошукаў камуністычнай нелегальнай літаратуры забірала легальную беларускую прэсу.

У нумары за 29 красавіка 1925 года «Беларуская доля» пісала, што да селяніна вёскі Сяргеевічы Міхася Дабрыяна з касцянёўскага пастарунка прыйшлі тры паліцыянты (у аднаго з іх на шапцы быў № 813). Яны паставілі селяніна ў куток з паднятымі ўгару рукамі, а самі пачалі шукаць у хаце падпольную камуністычную літаратуру. Не знайшлі. Аднак забралі некалькі нумароў «Беларускай долі» і кніжачку «Як адкрыць беларускую школу».

Прыходзіла паліцыя шукаць камуністычныя кнігі і да Пятра Несцеравіча, але не знаходзіла нават легальных газет, бо падпісчык хаваў іх у саламяную страху.

25 жніўня 1926 года Пётр Несцеравіч Дабрыян уступіў у масавую Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. Калі ў 1927 годзе Грамада была разгромлена паліцыяй і пачаліся арышты яе членаў, П. Н. Дабрыян схаваў у страху свой членскі білет.

Нядаўна калгаснік разбіраў стары хлеў і знайшоў у страсе грамадаўскі білет № 8361, адзін экзэмпляр газеты «Іскра» і чатыры нумары «Беларускай долі», з якіх адзін нумар аддаў у музей Мяльканавіцкай васьмігадовай школы.

*1966*

## Ён быў разведчыкам

Бацьку не давялося пабачыць сына. Камандзір роты Іосіф Быстрыцкі быў ранены белымі і ў 1919 годзе памёр ад гангрэны.

У памяць чырвонага камандзіра сына таксама назвалі Іосіфам. І хоць малы гадаваўся без бацькі, але па матчыных расказах, здавалася, мог бы намаляваць яго на кані і з шабляй у руках.

Цяжка даводзілася сям'і ў час белапольскай акупацыі. А пра гітлераўскую — і казаць няма чаго. Пойдзе, бывала, Юзік на сустрэчу з партызанамі, а ў жанчыны, якая жыла на хутары каля вёскі Стайкі, сэрца замірае: што калі зловяць альбо пакалечаць сына?

Аднак усё абышлося добра. У 1944 годзе савецкія войскі прагналі немцаў з нашай зямлі. Іосіф Быстрыцкі таксама пайшоў дабіваць фашыстаў.

Спачатку юнака накіравалі ў запасны полк. А фронт няспынна рухаўся на захад. Маладыя курсанты хваляваліся, што не паспеюць паваяваць, прасіліся на перадавую. Тым часам каля горада

Торн нашы часці, раскалоўшы моцную нямецкую групоўку, пайшлі наперад. Тады камандзір паслаў хлопцаў у разведку.

Яшчэ добра не развіднела, як Быстрыцкі і старшына роты непрыкметна зайшлі ў вёску. Цішыня. І толькі ў адной хаце на гары нешта заварушылася. Іосіф, доўга не думаючы, палез туды па драбіне. Добра, што не разгубіўся, бо там з кулямётам, вінтоўкамі і гранатамі сядзела сем нямецкіх салдат.

— Пакласці зброю! — рашуча скамандаваў савецкі воін.

Немцы ад нечаканасці падумалі, што вёска занята, што не варта супраціўляцца, і адкінулі ад сябе вінтоўкі і гранаты…

У другіх зручных для нямецкай абароны месцах два савецкія воіны ўзялі ў палон яшчэ 12 варожых салдат і афіцэраў. Потым раздабылі ў вёсцы дзве падводы. На адну з іх паклалі трафеі і разам з дзевятнаццаццю палоннымі рушылі да сваіх.

Добра справіліся з заданнем і другія курсанты. Назаўтра ўсім прысвоілі званне малодшых сяржантаў і накіравалі ў дзеючыя часці. Так пачаліся для Іосіфа імклівыя паходы, франтавыя баі, фарсіраванне рэк.

…Гітлераўцы рашылі затрымаць савецкае наступленне. Вялікае, як акінуць вокам, тарфяное балота яны затапілі вадой. Быстрыцкі ў ліку пятнаццаці чалавек ноччу пайшоў у разведку. Доўга ішлі па пояс у вадзе, потым уваліліся ў глыбокі магістральны канал і нарэшце дайшлі да ўзгорка. Пачыналася поле. Немцы спакойна сядзелі ў траншэях. Яны не думалі, што можна непрыкметна перабрацца праз шырокі водны рубеж.

Заданне ў хлопцаў было такое: правесці разведку боем і ўзяць «языка». Яны падпаўзлі да аплеценай

лазою траншэі, закідалі немцаў гранатамі і з крыкам «ура» ускочылі ў акопы. Перапалоханыя немцы пачалі ўцякаць. Савецкія воіны захапілі ў палон 17 нямецкіх салдат.

Двое байцоў павялі палонных. А ў гэты час у другой траншэі фрыцы апамяталіся і пайшлі ў контратаку. Адважныя разведчыкі адыходзілі пры святле ракет, пад агнём варожых кулямётаў і фаўст-патронаў. Іосіфа Быстрыцкага моцна ўдарыла па назе. Ён упаў з абрыву і доўга ляжаў нерухома ў вадзе. Калі згаслі ракеты, пачаў адыходзіць.

Хлопцы заданне выканалі, але вярнуліся не ўсе. Пасля допыту палонных наша камандаванне павяло наступленне ў абхват. У гэтым баі разведчыкі захапілі спраўны нямецкі транспарцёр, на якім рабілі смелыя налёты. Мабыць, сярод немцаў разнеслася вестка аб адважных разведчыках. Аднойчы, нягледзячы на нямецкія апазнавальныя знакі, на транспарцёр наляцела сем «месершмітаў». Быстрыцкі не памятае, што адбылося, бо страціў прытомнасць ад ранення ў галаву. Байцы потым расказалі, як нямецкія самалёты разбамбілі транспарцёр.

Шмат было жорсткіх баёў і цікавых эпізодаў. Дзень Перамогі Іосіф Быстрыцкі адсвяткаваў пад Берлінам.

*1966*

## «Яны не сталі на калені»

Пад такім загалоўкам выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет зборнік успамінаў і дакументаў аб канцэнтрацыйным лагеры Бяроза Картузская. Гэта ўжо трэцяя кніга аб жудасным месцы зняволення, аб барацьбе і мужнасці змагароў за свабоду ў буржуазнай Польшчы. У зборніку «Яны не сталі на калені», як і ў выйшаўшай у 1963 годзе на беларускай мове

кнізе «Бягом марш!» польскага пісьменніка Міхаіла Мірскага, былога палітзняволенага Картуз-Бярозы, і ў зборніку ўспамінаў «Беразякі», выдадзеным у 1965 годзе ў Варшаве, паказваецца мужнасць і дружба людзей у барацьбе за жыццё, за чалавечыя правы.

Як толькі ў 1933 годзе прыйшлі да ўлады гітлераўцы, Германія пакрылася сеткай канцлагераў і павуціннем калючага дроту, дзе масава знішчаліся рэвалюцыянеры і ўсе прагрэсіўныя людзі. Праз год урад Пілсудскага стварыў на ўскраіне гарадка Бяроза Картузская канцлагер на гітлераўскі ўзор. Ганебны дакумент аб стварэнні гэтага лагера падпісалі прэзідэнт Рэчы Паспалітай Масніцкі, прэм'ер-міністр Казлоўскі, сам дырэктар Пілсудскі і ўсе міністры ўрада.

У лагер траплялі людзі без суда і следства, толькі па падазрэнню ў рэвалюцыйнай дзейнасці, траплялі ў неабмежаваную ўладу паліцэйскіх-садыстаў. Аднак ні ваенна-палявыя суды, ні фашысцкі лагер не змаглі стрымаць нарастання рэвалюцыйнай хвалі. Пад кіраўніцтвам камуністаў не спынялася барацьба.

Праз канцлагер за пяць гадоў прайшло каля 10 тысяч чалавек. Польская газета «Палонія» пісала, што ў Бярозе Картузскай змесціцца паўтары тысячы чалавек. Зборнік прыводзіць шмат дакументаў і фотакопій, якія сведчаць аб страшэнных здзеках лагернай адміністрацыі над зняволенымі і аб барацьбе рабочых многіх краін свету за ліквідацыю гэтага жудаснага пекла. Асабліва масавыя пратэсты супраць фашысцкага тэрору ішлі з заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх гарадоў і сёл.

Звыш сарака былых зняволеных у сваіх успамінах поўна і ўсхвалявана адлюстроўваюць малюнак паўсядзённай катаржнай працы, пабояў, здзекаў і

голаду. У зборніку змешчаны фотаздымкі і выступленне чатырох братоў з-пад Баранавіч — Емяльяна, Івана, Міхаіла і Сяргея Кунцэвічаў, якія прайшлі праз дэфензіву, турмы і канцлагер Бярозы Картузскай. Зараз два браты жывуць у Баранавічах, два другія — у Польшчы.

Заходнеўкраінскі паэт Аляксандр Гаўрылюк, які ў першы дзень гітлераўскага нападу на СССР загінуў ад фашысцкай бомбы, прадстаўлены ў зборніку вершам «Бяроза» і хвалюючай паэмай «Песня з Бярозы». Недарма радкі з гэтага выдатнага твору ўзяты эпіграфам да кнігі ўспамінаў:

Трэба вытрымаць, выстаяць трэба,
Вы мацней, чым стыхія, вы — людзі!

І яны выстаялі. Выстаялі і слонімчане Серафім Татарын, Фёдар Рыла, Іван Саланевіч, Міхаіл Шухно, Вера Іскрык, Ганна Кароль, Іосіф Адамчык, Хаім Хомскі, Георгій Кароль, Флор Ляўчук, Пётр Дабрыян і другія.

Цяжка сказаць, якое з выступленняў нашых землякоў, як і ўсіх аўтараў гэтай цікавай кнігі, больш ярка раскрывае жудасную трагедыю таго часу. Складальнікі зборніка пастараліся зрабіць так, каб да мінімуму звесці паўтарэнні. Напрыклад, загалоўкі ўспамінаў Татарына, Рылы, Саланевіча, Шухно, Леўчука гавораць самі за сябе: «Галоў не схілялі», «90 дзён у карцэры», «Помні, сын мой», «Вада і хлеб», «Здзейсненая мара».

Вось што ўспамінае адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага руху на Слонімшчыне пенсіянер Хаім Хомскі:

«1923 год. Я ў кабінеце шэфа дэфензівы Дэца.

— А ці ведаеце вы, малады чалавек, першы параграф канстытуцыі? — пытае шпік.

— Так, ведаю, — адказваю я. — Грамадзяне Польшчы маюць права вылучаць і выбіраць тых асоб, якіх яны лічаць дастойнымі.

— Памыляецеся, Хомскі. Вось я вас зараз пазнаёмлю з першым параграфам.

Ён узяў рызінавую дубінку і пачаў мяне збіваць, прыгаворваючы пры гэтым:

— Вось гэта і ёсць галоўны параграф канстытуцыі».

Гэта, як гаворыцца, толькі прымаўка. А што было ў Картуз-Бярозе, хвалююча расказвае кніга ўспамінаў «Яны не сталі на калені».

Гэты калектыўны летапіс народнай барацьбы і мужнасці, што рэдагаваў наш зямляк Якуб Міско, напамінае аб тым, якую небяспеку для чалавецтва крые ў сабе фашызм.

*1966*

## Падпольшчыца Марыя Прэшкіна

Сонечным летам Матрона Андрэеўна Прэшкіна са сваёй пятнаццацігадовай дачкой Марыяй садзіліся ў Барнауле на поезд.

— Збыліся нарэшце мары, — уздыхнула жанчына і прыпала да вакна.

За вакном пабеглі назад прывакзальныя збудаванні, пасажырскія і таварныя саставы. І з кожнай мінутай прыбліжаўся нябачаны дагэтуль, спакутаваны панскай няволяй, вызвалены Чырвонай Арміяй край — Заходняя Беларусь.

Праз некалькі дзён падарожнікаў сустракалі ў Слоніме родныя і блізкія.

І раптам — вайна…

На акупіраванай тэрыторыі фашысты грабілі, палілі, расстрэльвалі, вешалі. Прыціхлыя слонімчане

перайшлі на галодны паёк. Прыціхлыя... Гэтага хацелі акупанты. Ды не! У горад даходзілі чуткі, што на шасэйных і палявых дарогах падрываюцца на мінах нямецкія машыны, з вёсак бясследна знікаюць «паляўнічыя» за яйкамі, сяляне хаваюць ад ворагаў цёплае адзенне і прадукты харчавання.

Усе гэтыя весткі прагна лавіла маладая Марыя Прэшкіна. Ёй хацелася быць сярод тых, што знішчаў захопнікаў. Але каму аб гэтым сказаць?

Вясной 1943 года ў Слоніме пачала дзейнічаць падпольная антыфашысцкая арганізацыя. І пайшлі па людзях надрукаваныя на машынцы зводкі Саўінфармбюро. Савецкія патрыёты збіралі зброю, выкрывалі здраднікаў.

Член гарадскога антыфашысцкага камітэта, рабочы лесазавода Мікалай Мінчук, які кіраваў распаўсюджваннем нелегальнай літаратуры, часта заходзіў да Веры Рабцэвіч, што жыла на Жабінцы. Туды ж прыбягала і Марыя Прэшкіна. Аднойчы, калі ў хаце нікога не было, Вера Рабцэвіч дала дзяўчыне лістоўку, дзе пісалася, што Чырвоная Армія б’е немцаў. У дзяўчыны задрыжэлі рукі і ад радасці і захаплення пакаціліся слёзы з вачэй.

Жанчына дастала з-за пазухі яшчэ некалькі паперак:

— Нясі дадому, прачытай маме, а вечарам падкінь знаёмым, каб ведалі, што робіцца на свеце.

З той пары Марыю як падмянілі: знайшоўся рух, на вуснах паявілася ўсмешка. Ды і маладосць брала сваё, нягледзячы на жудасць і недаяданні. Гэта была прыгожая чарнявая дзяўчына.

Камандаванне і партыйная арганізацыя партызанскага атрада «Савецкая Беларусь» ставілі задачу перад гарадской антыфашысцкай арганізацыяй як

мага шырэй развіваць усебаковую разведку. Марыя працавала ўжо касірам у цырульні. Аднойчы туды пад'ехала машына з незнаёмай эмблемай, з якой вылезлі і прыйшлі галіцца два афіцэры. У абедзенны перапынак падпольшчыца пайшла не дадому, а ў Жабінку. Пад вечар нашы сувязныя панеслі партызанам вестку, што на аблаву прыбыла вялікая вайсковая часць...

Як ні старалася брахаць нямецкая прапаганда, насельніцтва ведала праўду аб падзеях на фронце.

Мы радаваліся спрыту маладой падпольшчыцы, але аднначасова і трывожыліся за яе лёс. На зернебазу, дзе працавала яе маці Матрона Андрэеўна, кожны дзень прыганялі больш сотні савецкіх ваеннапалонных на розныя цяжкія работы. Марыя Прэшкіна пачала прыносіць на базу абед маці. Тая здзівілася:

— Я ўзяла з сабой кавалачак хлеба.

— Нічога. Не пашкодзіць і гэты.

Так было два ці тры разы, пакуль не пазнаёмілася спадцішка з такім чарнявым, як сама, хлопцам. Што яны гаварылі — невядома. Толькі праз пару дзён гэты юнак і яшчэ некалькі яго сяброў на зернебазу не з'явіліся. Потым іх бачылі сярод партызан.

Здараліся і такія выпадкі, калі Марыя знікала з горада на дзень-два. Гэта ўсё рабілася «законна». Урач Кацярына Жураўлёва выдавала «хворай» бальнічны лісток, і тая ішла на сувязь з народнымі мсціўцамі. Каб падмануць паліцэйскіх, несла ў торбачцы мыла і дзесятка паўтара парашкоў з сахарынам, нібы для абмену на муку ці сала.

25 лістапада 1943 года гарадскія падпольшчыкі Слоніма панеслі вялікую страту. У гэты дзень эсдоўцы арыштавалі Мікалая Мінчука, Леаніда Сенчыка, Марыю Прэшкіну і другіх антыфашыстаў. На допытах Марыя трымалася моцна, нікога не выдала.

У першыя дні зняволення яна адкідала ад сябе ежу, якую нібы з ласкі падсоўвалі паліцаі, хадзіла з горда ўзнятай галавой.

Праз некаторы час арыштаваных вывезлі ў Калдычаўскі лагер смерці, адкуль мала хто вярнуўся. Да нас дайшлі чуткі, што Мікалая Мінчука вывезлі ў Асвенцім ці Бухенвальд, Веру Міско расстралялі ў маі 1944 года, Леаніда Сенчыка пазней, а Марыю Прэшкіну гітлераўцы знішчылі перад адступленнем.

Прайшло дваццаць тры гады. Вырасла новае пакаленне юнакоў і дзяўчат. Але памяць аб загінуўшых у барацьбе за свабоду Радзімы застанецца ў вяках. Не забудзем мы і Марыю Аляксееўну Прэшкіну, якая разам з беларускімі падпольшчыкамі-антыфашыстамі набліжала перамогу над гітлераўскімі захопнікамі.

*1967*

## Палымянае сэрца

Сонца паднялося высока, калі на захадзе пачаў нарастаць незнаёмы гул самалётаў. Потым над чыгуначнай станцыяй Івацэвічы рваліся бомбы. Вайна... Ваня Пытляк ішоў па вясковай вуліцы і добра бачыў, як з чыстага блакіту сталёвыя сцярвятнікі кідаліся на зямлю і, выйшаўшы з пікету, рабілі новы заход.

Насталі чорныя дні акупацыі. Дзевятнаццацігадовы юнак у сваёй роднай вёсцы Яглевічы ўзначаліў падпольную камсамольскую ячэйку. Работы было шмат: расказвалі людзям праўдзівыя навіны, раскідвалі па дарогах лістоўкі, падбіралі на палях баёў і хавалі ад ворага зброю.

Тым часам немцы лавілі па вёсках хлопцаў і дзяўчат і адпраўлялі на катаржныя работы. Прыходзілі і да Пытлякоў, толькі Вані не засталі дома.

Да Вані дайшлі чуткі, што ў Слоніме адкрылася настаўніцкая семінарыя, адкуль не забіралі моладзь у Нямеччыну. Не можа быць, каб там не было падпольшчыкаў, падумаў юнак і падаўся ў горад.

І не памыліўся ён. Хлопец адчуў гэта на ўроку старажытнай гісторыі, які вёў Леанід Сенчык. Тое, што настаўнік абыходзіўся без слоў «новая Еўропа», «вызвольная місія Гітлера» і г. д. шмат аб чым гаварыла.

У сваю чаргу настаўніка зацікавіў невялікага росту навічок, які нечым няўлоўным нагадваў Сяргея Ціхана, Ліду Дабрыян, Надзю Петручэню, Ніну Жыткевіч і другіх юнакоў і дзяўчат Слонімшчыны.

Празвінеў званок, абвясціўшы аб заканчэнні апошняга ўрока. Семінарысты з шумам кінуліся ў дзверы.

— А вы, Пытляк, затрымайцеся, — сказаў Леанід Іосіфавіч, закрываючы дзённік.

Невядома, аб чым гутарылі настаўнік і вучань. Толькі вечарам Ваня зрабіўся тут сваім хлопцам, прыносіў лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, нелегальныя газеты «Вольная праца» і «Барацьба», даваў дзяўчатам заданні. Член гарадскога антыфашысцкага камітэта настаўнік Леанід Сенчык быў высокай думкі аб юнаку.

Дні беглі шпарка, нягледзячы на жудасную абстаноўку ў акупіраваным горадзе. Па даносу здрадніка 25 лістапада 1943 года ў Слоніме пачаліся арышты. Арыштавалі і Сенчыка з жонкай. Амаль усе падпольшчыкі загінулі ад рук вылюдкаў. Не вярнуўся з Калдычаўскага лагера і Леанід Іосіфавіч.

А Ваня Пытляк больш за сем месяцаў яшчэ хадзіў па знявечанай, але не скоранай роднай зямлі, кідаў у народзе іскры барацьбы і сам гарэў яркім полымем.

Адзін толькі раз я сустрэўся з гэтым няўрымслівым хлопцам. Гэта было напрадвесні 1944 года, калі быў

партызанам. Па раскіслых ад вады палях і сцежках Ваня прабраўся ў вёску Глоўсевічы, каб перадаць важную тэрміновую звестку. І хоць сувязь народных мсціўцаў са Слонімам была добра наладжана і мы ведалі, што там робіцца і як жывуць уцалелыя ад арыштаў падпольшчыкі, з заміраннем сэрца я слухаў аповед сувязнога. Колькі ў ім адчувалася нястомнай энергіі да барацьбы і бязмежнай нянавісці да ворага. «Сустрэнемся ў Слоніме пасля вызвалення», — сказаў ён, развітваючыся.

Але сустрэцца з Іванам Андрэевічам Пытляком нам не прыйшлося. За шэсць дзён перад адступленнем, 4 ліпеня 1944 года, гітлераўцы расстралялі на Пятралевіцкай гары каля Слоніма апошнюю партыю з ліку 42 тысяч замучаных імі слонімскіх мужчын і жанчын, старых і дзяцей — 102 чалавекі. Сярод іх былі ўрачы Кацярына Жураўлёва і Надзея Чарняўская, фатограф Мар’ян Шадзеўскі, падпольшчыкі — бухгалтар Іван Нічыпаровіч, семінарысты Мікалай Кот, Сяргей Ціхан, Іван Пытляк…

Прайшло 23 гады з таго крывавага дня. На Пятралевіцкай гары стаіць помнік ахвярам фашызму. Ён напамінае жывым:

— Людзі, будзьце пільнымі!

*1967*

## Пайшоў настаўнік на пенсію

Бедная зямля ў сяле Бела Камянецкага раёна, што на Брэстчыне, — пяскі і балоты. Ды і тых было мала ў сялян. Жыта не хацела расці, а людзі раслі на пакуту. Вырас і Аляксандр Фёдаравіч Качан, які нарадзіўся ў вялікай, але малазямельнай сям’і ў далёкім 1888 годзе.

Як падрос, стаў пастухом. Ад снегу да снегу хадзіў босы па хмызняках і балотах і зарабляў за сезон па рублю ад каровы. Школу наведваў толькі зімой: на працягу трох гадоў у сваёй вёсцы, потым двухкласную ў Ражкоўцы і трохкласную царкоўна-настаўніцкую ў Таракані. Хоць ад сярэдзіны зімы сям'я жыла без хлеба, але бацька плаціў за вучобу 42 рублі ў год, каб толькі сын вучыўся на настаўніка і пайшоў на свой хлеб, бо зямлю ў гаспадарцы не было як дзяліць.

І з 1906 года Аляксандр Фёдаравіч — настаўнік. У сялянскай падслепаватай хаце вёскі Корсун Кобрынскага павета ўбілі ў земляную падлогу калы, прыбілі дзве дошкі — вось табе і школа. Днём вучыў такіх жа басаногіх, якім нядаўна быў сам, а ноччу спаў на гэтых дошках.

Потым настаўнічаў у Стрыях, Глінным і ў Сташыцкім пачатковым вучылішчы. Там у 29 кіламетрах ад аўстрыйскай граніцы застала настаўніка Першая сусветная вайна. Пакаштаваў бежанства і доўгіх вандраванняў на цягніках і пеша, пакуль не затрымаўся ў Днепрапятроўскай губерні.

1915–1923. Сяло Чарняўшчына, першае народнае вучылішча. Аляксандр Фёдаравіч успамінае:

— Ні грошай, ні хлеба. Многія настаўнікі кідалі вучылішча, ішлі шукаць іншую работу. А я — не. Хто ж будзе вучыць дзяцей?

І куды б яго ні перакідвалі — у Кандратаўку ці ў Хлебнае (а з хлебам і там было тугавата), энтузіяст грамадскай справы ўсюды нёс вялікую асветніцка-гаспадарчую нагрузку на карысць народа і дзяржавы. Ён інструктар валаснога аддзела народнай асветы і грамадскі суддзя, інструктар па перапісу насельніцтва, член, а потым старшыня рэвізійнай

камісіі Хлебнаўскага сельсавета, дэлегат з’езда Саветаў і сельметадыст і арганізатар ліквідацыі непісьменнасці, следчы па справах непаўналетніх правапарушальнікаў і арганізатар, кіраўнік школы сельскагаспадарчых кадраў, рэжысёр маладзёжнага драмгуртка і рахункавод кааператыўнага таварыства.

Калі над краінай навісла чорная хмара гітлераўскага нашэсця, у 1942 годзе настаўнік пайшоў у Савецкую Армію. Па стану здароўя яму не далі вінтоўку, а назначылі медстатыстыкам лазарэта, дзе ён і знаходзіўся да канца вайны.

Пасля перамогі пацягнула ў родныя мясціны. Яго накіравалі ў чацвёртую пачатковую школу Слоніма. Уласна кажучы, школы яшчэ не было, прыйшлося самому з настаўніцай Марыяй Васільеўнай Звягінай адкрываць яе, будаваць, дабудоўваць.

— У савецкіх людзей зайздросны лёс, — тлумачыць А. Ф. Качан, — будаваць.

Школа расла з кожным годам і ў 1961 годзе дарасла да дзесяцігодкі, перайшла ў новы, адзін з найлепшых будынкаў горада. У гэты час Аляксандр Фёдаравіч пайшоў на пенсію.

Але і на пенсіі няўрымслівы чалавек не ўсядзеў без работы. Яго назначылі грамадскім інспектарам аддзела народнай асветы Гродзенскага аблвыканкама.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі нястомнага працаўніка, адзначыўшы яго шматлікімі ўзнагародамі. А 18 сакавіка 1957 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Аляксандру Фёдаравічу Качану за выдатныя поспехі ў справе выхавання і навучання дзяцей і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці прысвоена званне заслужанага настаўніка рэспублікі.

На вуліцах Слоніма часта можна бачыць чалавека з доўгімі сівымі вусамі. Гэта і ёсць заслужаны настаўнік, пенсіянер Аляксандр Фёдаравіч Качан. Ветэрану ўжо 79 гадоў. Ён марыць пабываць летам у роднай вёсцы з цудоўнай назвай Бела, заглянуць у казачную Белавежскую пушчу, якая побач.

*1967*

## Па дарозе жыцця

Старэйшым вядомым літаратарам на Слонімшчыне быў Гальяш Міхайлавіч Леўчык, які нарадзіўся ў 1880 годзе ў Слоніме ў сям'і селяніна-каваля. Ён пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва» і ў 1912 годзе выдаў зборнік вершаў «Чыжык беларускі»:

«Чыжык, чыжык, дзе ты быў?»
«Я на Белай Русі жыў:
Бачыў слёзы, жалю крык,
Як гаруе там мужык…»

У 1944 годзе гітлераўскія акупанты расстралялі Гальяша Леўчыка.

У Заходняй Беларусі, якая падпала пад прыгнёт буржуазнай Польшчы, разгарнулася нацыянальна-вызваленчая барацьба.

У гэты час распачалася літаратурная творчасць нашых пісьменнікаў Піліпа Пестрака, Валянціна Таўлая і іншых таварышаў. Яны прымалі актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, прайшлі праз панскія турмы. Таму іх творы з тых часоў адлюстроўвалі цяжкую, але герагічную сапраўднасць, заклікалі народ на бой за сваю свабоду.

П. Пестрак нарадзіўся 27 лістапада 1903 года ў вёсцы Сакоўцы Слонімскага павета ў сям'і

селяніна-бедняка. Быў у бежанстве, вучыўся ў гімназіі. У 1921 годзе вярнуўся на радзіму, працаваў лесарубам і на лесапільні. У 1926 годзе ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, за рэвалюцыйную дзейнасць 11 гадоў прасядзеў у турмах. Вершы пачаў пісаць у 1927 годзе.

Піліп Сямёнавіч выдаў зборнікі вершаў «На варце», «За сваю Айчыну», «Дарожнае», раманы «Сустрэнемся на барыкадах», «Серадзібор», кнігу апавяданняў «Лясная песня» і іншыя творы.

Валянцін Таўлай нарадзіўся ў 1914 годзе ў Баранавічах, калі бацька служыў там на чыгунцы. Але дзяцінства і маладосць правёў у рэвалюцыйным асяроддзі, на бацькаўшчыне, у вёсцы Рудаўка Слонімскага раёна. Рана ён ўключыўся ў рэвалюцыйную і літаратурную дзейнасць, быў членам падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і камсамола, прасядзеў у турмах каля сямі гадоў. Давялося сядзець у астрозе і ў часе нямецкай акупацыі.

Валянцін Таўлай быў вельмі здольны і працавіты паэт. Яго творы — узор ідэйнасці і высокага майстэрства.

Памёр ён у 1947 годзе. Кнігі пачалі выходзіць пасля смерці.

За вершы, як за зброю, браліся многія барацьбіты. Пісаў іх і Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян), які нарадзіўся ў 1916 годзе ў бежанстве. І Алесь Сучок таксама прайшоў праз панскія турмы, ды яшчэ праз Картуз-Бярозу.

Інакш склаўся лёс здольнага паэта, ураджэнца горада Слоніма Сяргея Дарожнага (Сяргея Міхайлавіча Серады). Ён быў хлапчуком (1909 года нараджэння), калі ў Першую сусветную вайну бацькі завезлі на ўсход. Юнак жыў, вучыўся, працаваў і пісаў вершы ў

Мінску. Яго захапіла іншая барацьба — каб як хутчэй адбудаваць краіну.

Старонкамі новых
Напісаных кніг
Пра дні
На руінах старога
Цябе я адзначу
У вершах маіх,
Мая баявая эпоха!
Нам трэба змагацца,
Змагацца як след
У класавых бойках на фронце —
За вугаль, за нафту, за свежы хлеб,
За кожны гектар на балоце!

С. Дарожны выдаў тры зборнікі паэзіі, у тым ліку адзін у сааўтарстве з І. Плаўнікам. Памёр без пары, у 1943 годзе.

Новую старонку літаратурнай Слонімшчыны адкрылі Алег Антонавіч Лойка (нарадзіўся ў 1931 годзе ў г. Слоніме) і Мікола Мікалаевіч Арочка (нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна). Іх творчасць супала з мірнымі, пасляваеннымі гадамі і ў большасці сваёй адлюстроўвае наш гераічны стваральны час.

Алег Лойка выдаў ужо дзесяць кніг, у тым ліку пяць зборнікаў паэзіі, тры манаграфіі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура», «“Новая зямля” Якуба Коласа», «Максім Багдановіч» і дзве кніжкі вершаў для дзяцей. Неўзабаве выйдзе яшчэ адна кніга аб сучаснай беларускай паэзіі «Сустрэчы з днём сённяшнім».

Некалькі кніжак выдаў Мікола Арочка і напісаў працу пра Валянціна Таўлая.

Азіраючыся на цяжкае мінулае і сустракаючы новы светлы дзень, літаратары Слонімшчыны ідуць па дарозе жыцця, нага ў нагу з народам.

*1967*

## Гісторыя Акунінаўскай школы

У вёсцы Акунінава Слонімскага раёна доўга не было школы. Цар трымаў людзей у цемры, польскія паны рабілі тое ж самае. І толькі пад напорам працоўных была адкрыта польская пачатковая школа ў 1937 годзе. За ўсю гісторыю вёскі акунінаўскія дзеці першы раз тады селі за парты.

У 1939 годзе Чырвоная Армія вызваліла заходнебеларускія землі ад векавога прыгнёту. Савецкая ўлада адкрыла ў Акунінаве і ў суседняй вёсцы Баравікі пачатковыя беларускія школы. Гэта было вялікай культурнай падзеяй у жыцці не толькі Акунінава і Баравікоў, але і ўсіх навакольных вёсак.

А з захаду насоўвалася чорная пачварная свастыка. І ў 1941 годзе на нашых працавітых людзей, на мірныя хаты і школы пасыпаліся бомбы фашысцкіх крыжаносцаў.

Камандаванне партызанскай брыгады імя Ракасоўскага, якая базіравалася ў лясах недалёка ад Акунінава, арганізавала сямейны атрад. Туды накіроўвалі тых, хто не мог хадзіць на выкананне баявых аперацый. Цяжка было глядзець на малых, якія замест кніжак бралі ў рукі вінтоўкі. Ім надакучалі доўгая зіма, цесныя зямлянкі.

І вось прыйшла вясна, на бярозах і асінах распусцілася лісце, з зямлянак высыпалі дзеці. Яны беглі пад зялёны развесісты дуб, дзе іх чакала настаўніца. Гэта была вучаніца Азярніцкай школы Соня Ракевіч.

Дзяўчына раздала вучням па алоўку, што немаведама адкуль прынеслі разведчыкі, і па лісточку паперы, што выдзеліла са свайго невялікага запасу рэдакцыя падпольнай раённай газеты «Вольная праца». Лясныя школьнікі заселі за доўгі прымітыўны стол. А Соня пачала пісаць на чорнай дошцы, якая вісела на ёлцы, кручкі і палачкі…

Многія акунінаўскія хлапчукі і дзяўчынкі навучыліся чытаць не па букварах, а па лістоўках, што выпускаліся ў лесе на партатыўнай друкарскай машынцы.

Новы раздзел гісторыі Акунінаўскай школы пачаўся пасля выгнання з раёна нямецкіх захопнікаў. У вёсцы пабудавалі для школы дом, дзе і пачаліся нармальныя заняткі.

У 1949-1950 навучальным годзе Акунінаўская пачатковая школа ператварылася ў сямігодку, затым дабавіўся восьмы клас. Стары будынак не мог змясціць усіх вучняў, лік якіх з кожным годам павялічваўся. Праўленне калгаса «Бальшавік» зрабіла добрую справу — пабудавала для школы новае прасторнае памяшканне.

Цяпер школа знаходзіцца ў калгасным цэнтры, у вёсцы Партызанаўка. У школу і на прышкольны ўчастак калгас правёў водаправод. Люба глядзець: усюды цвітуць кветкі, на шырокай спартыўнай пляцоўцы дзеці займаюцца рознымі гульнямі.

Весела, цікава і карысна правялі летнія канікулы акунінаўскія школьнікі. Сто дзесяць вучняў старшых класаў пабывалі ў школьным лагеры працы і адпачынку. Палатачны гарадок нечым напамінаў партызанскую стаянку. На кастры, як некалі ў дні вайны, варылася прапахлая дымком страва. Днём дзеці праводзілі вясёлыя гульні, з леснікамі

даглядалі маладыя насаджэнні, вечарам слухалі расказ піянерважатай Галі Анішчык аб партызанскіх баях, спявалі песні.

Хутка Акунінаўская васьмігадовая школа будзе адзначаць сваё трыццацігоддзе. На будучы, трыццаць першы год існавання, там адкрываецца дзявяты клас. У партызанскім краі, некалі глухім закутку, будзе свая сярэдняя школа.

*1967*

## Вера ў бессмяротнасць

Вершы маладога брэсцкага паэта Міхася Рудкоўскага нельга не любіць. Праз іх можна ўбачыць родны край, шырокі свет, адчуць павышаны пульс жыцця.

Нядаўна выдавецтва «Беларусь» выпусціла другі зборнік вершаў Міхася Рудкоўскага «Сінія Брады». Бярэш у рукі гэтую невялічкую кніжачку — і трапляеш на ўлонне роднай прыроды, у маладосць і каханне, да добрых суседзяў:

Такі круты, высокі бераг
ў таемным звоне дубняку!..
Тут, чорт вазьмі, у русалку верыш,
як у суседаву дачку.

Шырокі творчы дыяпазон паэта. Ва ўсім адчуваюцца клопат аб шчасці і міры, стваральная праца чалавека:

Мой дзед быў сельскім кавалём,
кавальскай справы каралём:
калі каваць — ужо каваў,
не ў хаце — у кузні начаваў,

а баляваць — дык баляваць
і дзень, і два, і тры, і пяць.
Сякеры чахкалі ў лясах,
звінела у лугах краса,
што дзед загартаваў;
падковай высякаў агонь
на кіламетры сотым конь,
што дзед мой падкаваў.

Добрую, карысную справу рабіў дзед. А ўнук пайшоў далей — стаў паэтам. І калі яму сняцца сны, то такія, што некалі зменяць лёс планеты:

Крочу я з усмешкай у вачах
праз варожасць, недавер'е,
і — о цуд! — знікаюць ночы цені,
сонца выплывае над зямлёй,
і каго я на шляху ні стрэну —
быццам брат, вітаецца са мной.

Гэта добра, калі аўтар паэтычных радкоў здольны бачыць і прадбачыць. Гэтую здольнасць, як эстафету, ён хоча перадаць другім. Паэт не толькі бачыць ва ўсім прыгажосць і казачнасць, але сам стварае казачныя паняцці:

Замкам казачным высіцца стог,
што я кідаў з табой,
і п'яніць так салодка мурог,
і гарыць Казярог над зямлёй.

У кожным вершы М. Рудкоўскага, на якую б тэму ён ні пісаў, закладзена грамадскае паняцце. І вершы востра ўспрымаюцца чытачом, будзяць думку, выклікаюць разважанні. Чалавек мацней зліваецца з прыродай, адчувае, што ён — неадрыўная яе частка.

І прырода таксама нераўнадушная да людзей. Тым, хто яе любіць, «Над Шчарай буслы і над Бугам буслы — на крылах нясуць падарунак вясны».

Як чытаеш верш пра мядзведзя «Актор», думка адразу пераносіцца за краты турмы, дзе пакутуе зняволены.

Верыш, што паэт не супакоіцца, пакуль будзе існаваць на свеце няволя, каланіялізм, марыва атамнай вайны.

Паэт шукае выйсця для тых, хто яшчэ ў цемры. У яго «гарыць акно і сэрца па начах — і крышачку святлее ў Сусвеце». Усе радкі сваіх вершаў паэт прапускае праз сэрца, і яны становяцца жывучымі, жыццесцвярджальнымі. «Ён, чалавек, напэўна, тым і моцны, што верыць у сваё бяссмерце». І хоць чалавек усё ж адыходзіць у шлях, з якога ніхто не вяртаецца болей назад, яго справы жывуць. «Будуць пчолы раіцца і грукаць, упаўшы, ранеты, будзе сад твой ламацца пад буйнасцю спелых пладоў».

Ёсць у «Сініх Брадах» моцны верш, прысвечаны таленавітаму і пладавітаму маладому пісьменніку Уладзіміру Караткевічу, — «З песняй паэт ідзе». У гэтым вершы шмат характэрнага для самога Рудкоўскага. Таму і хочацца даць яго на заканчэнне:

Золак. Каштаны і клёны
стынуць ў світальнай расе.
Цішаю горада соннага
з песняй паэт ідзе.
Да краю бацькоўскага весняга
сэрца любоўю баліць —
з сэрца да самага месяца
цягнецца срэбная ніць…
А пачыналася песня

ў жніўнай далёкай глушы,
а вылівалася песня
з матчынай добрай душы.
Роднага краю дарогамі
ішла ад сяла да сяла,
радасці, болі, трывогі
ў сіні вянок завіла.
І не лічылася моднай —
спрахла мо тысячы мод.
Проста яна бессмяротна,
як бессмяротны народ.
І праз стагоддзе, напэўна,
ўспыхне ў світальнай красе, —
матчына слова напеўнае
новы паэт панясе…

*1967*

## Наш зямляк Піліп Пестрак

Сёння Беларусь выглядае расцвіўшай кветкай. А мы памятаем, калі яе заходняя частка, што да 1939 года была пад акупацыяй панскай Польшчы, вызначалася вершамі беларускага народнага паэта Янкі Купалы:

Горы ды каменне,
Вузкія палоскі
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі.

Іменна з такой беднай вёскі Сакоўцы Слонімскага павета і паходзіць Піліп Сямёнавіч Пестрак. Зараз Сакоўцы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Таму івацэвіцкія таварышы таксама лічаць пісьменніка

сваім земляком. Мы не крыўдзімся, добрага чалавека ўсе людзі добрай волі прымуць у сваю грамаду.

Шмат выдатных асоб выйшла ў свет з нашай Слонімшчыны. І той з іх, хто хоць крыху пакаштаваў навукі і меў прыродны талент, загараўся самым яркім полымем, станавіўся пісьменнікам. Так было з паэтам-бунтаром Валянцінам Таўлаем. Гэта адносіцца і да Піліпа Пестрака. Толькі апошні, што з'яўляецца для нас сімвалічным, пачарпнуў святло навукі ў першыя гады савецкай улады: на рабфаку і ў Самарскім універсітэце.

Апынуўшыся дома ў 1921 годзе, дзе хутка з голаду памерлі бацька, сястра і брат, будучы пісьменнік схамянуўся, ды было ўжо цяжка вярнуцца ў савецкую Беларусь: на граніцы стаялі белапольскія жаўнеры. Каб не памерці з голаду, юнак пайшоў на лесапільны завод грузіць бярвенні. Потым працаваў лесарубам і лесніком у слонімскіх купцоў, што вывозілі наша багацце за мяжу.

Лагічна, што наш зямляк у 1926 годзе ўліўся ў рэвалюцыйную плынь — уступіў у падпольную Камуністычную партыю Заходняй Беларусі і масавую легальную арганізацыю, якая называлася Беларускай сялянска-работніцкай грамадой.

І ўжо летам 1927 года П. Пестрака першы раз арыштоўваюць за рэвалюцыйную дзейнасць. У 1929 годзе — другі арышт, трэці — у 1934 годзе.

Так палымяны рэвалюцыянер — сакратар раённага камітэта партыі і культурны дзеяч — сакратар акруговай управы Таварыства беларускай школы адзінаццаць гадоў прабыў у розных турмах панскай Польшчы, пакутаваў у карцэрах, трыццаць шэсць дзён галадаў.

У віленскай турме «Лукішкі» нелегальна выдаваўся рукапісны часопіс «Краты». У 1935 годзе П. Пестрак упершыню «надрукаваў» там свой верш «Паэзія»:

Дай, паэзія, меч прамяністы,
слова-гарт, слова-кліч, слова-бой!
Дай палёт мне арліны, агністы —
гімнам-полымем біць да нябёс!
Тых начэй векавое пракляцце
кінуць громам у тых, каго знаю,
хто абуў жыццё наша ў лапці, —
ў тую чорна-крывавую зграю!

Баявая паэзія — гэта сапраўды меч на душыцеляў свабоды. Чытаючы гэты верш, не сумняваешся, што паэт сваю паэзію ставіць на службу барацьбе з ненавісным панам-прыгнятальнікам за свабоду роднага краю.

Чырвоная Армія 22 верасня 1939 года вызваліла паэта з гродзенскай турмы. З той пары і пачаўся новы этап у жыцці нашага земляка. У 1940 годзе яго выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і выйшаў першы зборнік вершаў «На варце», напісаных пераважна ў астрогах панскай Польшчы.

У Вялікую Айчынную вайну П. Пестрак быў народным мсціўцам злучэння, якім камандаваў генерал-маёр Сабураў. З 1943 года па 1945 год працаваў начальнікам упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР, з 1946 па 1948 год — старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР.

З 1951 года Піліп Сямёнавіч займаецца толькі літаратурнай працай. З-пад яго пяра выйшлі некалькі зборнікаў паэтычных і празаічных твораў, папулярны раман аб барацьбе беларускага народа з

белапольскімі акупантамі «Сустрэнемся на барыкадах», раман «Серадзібор».

У часопісе «Полымя» у 1968 годзе будзе друкавацца новы раман П. Пестрака «Лесавічанка».

Усімі аспектамі жыцця беларускага народа цікавіцца таленавіты пісьменнік. Ён часта бывае на Слонімшчыне, сустракаецца з былымі падпольшчыкамі і партызанскімі камандзірамі А. Серым і П. Булаком, наведваў вёску Дзеравянчыцы, дзе ў часы свайго леснікоўства жыў. Вось і нядаўна я атрымаў ад земляка пісьмо, у якім ён піша: «Калі прыеду ў Слонім, пойдзем з табою ў Дзеравянчыцы. Добра?»

Добра! Чакаю.

*1967*

## Партызан Вася Крайні

Пры панскай Польшчы ў Мяльканавіцкай школе Слонімскага павета шырока вялася падпольная моладзевая работа. У 1934 годзе вучні выйшлі з чырвонымі сцягамі на дэманстрацыю, дамагаючыся адкрыцця беларускай школы. Паліцыя разагнала дзяцей. І хоць Вася Крайні прыйшоў у першы клас на два гады пазней, але рэвалюцыйныя традыцыі і настрой сяброў адчуваў добра.

У верасні 1939 года настала доўгачаканая пара. Дзеці пайшлі ў беларускую школу. Вася Крайні добра вучыўся, любіў чытаць паэтычныя творы. Асабліва захапляўся вершам Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык».

Хлопец не на жарты марыў стаць лётчыкам. Кім бы ён быў, цяжка сказаць. Адно вядома, што мэты дасягнуў бы, бо меў здольнасці і вялікую ўпартасць. Але пачалася вайна і ўсё пайшло кулём.

Першыя партызаны з’явіліся на сяргеевіцкіх хутарах вясной 1942 года. Старэйшыя хлопцы, у тым ліку і Васін брат Антон, часта прападалі з хат. Яны лазілі па палях, збіралі зброю і насілі ў какошчыцкі лес. Да іх прыстройваўся і Вася.

— Ідзі дадому, ты яшчэ малы, — казалі яму.

Але гэты «малы» сам пачаў збіраць і захоўваць вінтоўкі, снарады, кулямёты. Калі аднойчы ў 1943 годзе на хутар заскочылі партызанскія коннікі, ён падміргнуў таму, у якога з-пад шапкі выбіваўся чорны чуб. Партызан, відаць, быў вопытны і адразу пайшоў за хлопцам.

— У мяне ёсць дзесяць снарадаў, — паведаміў Вася.

— Цудоўна, — узрадаваўся коннік, — дадзім фрыцам.

Праз некалькі хвілін Вася сядзеў на кані разам з партызанам. У какошчыцкім лесе яны выплавілі са снарадаў тол, зрабілі міну.

Назаўтра вечарам Наталля Іванаўна доўга шукала сына: бульба астыла, а ён не прыходзіў у хату. Маці не ведала, што ў яго больш пільная справа, чым вячэра. Далёка за поўнач на перагоне Азярніца–Грынкі моцна страсянула зямлю. Вася ляжаў з народнымі мсціўцамі ў хмызняку, як пад неба выскачыў вогненны слуп, на момант асвяціўшы вагоны, якія ляцелі пад адхон.

З той пары юнака рэдка можна было застаць дома: то ішоў на сустрэчу з партызанамі, то нёс у Пасінічы або Какошчычы падпольную раённую газету ці антыфашысцкія лістоўкі. Словам, сумаваць не было калі.

У жніўні 1943 года пайшоў у партызаны Антон. А хутка пасля гэтага адзін з партызан, што стаялі на пасту на ўзлеску, прыбег да камандзіра з данясен-

нем: да іх прыйшоў «узброены да зубоў» хлапчук і ні з кім не хоча гаварыць, маўляў, давай яму «самага старшага».

Камісар атрада імя Дзяржынскага Іван Якаўлевіч Дабрыян паклікаў камандзіра ўзвода і конна паехалі на заставу. Там яны ўбачылі Васю Крайняга і кучу зброі, што ледзь не панесці двум мужчынам. Не бяду рабіць, прыйшлося хлопца браць у лес. Заўсёды гаваркі, на гэты раз ён не хацеў расказаць, колькі дзён і як дабіраўся ў лагер. Адно было вядома, начамі ён цягнуў груз, а днём адлежваўся, каб ніхто не заўважыў.

У атрадзе Вася добра вывучыў кулямёт, вінтоўкі розных сістэм, а яго ўсё не пускалі на заданне — «малы». Нарэшце малады партызан стаў другім нумарам кулямёта. Кулямётчык Мікалай Струпавец і ён сталі неразлучнай парай. Ідзе група на ўзрыў эшалона і бярэ з сабой Колю і Васю, каб ахоўвалі падрыўнікоў.

Было гэта каля чыгуначнага паўстанка Іса. Вопытны падрыўнік Саша Аляксейчык ўдачна заклаў пад рэйку міну і адышоў крокаў дваццаць. Трэба ж было спатыкнуцца і пацягнуць за шнур. Раздаўся аглушальны выбух. Праз некалькі секунд з узгорка затрашчаў нямецкі кулямёт. Падрыўнікі прыпалі да зямлі і не маглі падняцца. Тады загаварыў «дзягцяр» М. Струпаўца і В. Крайняга. Немцы змоўклі. Гэтага хапіла, каб народныя мсціўцы зрабілі рывок з поля абстрэлу.

Надыходзіў 1944 год. У гэтую ноч партызаны не маглі ўседзець у зямлянках, не маглі не паднесці фашыстам навагодняга «падарунка». Пайшла на чыгунку і пара кулямётчыкаў. Цягнік са зброяй і салдатамі ішоў на ўсход. Але, не даехаўшы да вёскі Грынкі,

паравоз падскочыў, на нейкі момант затрымаўся ў паветры, потым рухнуў і пацягнуў пад адхон некалькі вагонаў.

Адубелыя ад доўгага ляжання ў снезе, хлопцы былі на сёмым небе. Не зважаючы на бязладную страляніну ўцалелых немцаў, яны селі на трое запрэжаных саней і паімчаліся ў лагер.

Каля вёскі Глоўсевічы з двух бакоў на партызан абрушыўся кулямётны і вінтовачны агонь. Хлопцы кінуліся ўрассыпную і занялі абарону. Кальцо карнікаў тым часам замыкалася. Загаварыў і наш кулямёт. Але сілы былі няроўныя. Дзевяць партызан на нявыгаднай пазіцыі не маглі доўга ўстаяць, як потым стала вядома, перад 72 фашыстамі. Коля Струпавец упаў, уткнуўшыся галавой у снег. У тую ж хвіліну забітага замяніў ранены Вася.

— Таварышы, адыходзьце, я ранены, не магу падняцца, буду вас прыкрываць, — крычаў ён і яшчэ мацней націснуў на гашэтку.

Хлопцы памалу адыходзілі. Ім на дапамогу пад'ехала група партызан з атрада «Савецкая Беларусь». А Вася страляў, пакуль варожая чарга не прабіла кулямётны дыск.

Цяжка параненага і непрытомнага юнака схапілі фашысты. Спачатку яго паклалі ў бальніцу, хацелі даведацца, адкуль ён, каго ведае ў вёсках, а потым ужо расстраляць або павесіць. Але юны змагар зрываў з сябе павязкі, не прымаў лякарстваў і памёр пагеройску. Дзе фашысты дзелі цела адважнага хлопца, пакуль невядома.

У памяць аб мужнай барацьбе і гераічнай смерці Васі Крайняга яго імем названа адна з вуліц горада Слоніма.

*1968*

## Важак маладых падпольшчыкаў

— Ой, бяда! — галасіла маці, калі з’явілася на свет чацвёртае дзіця.

Старэйшая дачка супакойвала:

— Не бядуй, мама, я пайду на вёску, прынясу хлеба і сала.

Маці толькі паківала галавой і нічога не сказала дачцэ.

Вядома, уся надзея спачатку ўскладалася на самага старэйшага — Іехеля. Ён вучыўся кравецкай справе ў аднаго з багатых яўрэяў, які меў сваю майстэрню і некалькіх майстроў.

Закончыўшы кравецкую навуку і пачаўшы працаваць, Іехель пакрысе прыносіў дадому грошы. У горадзе ён пазнаёміўся з перадавымі рабочымі і хутка ўступіў у падпольную камсамольскую арганізацыю.

— Я ведаю Іехеля Плятніцкага з 1926 года, — расказвае былы член Слонімскага райкама КПЗБ, персанальны пенсіянер Іван Акімавіч Жылінскі, — калі ён быў васямнаццацігадовым юнаком. Гэта быў адзін з актыўнейшых камсамольцаў горада. Яго выбіралі сакратаром гаркама камсамола.

У тым жа 1926 годзе ў лесе каля вёскі Шылавічы адбылася раённая партыйная канферэнцыя, на якой прысутнічаў і Плятніцкі. А ў 1928 годзе па даносу правакатара паліцыя правяла арышты ў Шылавічах, Савічах і Чапялёве. Арыштавалі восем чалавек, у тым ліку і Іехеля. Падпольшчык мужна вытрымаў усе катаванні ў дэфензіве. Суд вынес прыгавор — чатыры гады турмы. Спачатку сядзеў у Слоніме, потым — у Баранавічах і Гродна, вытрымаў дзве галадоўкі (8 і 7 дзён). Заўсёды быў актыўны, выбіраўся ў турэмны і партыйны камітэты.

Пасля выхаду ў 1932 годзе з турмы І. Плятніцкі зноў уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу, прымаў удзел у вядомай забастоўцы лесазаводчыкаў, якая выбухнула ў студзені 1934 года. Паліцыя правяла ў вёсках масавыя арышты. Быў арыштаваны ў горадзе і Плятніцкі. Але з-за адсутнасці доказаў віны тады яго выпусцілі.

У панскай Польшчы ўвесь час узмацняўся тэрор. У турмы і канцлагер Картузскую Бярозу кідалі лепшых сыноў Заходняй Беларусі. У канцы 1934 ці ў пачатку 1935 года арыштавалі і Плятніцкага. На гэты раз каты дэфензівы Шварц і Лукаўскі вырашылі пазбавіцца ад юнака і прымянілі да яго ўсе метады катавання. Калі арыштаваны пачаў паміраць, ноччу яго падкінулі пад парог дома, дзе жыла маці.

Сябры па падполлю хацелі выратаваць таварыша ад смерці. Па лініі прафсаюзаў яны наладзілі ў горадзе платную вечарынку. Выручаныя грошы накіравалі на лячэнне скатаванага вязня. Іехеля Плятніцкага завезлі ў курортны гарадок Атвоцк. Там лячыць не ўзяліся і хворага прыйшлося везці ў Варшаву. Але ў Варшаву сакратар Слонімскага падпольнага гаркама камсамола не даехаў — памёр. Яго прывезлі ў Слонім і пахавалі.

Як памяць аб стойкім змагару-падпольшчыку, імя Плятніцкага носіць адна з вуліц Слоніма.

*1968*

# Змагарка

У часы белапольскай акупацыі на нашай зямлі не сціхала барацьба з памешчыкамі і капіталістамі. І той, хто станавіўся на шлях гэтай барацьбы, зведаў турмы, здзекі, катаванні.

Цяжкая была прафесія рэвалюцыянера. Але чамяроўская дзяўчына Ганна Кароль без вагання выбрала яе. У 1925 годзе яна ўступіла ў падпольную Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. Ганну Іванаўну хутка выбралі сакратаром партыйнай ячэйкі. З той пары падпольшчыца мала калі начавала дома — паходы і паходы ў блізкія і далёкія вёскі. Трэба ж было, каб у кожнай вёсцы дзейнічалі камсамольскія арганізацыі, каб падпольная літаратура даходзіла да людзей.

Бывала, зімовымі студзеньскімі вечарамі дзяўчаты сядзяць над кудзеляй, а іх сяброўка расказвае пра Савецкі Саюз. Цешылася падпольшчыца, што кожнае яе слова глыбока западала ў душу ўважлівых слухачоў.

Пасля паўночы многія кудзельніцы разыходзіліся па хатах. Толькі некалькі чалавек на чале з Ганнай не спалі. Яны развешвалі сцягі на дрэвах і тэлефонных правадах каля Чамяроў і ў іншых навакольных вёсках.

Доўга лазіла па вёсцы паліцыя, зрывала сцягі. А яны трапяталіся на марозным ветры, узнімаючы дух у сялян і наганяючы страх на паноў.

Амаль перад кожным рэвалюцыйным святам у вёсцы Чамяры адбываліся арышты моладзі, у тым ліку арыштоўвалі і Ганну Кароль. Але 14 сакавіка 1928 года, калі ўвалілася паліцыя ў хату, дзяўчына адчула пагрозу.

— Апранайся! — загадаў старшы паліцай.

Спачатку Ганна трапіла ў дэфензіву, дзе яе катавалі некалькі дзён, а потым — за астрожную браму. За прыналежнасць да КПЗБ і ўдзел у вулічнай дэманстрацыі панскі суд прыгаварыў Ганну Іванаўну да двух з палавінай гадоў зняволення.

Турма падпольшчыцу не зламала, а загартавала. Апынуўшыся ў канцы 1930 года на волі, яна з яшчэ большай энергіяй узялася за партыйную работу. Ганну Кароль выбралі членам Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ.

І ў дэфензіве, і ў пастарунку не раз угаворвалі палымяную патрыётку пакінуць рэвалюцыйную дзейнасць. Але не такая была Ганна, каб згадзіцца на здраду. І ў снежні 1932 года Ганну Іванаўну Кароль яшчэ раз арыштоўваюць і садзяць у турму, ужо на шэсць гадоў.

Пасля выхаду з турмы жанчына мала пабывала на волі. Трэці раз яе арыштавалі 1 верасня 1939 года і без суда і следства адправілі ў канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза. Аднак панаванню пілсудчыкаў прыйшоў канец. Чырвоная Армія вызваліла народ ад няволі, у тым ліку і маю зямлячку.

Гэтая сціплая жанчына ніколі не жыла асабістым жыццём. І пасля вызвалення яна аддавала сябе служэнню народу. Спачатку яе выбіраюць старшынёй сялянскага камітэта вёскі Чамяры, а праз некаторы час — старшынёй Парэцкага сельсавета.

Вайна перарвала кіпучую дзейнасць старшыні і стваральную працу народа. Ганна Іванаўна эвакуіравалася на ўсход.

Пасля вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Ганна Кароль вярнулася на Слонімшчыну. Яе зноў выбралі старшынёй, на гэты раз Шылавіцкага

сельсавета. Сяляне любілі свайго старшыню, якая дапамагала ім ва ўсім.

9 сакавіка 1947 года Ганну Іванаўну Кароль аднагалосна выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. А праз дзесяць месяцаў, у пачатку снежня 1947 года яе не стала. Бандыцкая куля абарвала жыццё гэтай самаадданай вернай дачкі беларускага народа.

Але памяць аб Ганне Кароль не загіне ніколі. Мы заўсёды ўспамінаем яе, калі ідзём па вуліцы або завулку горада Слоніма.

*1968*

## Крылатае семя

Такі загаловак даў сваёй новай кніжцы вершаў наш зямляк паэт Мікола Арочка. У невялікім зборніку многа так званых белых вершаў, у якіх няма рыфмы. Але, чытаючы іх, на гэта не звяртаеш увагі, бо творы захапляюць сваёй непасрэднасцю і сакавітасцю вобразаў.

Жыццё нас не песціла — і гэта праходзіць чырвонай ніткай праз усю кніжку. Паэту ішоў восьмы, калі пачалася, і дванаццаты год, калі скончылася вайна на нашай Слонімшчыне. І тое, што тады зафіксавалася ў дзіцячай памяці, сёння вылілася ў паэтычныя радкі. Мне застаўся ўспамін з таго лета, калі пераможным паходам салдаты ішлі, піша аўтар. «Беднаватым прыпасам» хлопчык частаваў байца, які спяшаў на захад.

Каб салдат пачакаў,
я пабег бы за плёс
і пчалінага мёду
у сотах прынёс…

У вершы «Дзяўчынка і армія» раскрываецца страшэнная трагедыя, якую рыхтаваў людзям фашызм:

Была я тады малая,
залішне малая, каб ведаць,
нашто мне абстрыглі косы
і з ног чаравікі сарвалі
і хто быў маім збавіцелем,
які зачыніў тыя печы,
што нас праглынуць хацелі…

У падтэксце кожнага верша, аб чым там ні пісалася, адчуваецца добрая рука нашага воіна-вызваліцеля:

Я люблю гранаты,
што ад спелае сілы соку лопаюць.
Я люблю аўтаматы,
што ткуць або пояць вадой з сіропам.

Аўтар мае права заявіць, што ён — «з таго пакалення, якое з агню ўратавана для працы». А працы ў нас многа было, ёсць яна і будзе, бо мы пераўтвараем свет. Мікола Арочка ва ўсялякай працы знаходзіць сувязь з будучыняй. Цікавы верш аб тым, як яго бацька шуфлем веяў жыта. «Толькі буйное, спелае зерне ляціць да расчыненых насцеж дзвярэй, далёка, далёка — праз гады, у наступны ўраджай пакаленняў»:

Хлеб калісьці быў траякі:
чорны, белы і ніякі.

І, безумоўна, найбольш — ніякі. Але зярняты з вузкіх палосак дайшлі да нашых дзён і буйна закаласіліся на шырокіх калгасных нівах.

У зборніку «Крылатае семя» па-мастацку раскрываюцца еднасць, узаемная сувязь чалавека і прыроды. Прырода дае чалавеку ўсё для таго, каб ён мог жыць і працаваць. Адзін штрых, адзін радок з верша жыцця: «Лісток невялікі, а свет пасвяжэе!» Тут у ад-

каз мала сказаць, што трэба берагчы лес, зялёныя насаджэнні, што трэба дапамагаць вятрыску «рассяваць з сяўні зялёнай па бары залатое насенне», — трэба ў першую чаргу берагчы мір, свет і Сусвет.

Аб гэтым аўтар ніколі не забывае. Ён пытаецца часта ў сябе:

«Адкажы, што зрабіў ты сягоння, каб свет на адну хоць усмешку паласкавеў і падабрэў,

ці памог распусціцца пялёсткам чалавечай надзеі і радасці, ці хапае ў душы — у сяўні тваёй — спелых, добрых зярнят?..»

Зярнят у паэтычнай сяўні Міколы Арочка хапае. Гэты запас ён назваў «нерастрачанасць»:

Можа, ўсё, што зазначана і ўбачана,
не панесці падчас на плячы,
але сонца і слова матчына,
нашых дум, нашых душ нерастрачанасць
я хачу ў чысціні зберагчы.

*1968*

## На сцэне — героі Астроўскага

Пасля доўгага перапынку Слонімскі народны тэатр аднавіў сваю дзейнасць.

Справа была нялёгкай для самадзейнага калектыву, каб паказаць на раённай сцэне класічны твор вядомага рускага драматурга Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага «На бойкім месцы». Падзеі камедыі адбываліся больш як сто гадоў таму. Слонімскім артыстам трэба было данесці да гледача атмасферу тых часоў і сродкамі мастацтва раскрыць характары дзеючых асоб, паказаць іх грамадскую сутнасць.

Аўтар драматычнага твору нездарма месцам дзеяння выбраў пастаялы двор на вялікай дарозе сярод лесу. Іменна тут, як у калейдаскопе, кожная асоба павінна зазззяць сваім колерам. Гэта і спакусіла маладога рэжысёра народнага тэатра Мікалая Варвашэвіча пры падборы п'есы. З другога боку, ён рызыкаваў, бо не ведаў артыстаў: а што, як не справяцца, не ўвойдуць у ролю прадстаўленых у п'есе асоб?

І вось адкрылася заслона. На сцэне — унутраны выгляд вялікай хаты з сасновых бярвенняў. Дэкарацыю ўдала намаляваў мастак народнага тэатра Пётр Слезнік. З двара даносіцца прыглушаная сценамі вясёлая музыка, матыў «Карабейнікаў». Бадай, без гэтага музычнага афармлення, якое зрабіў да п'есы кіраўнік аркестра народных інструментаў Марат Малікаў, спектакль многа страціў бы.

Ролю ўтрымальніка пастаялага двара Вукола Бяссуднага выконвае артыст народнага тэатра М. Федзюкоў, якога мы не раз бачылі на сцэне раённага Дома культуры. Розныя былі ўтрымальнікі пастаялых двароў — суровыя і лагоднейшыя, але адно для іх агульнае — хцівасць да грошай, да людскога дабра. Гэта ўдала паказаў М. Федзюкоў.

У першы дзень пастаноўкі п'есы ролю маладой жонкі Бяссуднага іграла артыстка народнага тэатра Кацярына Паляшчук. Яўгенія Міронаўна — хітрая, разгульная асоба. Пры дапамозе хлусні яна ўвесь час адбівала жаніха ад мужнай сястры, дваццацідвухгадовай Ганначкі. Ні адной паўзы, ні адной затрымкі не зрабіла К. Паляшчук у сваёй ролі. Мабыць, на яе долю найбольш выпала апладысментаў публікі.

Лілія Літвіненка (Ганначка) таксама добра справілася са сваёй роляй, прадставіла дзяўчыну сумленную, закаханую ў сярэдняй рукі памешчыка з адстаўных кавалерыстаў — Паўліна Іпалітавіча Мілавідава. І яму падабалася дзяўчына. Але гаспадыня сама старалася як найбліжэй быць ля маладога мужчыны, вешалася яму на шыю. Больш таго, Яўгенія прымяняла ўсе способы, каб пазбавіцца ад саперніцы.

Памешчык Мілавідаў, ролю якога выконваў артыст народнага тэатра К. Ярашчук, ведае сабе цану. Ён таксама кахае Ганначку, хоць і не тоіць, што любіць пагуляць з другімі жанчынамі. Але, даведаўшыся, што яго хітра падманула Яўгенія Міронаўна, ён адкінуў ад сябе пляткарку і павёз дадому непрытомную Ганначку. Гэта найбольш значны штрых у характарыстыцы Мілавідава. Такія павароты ў паводзінах героя К. Ярашчуку ўдаліся.

Артыст народнага тэатра В. Усавік нядрэнна іграў ролю купецкага сына Пятра Мартыныча Непуцёвага. Яго герой сапраўды непуцёвы, заўсёды п’яны. Такія ролі В. Усавіку знаёмы па ранейшых спектаклях і дуэтах. Але тут ён не паўтараўся, знайшоў новае.

А вось П. Чаркес з роляй прыказчыка Непуцёвага — Сені — не зусім справіўся. Сеня атрымаўся невыразны.

Ёсць у камедыі і другія эпізадычныя ролі. Адну з іх, фурмана Разароннага, выконваў рэжысёр народнага тэатра М. Варвашэвіч. Хітрасць, хцівасць і стрыманасць — характэрныя рысы фурмана. Такім ён і запомніўся гледачам.

Трэба сказаць, што народны тэатр дасягнуў мэты, перадаў дух і час таго далёкага царскага і памешчыцкага самаўладдзя, самаўладдзя купцоў і чыноўнікаў. Калі гаварыць аб перажытках мінулага — п’янстве і

сямейнай распусце, — то яны часам сустракаюцца і цяпер. І п’еса рускага класіка, акрамя пазнавальнасці, робіць добрую выхаваўчую справу.

*1968*

## Першая кніга паэта

Так напісана на вокладцы зборніка вершаў «Мора мары» («Море мечты») нашага земляка са Слонімшчыны Уладзіміра Аляхновіча. Кніга толькі што выйшла з друку. У пісьме ў рэдакцыю аўтар піша: «У вас я пачаў свой шлях на газетныя старонкі». Таму мы з асабліва радасцю бяром у рукі першую кніжку паэта.

Уладзімір Аляхновіч нарадзіўся ў 1938 годзе ў невялікай вёсцы Гумнішча, што недалёка ад Азярніцы. Пасля заканчэння сярэдняй школы і аднаго з маскоўскіх інстытутаў працаваў у беларускай рэспубліканскай «Сельской газете». Тры гады прайшлі ў разведвальных экспедыцыях. Зараз паэт — работнік Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку.

Вершы і апавяданні У. Аляхновіча публікаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Героі яго твораў — нястомныя працаўнікі і шукальнікі. Знайшлі адлюстраванне ў зборніку наша далёкае мінулае, прырода.

Ва ўсіх адчуваецца любоў да роднай планеты і роднай краіны. Аўтар знаходзіць такія словы, што яны грэюць. Ён заклікае да дружбы, ён у адказе за Зямлю —

Ту, что взята с боями
У чудовищных сил,

Что порой называем
Краем братских могил.

Каб прынесці народу як найбольшую карысць, не трэба шкадаваць сіл. І аўтар піша:

Вновь палит меня южное солнце,
И пурга завывает во сне:
Если трудно бывает — так сердцу,
Только сердцу, а вовсе не мне!..

Дзе б паэт ні знаходзіўся, яго ўсюды кранае за сэрца лёс людзей. Ён думаў, што ў Парыжы шчаслівейшыя рабяты за яго, колькі там хараства, па Сене плывуць яхты. Але як зайшоў на ўскраіну, дзе мала паветра і святла, то ўбачыў, як

Ватагою шумной ребята
Колотят истерзанный мяч,
Им, видно, не выделил яхты
Какой-то парижский богач…

У капіталістычным свеце багацце і беднасць існуюць з незапамятных часоў. Гэта добра паказана ў «Баладзе аб італьянскім хлопчыку». У Рыме — сенсацыя, паказваюць у саркафагу дзяўчынку, на ёй убранне багатай сіньярыны, — такога на вуліцы не ўбачыш. І вось аглядае гэты надзвычайны экспанат басаногі хлопчык. Глянуўшы на свой убор — латы на латах, — ён з усіх ног паімчаўся адтуль…

Чалавек — самая разумная і магутная істота на свеце — павінен быць добры. Гэта адчуў пакінуты бусел у аднайменным вершы. Не хочацца птушцы паміраць у надыходзячыя маразы:

Стоишь один.
Не стонешь,

Не клянешь
Тех голенастых
Из седого века.
Течет поземка мимо,
Ты идешь
Искать не аиста,
А человека!

Паэтычныя радкі Уладзіміра Аляхновіча накіраваны супраць абыякавасці і тупасці. Толькі ўпартая барацьба чалавецтва можа прывесці да перамогі над злом:

Для нас судьба
Рождает кручи
С гранитным,
Недоступным краем…
У нас нет крыльев,
И мы
Высоты покоряем!

*1968*

## Партызанскі доктар

Першая сусветная вайна выгнала амаль усіх сялян Слонімшчыны ў бежанства. У 1914 годзе паехала ў Расію і сям'я Пятра Хомчыка з Вяценеўкі. Аглянуўся стары на вёску, выцер скупую слязу і сказаў сваім сынам:

— Не бядуйце, хлопцы, мы яшчэ вернемся дадому.

Сям'я Хомчыкаў вярнулася ў родную вёску з новымі думкамі і поглядамі на жыццё. Асабліва захапіліся рэвалюцыйнымі ідэямі сыны: сярэдні Васіль і малодшы Сідар прывёз з сабою выпушчаны

ў 1917 годзе песеннік «Песні буры і свабоды». Гэты зборнік пабываў у руках многіх аднавяскоўцаў, натхняў іх на барацьбу супраць белапольскіх і гітлераўскіх захопнікаў, а цяпер з'яўляецца экспанатам музея Акунінаўскай васьмігадовай школы.

Васіль Пятровіч Хомчык акрамя бунтарскіх настрояў прывёз з сабой з Расіі важную спецыяльнасць. Будучы ў арміі і ў бежанстве, ён захапіўся медыцынай і стаў фельчарам. У навакольных вёсках яго называлі доктарам.

Пры панскай Польшчы на сяле не было ніякіх медыцынскіх устаноў. Тыя нямногія ўрачы, што знаходзіліся ў Слоніме, бралі за візіт па пяць злотых, што раўнялася цане двух пудоў жыта. Не ў кожнага хворага былі такія сродкі. І людзі ішлі да Хомчыка, бо ён не браў з іх ніякай платы.

Папулярнасць вяцэнеўскага фельчара разнеслася далёка. Аднойчы вечарам прыбег да Васіля Пятровіча акунінаўскі земляроб:

— Васіль, ратуй хворага, памірае.

— А хто ў цябе хворы — жонка ці дзіця? — запытаў фельчар.

— Прыйдзеш — пабачыш, — дыпламатычна ўхіліўся ад прамога адказу наведвальнік.

Васіль і сам здагадаўся, аб кім ідзе гаворка. У хаце ляжаў у гарачцы незнаёмы хлопец. Гэта быў падпольшчык, які хаваўся ад паліцыі. Яго нельга было везці ў гарадскую бальніцу, пасля выздараўлення ён трапіў бы ў турму на некалькі гадоў.

Са свайго фельчарства В. Хомчык не пражыў бы, бо лячыў бясплатна. Таму ўся сям'я працавала на беднай сялянскай гаспадарцы, сам гаспадар любіў яшчэ займацца пчалярствам. Ён з нецярпеннем чакаў той пары, калі Заходняя Беларусь стане вольнай і

шчаслівай. А каб гэта хутчэй здзейснілася, разам з тысячамі аднадумцаў змагаўся за лепшую долю.

За прыналежнасць да КПЗБ, лячэнне і ўкрыванне падпольшчыкаў польскія буржуазныя ўлады пасадзілі Васіля Хомчыка на два гады ў турму.

Нарэшце настала доўгачаканая пара: у верасні 1939 года Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь ад 20-гадовай няволі. У Новых Дзявяткавічах у былым палацы Слізняў савецкая ўлада адкрыла бальніцу, а раённы аддзел аховы здароўя назначыў туды В. Хомчыка фельчарам.

Сяляне выбралі свайго доктара дэпутатам і членам выканаўчага камітэта Трыбушкоўскага сельсавета. Яшчэ з большай энергіяй В. Хомчык уключыўся ў грамадскую работу.

— Я не бачыў больш самаадданых людзей, чым Васіль Пятровіч, — успамінае былы сакратар Трыбушкоўскага сельсавета Георгій Карпавіч Якубчык. — Ён жыў не для сябе, а для людзей.

І гэта праўда. У 1941 годзе, як пачалося гітлераўскае нашэсце, каля Новых Дзявяткавіч завязаўся жорсткі бой. Нашы байцы вялі па акупантах знішчальны агонь са званніцы. Яны падбілі многа варожых танкаў і аўтамашын, вывелі са строю многа варожых салдат.

Былі раненыя і з нашага боку. Васіль Пятровіч на полі, а потым у бальніцы аказваў ім першую медыцынскую дапамогу, некаторых адправіў у суседнія вёскі да знаёмых сялян, былых падпольшчыкаў.

У лесе, што падступаў да Акунінава і Вяценеўкі, збіраліся народныя мсціўцы. Сярод іх былі хворыя і параненыя байцы, якія не абышліся без медыцынскай дапамогі Васіля Пятровіча. А ў жніўні 1942 года партызанскі доктар і сам з'явіўся ў лес у

групу партызан, якой камандаваў тады Уладзімір Бабкоў. І з’явіўся ў пару. У той час у партызанскі лагер прыбылі мужчына і жанчына, якія нібыта ўцяклі ад немцаў. Партызаны прынялі ўцекачоў. Аднойчы фельчару здалося падазроным, што яны без патрэбы круціліся каля кухонных катлоў. А калі заўважыў у руках папяровы пакецік, паклікаў хлопцаў. У пакеціку была атрута. Прыбыўшыя на допыце прызналіся, што іх падаслала СД.

Праз месяц, у верасні 1942 года, немцы пайшлі на партызан вялікімі сіламі. У час гэтай аблавы расстралялі старэйшага сына Васіля Хомчыка — Васю. Моцна перажываў доктар. Каб аберагчы жонку і дваіх малодшых дзяцей, ён прыцемкамі ўвайшоў у Вяценеўку і хацеў вывесці сям’ю ў лес.

У гэты час адна прыслужніца акупантаў паклікала немцаў. Карнікі арыштавалі бацьку, маці і дзяцей, завялі ва ўрочышчы Ліпнікі і расстралялі, а потым усіх укінулі ў калодзеж.

Цяпер на тым месцы стаіць помнік. Былыя народныя мсціўцы і людзі партызанскага краю, хто ведаў В. П. Хомчыка, з хваляваннем расказваюць пра цудоўнага чалавека, партызанскага доктара.

*1968*

## Валянцін Таўлай у здымках

Кожны раз, калі думаю пра Валянціна Таўлая, я моцна хвалююся. Перад вачыма стаіць ён як жывы. У калейдаскопе памяці адзін за другім узнікаюць кадры вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі і паслявераснёўскіх сустрэч у Слоніме і ў Лідзе.

Свята захоўваюць памяць аб выдатным сыне Слонімшчыны Кракоцкая сельская бібліятэка імя

Янкі Купалы і музей калгаса імя Дзяржынскага ў Рудаўцы, дзе правёў паэт сваё дзяцінства і маладосць. Там наведвальнік знойдзе яго кнігі, фатаграфіі, аўтографы. А нядаўна ў бібліятэцы з'явіўся цікавы альбом «Наш зямляк Валянцін Таўлай», у якім змешчана 37 розных фотаздымкаў.

Калі агляд пачаць у храналагічным парадку, то адзін з першых здымкаў, на якім прадстаўлены двухгадовы хлопчык, адносіцца прыблізна да 1916 года. Тады сям'я эвакуіравалася ў Мінск да бабкі (па матцы).

Другі здымак адносіцца да 1917 года. На ім Валянцін сфатаграфаваны разам з маці Марыяй Антонаўнай. Асобна прадстаўлены ў альбоме бацька паэта і бацькава маці — бабка Аўдоцця, аб якой з вялікай цеплынёй адклікаецца ўнук у аўтабіяграфічным нарысе. Яна замяніла памёршую маці 6-гадоваму Валянціну і 2-гадоваму Шуры. Прыблізна такімі яны выглядаюць на фатаграфіі.

Вось на здымку звычайная сялянская хата. У гэтай рудаўскай хаце гадаваўся будучы паэт. Там на працягу кароткага часу размяшчалася беларуская прыватная пачатковая школа, якую закрылі польскія ўлады і дзе настаўніцай была яго маці.

На фатаграфіі, зробленай да 1930 года, Валянцін Таўлай — сярод таварышаў па барацьбе. Два з іх у форменных шапках вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Якраз гэты перыяд характарызуецца актыўнай камсамольскай дзейнасцю Таўлая. Тады паявіўся ў беларускай газеце левага напрамку яго першы верш.

Потым мы прывыклі чытаць рэвалюцыйныя вершы свайго таварыша. Але аб чым бы ён ні пісаў, радкі нас заўсёды хвалявалі сваёй непасрэднасцю, задушэўнай чысцінёй і верай у перамогу. Між іншым,

такім быў верш «Таварышу маёй вясны» , напісаны ў 1936 годзе ў віленскім астрозе Лукішкі. «Развітаўся я з многімі, з вясной толькі нашаю — нельга: як, скажы, без яе мне дажыць да апошніх хвілін?».

Доўгі час мы не ведалі, каму прысвечаны гэты цудоўны верш. І вось подпіс пад фатаграфіяй, зробленай у 1932 годзе: В. Таўлай з сяброўкай, мінчанкай Кацюшай. Будучы ў Мінску ў пачатку 1930-х гадоў, Валянцін працаваў у газеце «Звязда».

Тры здымкі (1940 і 1941 гады) паказваюць Таўлая разам з жонкай Кірай Брант, калі ён працаваў у лідскай раённай газеце «Уперад».

Наступныя фотадакументы — пасляваеннага часу. У 1946 годзе Валянцін Таўлай жыў у Мінску і сфатаграфаваўся з жонкай Лідзіяй Сяргееўнай. Яна жыве і цяпер у сталіцы Беларусі, працуе карэктарам часопіса «Маладосць». На двух здымках таго часу В. Таўлай — супрацоўнік музея Янкі Купалы — сфатаграфаваны з жонкай народнага паэта Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч і пісьменнікамі.

Цікавасць прадстаўляюць рэпрадукцыі з рукапісаў вершаў «Бацьку», «Дзяўчыне», «Ніва», «Лукішскія вершы», «Жаўрук», «Лістоўка» і іншых. Першы свой зборнік В. Таўлай назваў «Шляхі і краты». Зборнік пры жыцці паэта не выйшаў. Эскіз вокладкі гэтага зборніка прадстаўлены ў альбоме. Кніжка выйшла пасля смерці В. Таўлая пад загалоўкам «Выбранае».

*1968*

## Падпольшчыца Вера Харужая

Вядома, што на «крэсах усходніх» у час панавання польскай буржуазіі існавалі каланіяльныя парадкі, жорсткі тэрор. Большасць насельніцтва

заходнебеларускіх вёсак вярнулася з бежанства з новымі думкамі і поглядамі на свет. У 1922 годзе ў нашым горадзе Слоніме і вёсках павета ствараюцца падпольныя ячэйкі, а іх кіраўнікі сталі натхніцелямі барацьбы супраць акупацыйнага рэжыму.

У гэты час у глухім палескім гарадку Мазыры жыла Вера Харужая. Уступіўшы ў камсамол, яна пайшла на фронт ваяваць супраць атрадаў Булак-Балаховіча. Потым працавала ў Мазырскім і Бабруйскім павятовых камітэтах камсамола.

Вера Харужая належала да той плеяды, што і Павел Карчагін з кнігі «Як гартавалася сталь». Яна не магла не паявіцца на Слонімшчыне, дзе кіпела жорсткая барацьба. Вясной 1924 года ў Слоніме было намечана правесці першую канферэнцыю з мэтай стварэння акруговага камітэта партыі на базе слонімскай і баранавіцкай арганізацый. Падпольшчык Антон Гурскі выбраў месцам канферэнцыі чапялёўскія могілкі. Туды і прыбыла Вера Захараўна Харужая з сакратаром гарадскога камітэта партыі Х. Я. Хомскім.

І ўсё ж гэта не была канферэнцыя, а масоўка. А. Гурскі накіраваў з вёсак не толькі дэлегатаў, але і ўзброеных сялян. Яны хацелі ісці дзяліць памешчыцкую зямлю. Вера Харужая выступіла з прамовай і растлумачыла, што яны адны не зробяць рэвалюцыі, заклікала людзей да канспірацыі, падпольнай барацьбы па згуртаванню ўсяго народа.

Х. Хомскі ўспамінае, як ён завёў Веру Харужую на сакрэтную кватэру да аднаго рэлігійнага яўрэя. І Вера Захараўна, якая добра ведала беларускую, рускую і польскую мовы, пачала з гаспадаром гаварыць па-яўрэйску. Яна была няўлоўная. У Слоніме лічылася гараджанкай, у вёсцы Чамяры — сялянскай дзяўчынай.

Каля двух гадоў няўлоўную дзяўчыну шукалі шпікі па ўсёй Заходняй Беларусі. Нарэшце ў верасні 1925 года яе арыштавалі ў Беластоку. Засудзілі Веру Захараўну да шасці, а затым да васьмі гадоў строгага турэмнага зняволення.

Далей т. Хомскі ўспамінае:

— У 1927 годзе я сядзеў у Беластоцкай турме. Аднойчы мяне вялі да начальніка. У гэты момант у турэмным калідоры мне на шыю кінулася дзяўчына. Гэта была наша Вера. Стражнікі адцягнулі яе і давай біць па галаве дзябёлымі турэмнымі ключамі. Потым я часта бачыў са свайго акенца адзіночнай камеры гэтую палымяную рэвалюцыянерку ў супрацьлеглым закратаваным акне.

Вера Харужая нелегальна перапісвалася ў турме з т. Хомскім і другімі зняволенымі. Яе запіскі хадзілі па руках, распальвалі ў сэрцах свяшчэнны гнеў да ворагаў. І наогул, яна мела выключную здольнасць перадаваць свае перакананні другім. Усе стараліся быць такімі ж, як яна.

Дзяўчына бачыла шчасце ў барацьбе. У пісьме да сваёй маці яна пісала: «Мамачка, ты хочаш майго шчасця, дык чаго ж ты плачаш, калі я шчаслівая? Так, мама, я не хлушу, а шчыра кажу табе, што глыбока адчуваю. Я шчаслівая, такая шчаслівая, якіх ёсць, напэўна, мала».

А вось яе словы з пісьма да брата В.: «Якое шчасце, што ў турме я ўсё-такі бачу, адчуваю змену пораў года!.. Схадзіце абавязкова ў лес і нарвіце пралесак…»

Выдавецтва «Молодая гвардия» ў 1931 годзе, а Белдзяржвыдавецтва ў 1932 годзе выдалі хвалюючыя пісьмы В.З. Харужай пад назвай «Лісты на волю», замест яе прозвішча стаяў на кнізе подпіс «Польская камсамолка».

Сем гадоў пакутавала Вера ў беластоцкай, а затым у цэнтральнай жаночай турме «Фардон». Увосень 1932 года па дамоўленасці паміж урадамі СССР і Польшчы Вера Харужая ў ліку 40 чалавек была выменяна. Але, працуючы ў Маскве і Мінску, яна заўсёды цікавілася рэвалюцыйным рухам у Заходняй Беларусі.

Гэта рэдкі выпадак, калі чалавека ўсюды лічылі сваім. Іменна Вера была такой: на Слонімшчыне — яна слонімская, у Пінску — яна пінская. Таму пасля вызвалення і пацягнула яе ў знаёмыя мясціны. У Пінску і напаткала Веру вайна.

Вера і яе муж Сяргей Карнілаў былі аднымі з першых партызан. Там і загінуў Карнілаў.

Потым адважная партызанка дзейнічала ў Віцебску. Восенню 1942 года гестапа напала на след падпольшчыкаў. В. Харужая была схоплена і замучана. У 1960 годзе ёй прысвечана пасмяротна званне Героя Савецкага Саюза.

Імем гэтай цудоўнай жанчыны-рэвалюцыянеркі названа адна з вуліц Слоніма.

*1968*

## Сакрэтны арыштант

У ліпеньскай кніжцы часопіса «Полымя» пад такім загалоўкам змешчаны артыкул пра аднаго жыхара горада Слоніма. Пры цару яго трымалі пад пільным наглядам у тутэйшым астрозе. Часта вязень знікаў бясследна, турэмшчыкі адзначалі толькі ў кнізе: «Выбыла асоба». У 1850 годзе нават чыноўнік асобых даручэнняў Развадоўскі не мог даведацца пра слонімскага вязня, што гэта за асоба, якая віна ўскладалася на чалавека, і данёс аб гэтым гродзенскаму губернатару.

Пасля стала вядома, што «сакрэтны» арыштант быў з дваранскага саслоўя, называўся Марцінам Валадковічам і што, апрача яго, у астрозе трымалі трох сялян, арыштаваных разам з ім.

За што ж пасадзілі гэтага чалавека?

У час самаўладдзя царскіх чыноўнікаў цяжка жылося сялянам, яны не мелі ніякіх правоў. Аб крыўдах сялянскіх напісаў у Санкт-Пецярбург у пачатку 1846 года чалавек з горада Слоніма.

«На першым тыдні вялікага паста 1845 года, — гаварылася ў заяве, — валасны пісар Часноўскі, сабраўшы сто пяць чалавек з розных вёсак, захапіў 24-х сялян з вёсак Востраў і Лісевічы на паншчыне, звязаў усім вяроўкамі рукі назад, сашчапіўшы па чатыры-пяць чалавек, пагнаў у фальварак Лісевічы, дзе падрыхтаваны былі два вазы розгаў». Там іх развязалі, паклалі на ногі вялікія драўляныя калоды з некалькімі прарэзамі, і, «поруч зваліўшы на зямлю, секлі розгамі ганебна» за тое, што сяляне нібыта не адбылі павіннасці. Змардаваных сялян трымалі трое сутак пад вартаю, не давалі есці, «хлопчыкаў, якія прынеслі яду бацькам, Часноўскі па 50 разоў выцяў розгамі, посуд пабіў і прагнаў, накрычаўшы:

— Няхай з голаду паміраюць!».

Марцін Рыгоравіч Валадковіч, хоць крыху паходзіў з дробнай шляхты, быў руплівым гаспадаром, чулым чалавекам. Яго выбралі ў гарадскі магістрат, а адзін час нават быў бургамістрам.

Ён не лічыўся з небяспекаю, калі справа датычылася грамадскіх інтарэсаў. Да Валадковіча сталі наведвацца людзі не толькі са Слонімшчыны, але і ў з Ваўкавыскага павета, жыхары мястэчка Поразава, Новага Двара і іншых аддаленых пунктаў.

Ранкам 22 ліпеня 1846 года да дома Валадковіча падышоў атрад паліцэйскіх на чале з квартальным Суляціцкім. І старога павялі ў астрог.

Пасля ўмяшання знатных асоб 9 жніўня 1846 года Валадковіч выйшаў з турмы. Але не доўга. Ён і далей выкрываў зверствы жандараў. «Селянін Міхаіл Снітко, — пісаў Валадковіч, — атрымаў 150 розгаў за тое, што праявіў сваё недавер'е да святара Дылеўскага».

Граф Кісялёў патрабаваў, каб слонімскія ўлады забаранілі Валадковічу сустракацца з сялянамі. У справу Валадковіча ўмяшаўся Мікалай І. Распарадзіўся ён коратка: «Забяспечыць асобу».

У красавіку 1847 года Марціна Валадковіча пасадзілі ў слонімскі астрог. Вось што пісала Ганна Валадковіч:

«Мужа майго морацць голадам, не дазволілі яму нікуды пісаць, пасадзілі ў нейкі сакрэтны пакой, пра які тут ніхто не чуў. І то аднаго…»

А вось што зімой пісала дзіцячая рука пасля звар'яцення сястры і смерці жонкі Валадковіча: «Мамачка мая не сцярпела больш пакут, памерла. Пакінула нас трое малых сірот без усялякага скутку… Хіба ж мала таго, што ўсё забралі. Ды па матчынай смерці выгналі нас, сірот, у вялікі мароз… Сказаў мне гараднічы: ідзі ты да бацькі ў астрог, там ваш дом. А ўсю нашу жывёлу, што была ў хляве, і каня, які каштаваў 45 рублёў срэбрам. Выгналі. І я вось з меншымі братамі пры бацьку ў астрозе сярод разбойнікаў і зладзеяў».

На гэтай скарзе Аляксандры Валадковіч на запытанне губернатара са Слоніма напісалі, што малых дзяцей завялі ў астрог… «са спачування».

Што сталася далей з пачынаўшым слепнуць «сакрэтным арыштантам» і яго дзецьмі, пакуль невядома. У адносіне віленскага генерал-губернатара, адзначанай лютым 1850 года, было сказана, што вызваліць яго з турмы «няма ніякай магчымасці».

*1968*

## Аляксандр Заградзін

Старэйшыя хлебаробы вёскі Чамяры памятаюць вясёлага хлопца Аляксандра, які прыходзіў на вечарынкі, іграў на гармоні. Юнак любіў простых людзей, хоць і сам быў з дваранскага роду (бацька меў невялікі маёнтак у Грыбаве і крыва глядзеў на паходы сына).

Спадабалася Аляксандру вясковая дзяўчына Алена Багданчук. Неўзабаве яны пажаніліся. Маладая ўсплакнула на вяселлі, прадчуваючы бяду. Нядоўгім было супольнае жыццё маладажонаў. Бацькі ўвесь час сварыліся на сына, пакуль не разлучылі пару.

Нягледзячы на першыя жыццёвыя патрасенні, Аляксандр Заградзін паспяхова закончыў Варшаўскі політэхнічны інстытут. Потым працаваў на заводзе. Прызвалі ў армію, накіравалі ў ваеннае вучылішча. У 1913 годзе прысвоілі афіцэрскае званне.

Праз год пачалася Першая сусветная вайна, якая зрабіла круты паварот у біяграфіі Аляксандра Заградзіна. На Заходнім фронце ён узводзіў фартыфікацыйныя збудаванні і пазнаёміўся з выдатным інжынерам Дзмітрыем Карбышавым. Сустрэча з салдатамі, паражэнні на фронце, спаленыя гарады і вёскі пераканалі штабс-капітана Заградзіна, што вайну трэба канчаць. Яго думкі супалі з жаданнем салдат і пазіцыяй бальшавікоў.

А калі адбылася ў Расіі рэвалюцыя, былы штабс-капітан царскай арміі пайшоў ваяваць за народную ўладу. Вясной 1918 года яго назначылі камандзірам інжынернага атрада Магілёўскай губерні. На ўзвядзенні абарончых збудаванняў атрад папоўнілі добраахвотнікамі ў батальён.

Тым часам каля Арэнбурга заварушыліся белаказачыя войскі атамана Дутава. Пад восень 1918 года туды перакінулі інжынерны батальён на чале з А. У. Заградзіным. Сапёры працавалі пад варожым агнём, адбівалі атакі. Летам 1919 года інжынерны батальён на вачах у дзянікінцаў наводзіў пераправы праз Дон і Кубань, аднаўляў чыгуначныя зносіны, пракладваў гаці на непраходных балотах. І ўсюды ўперадзе байцы бачылі свайго камандзіра. Неаднаразова ён адзначаўся ў загадах брыгад, дывізій і армій.

Як насталі мірныя дні, батальёну таксама знайшлася работа. У 1920 годзе ў складзе Каўказскай арміі працы нядаўнія сапёры пад камандаваннем А. У. Заградзіна днём і ноччу аднаўлялі нафтавую прамысловасць Грознага. Камандуючы арміяй І. В. Касіор высока ацаніў здольнасці А. У. Заградзіна і самаадданую працу яго людзей.

Яшчэ адну ініцыятыву праявіў наш зямляк на будаўніцтве чыгункі на Старыя промыслы. Ён арганізаваў армейцаў, працоўных горада і промыслаў на суботнікі. Вось што ўспамінае адзін з удзельнікаў тых суботнікаў: «Арганізаванасць, парадак, хуткасць у рабоце паказвалі нястомную энергію, настойлівасць, вялікую ініцыятыву камандзіра палка таварыша Заградзіна, усяго камсаставу, а таксама ўпартую свядомую барацьбу на гаспадарчым фронце трудаармейцаў палка».

Смерць абарвала жыццё А. У. Заградзіна. Ён памёр ад сыпнога тыфу 3 лютага 1922 года. Каман-

дуючы Каўказскай арміі працы І. В. Касіор высока ацаніў заслугі камандзіра першага інжынернага палка, загадам па Грозненскаму цэнтральнаму нафтаўпраўленню назначыў сям'і нябожчыка на працягу пяці гадоў пенсію.

Грамадскасць горада Грознага памятае заслугі нашага земляка-слонімца перад Радзімай. Газета «Грозненский рабочий» за 16 лютага 1963 года, змяшчаючы вялікі артыкул пад загалоўкам «Дарога ў бессмяротнасць», паведаміла, што адна са станцый на пабудаванай ім чыгунцы названа імем Аляксандра Уладзіміравіча Заградзіна.

*1968*

## Яго ўніверсітэты

У беззямельнага селяніна вёскі Пляшкі (цяпер Партызанаўка) Сямёна Якаўлевіча Рылы было дзесяць дзяцей. Праўда, большасць з іх памерла ад пастаяннага недаядання.

Сярод тых, што засталіся жыць, быў і шосты сын Фёдар. Хварэў і ён (воспа пабіла твар), але выжыў. Выжыў і пайшоў людзям пасвіць жывёлу. Дзе пасвіў, там і кармілі. Аб школе пры панскай Польшчы не думаў, яе нават не было ў навакольных вёсках. Толькі ў 1937 годзе пад напорам мас улады адкрылі ў Акунінаве пачатковую школу. Фёдару тады быў дваццаць адзін год, ён ужо праходзіў «вышэйшую» адукацыю ў канцэнтрацыйным лагеры Бяроза Картузская.

Дзяцінства гэтага вясковага хлопца прайшло ў беспрасветнай цемры і галечы. Старэйшыя гаварылі яму, што за свабоду, за лепшае жыццё трэба змагацца.

...Трэба змагацца! І ў Федзіных вачах успыхвалі іскры радасці і надзеі на лепшы лёс.

У адной вясковай ячэйцы быў і сірата Мікалай Бута, які насіў вялікія, не па назе боты. Аднойчы пайшоў Федзя з Мікалаем на Косаўскі тракт вывешваць сцяг. Ноч была цёмная, з неба падаў першы сняжок. Хлопцы выканалі заданне і разышліся па хатах.

Назаўтра ў вёсцы з'явілася паліцыя. Хлопцаў арыштавалі і тры дні катавалі ў пастарунку. Міколу так збілі, што не мог зайсці дадому. Федзя прывёз ледзь жывога таварыша.

— Ну як, вытрымаў?

— Вытрымаў, — адказаў камсамолец. — Білі і прыгаворвалі: «Гэта табе першая навука».

А праз дзень паліцыянт зноў забраў Буту. Зноў на працягу трох дзён катавалі хлопца, але ён нічога не выдаў. Нават панскі суд вымушаны быў апраўдаць яго, прызнаўшы негрунтоўнымі паліцэйскія доказы, бо ботаў вялікага размеру было многа.

«Першую навуку» не раз праходзіў і Фёдар. Доказаў у паліцыі не было, хлопца білі і выпускалі. А 12 мая 1936 года Фёдара Рылу арыштавалі і без суда і следства кінулі ў Картуз-Бярозу. Адразу за калючым дротам зняволенага прапусцілі праз строй паліцэйскіх, якія бязлітасна білі гумавымі палкамі па галаве і спіне.

І пацягнуліся жудасныя дні, тыдні, месяцы. Людзей білі, здзекаваліся, не давалі есці, забаранялі гаварыць, прымушалі цяжка і бязмэтна працаваць. Фёдар і тут аказаўся цвёрдым і непахісным. Каб зламаць чалавека маральна і фізічна, за 18 месяцаў лагернай нявolі яго 90 дзён трымалі ў карцэры. Гэта лічылася «вышэйшай адукацыяй».

Фёдар Сямёнавіч вытрымаў усе выпрабаванні. У лагеры ён пазнаёміўся з выдатнымі падпольшчыкамі і атрымаў моцную рэвалюцыйную загартоўку.

У кастрычніку 1937 года яго адпусцілі з лагера і мабілізавалі ў войска. У 1939 годзе пры разгроме польскай вайсковай часці гітлераўцы ўзялі салдата ў палон, дзе ён прабыў шэсць гадоў у канцэнтрацыйных лагерах. Можна толькі здзіўляцца, што многія палонныя дажылі да дня вызвалення, бо фашысты голадам марылі людзей.

Фёдар Сямёнавіч вярнуўся ў родную вёску ў 1949 годзе і прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі калгаса, некаторы час быў яго старшынёй. Вясной бягучага года па запрашэнню сяброў, былых вязняў Картуз-Бярозы, калгаснік з Партызанаўкі ездзіў у Польскую Народную Рэспубліку. З візітам у адказ пабываў у Партызанаўцы польскі таварыш Станіслаў Гардэла. Беларускія і польскія сябры, якіх яднаюць моцная дружба і сумесная барацьба супраць усіх ворагаў, не склалі зброі. Яны часта выступаюць перад школьнікамі аб тым, як здабывалася свабода, як трэба берагчы яе.

*1968*

## Моцна палюбіў музыку

Яшчэ будучы хлапчуком, ён любіў слухаць музыку, асабліва калі igралі на баяне. А як у Доме культуры адбываўся канцэрт, для яго гэта было вялікае свята. Здзіўленню і захапленню не было канца: як гэта чалавек на музычным інструменце можа тварыць цуды, браць у палон душу.

І Марат з пятага класа пайшоў у музычную школу, удзельнічаў у аркестры народных інструментаў. По-

тым закончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча, а ў 1967 годзе завочна — Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.

Чатыры гады таму назад Марат Аляксеевіч Малікаў пачаў працаваць у слонімскім раённым Доме культуры.

Патрэбны былі людзі, якія любяць музыку. Спачатку такіх знайшлося каля дваццаці чалавек.

Першае выступленне аркестра народных інструментаў было на першамайскім урачыстым вечары 1966 года. Выконваліся два нумары: руская народная песня «Жураўлі» і «Беларускі танец» Камінскага. Публіка горача апладзіравала.

Энтузіяст музычнай справы стварыў пры аркестры падрыхтоўчую групу, з якой займаецца асобна, не шкадуючы часу і сіл. Праходзяць тры-чатыры месяцы карпатлівай працы, і групу можна далучыць да ўсяго музычнага калектыву. Праўда, не ўсе з падрыхтоўчай групы сталі аркестрантамі. Некаторыя адсеяліся, спалохаўшыся цяжкасцей.

Нядаўна аркестр народных інструментаў выступаў на абласным аглядзе. І выступіў паспяхова. Журы рэкамендавала слонімчан для выступлення ў сталіцы рэспублікі — Мінску. Гэта з’явілася высокай ацэнкай майстэрства нашых самадзейных артыстаў. Прыемна было і нам, гледачам, ля экранаў тэлевізараў слухаць музыку сваіх землякоў.

За апошні год аркестр папоўніўся новымі ўдзельнікамі. Цяпер у яго складзе больш за шэсцьдзесят чалавек, у тым ліку і ранейшыя актыўныя ўдзельнікі — работнік мэблевай фабрыкі Барыс Галубец, работніца раённай бібліятэкі Нэля Любімава, супрацоўніца раённага аддзела культуры Лізавета Саварыжанкава з дачкой Валяй, работніца быткамбіната Люда Ігнатовіч.

Цяпер у М. Малікава, як і ва ўсіх удзельнікаў аркестра, гарачая пара: ідуць рэпетыцыі. У канцы бягучага месяца яны выступяць перад патрабавальнымі гледачамі абласнога цэнтра. На гэты раз выканаюць у Гродна арыю Андрэя з оперы Ю. Семянякі «Калючая ружа» і складаны нумар — «Беларускую рапсодыю» у апрацоўцы П. Пагоцкага.

Шмат напорыстасці ў Марата Аляксеевіча. Але адной напорыстасцю не ўсё возьмеш, патрэбны яшчэ арганізатарскія здольнасці. І гэтай якасцю валодае кіраўнік вялікага мастацкага калектыву. Многа дапамагаюць Марату Аляксеевічу парадамі і асабістым удзелам у аркестры настаўнікі музычнай школы, а таксама старэйшы энтузіяст харавой і музычнай справы Канстанцін Міхайлавіч Шпакоўскі.

*1968*

## Тры сустрэчы з Антонам Валынчыкам

Зіма 1929 года была снежная і марозная. Выйшлі мы з поезда на станцыі Ляхавічы і, узяўшы з сабой чамаданы, пайшлі шукаць падводу, каб даехаць да Клецка.

Селі мы, двое выгнаннікаў з Віленскай беларускай гімназіі, у буду, наставілі каўняры і рушылі ў дарогу. У галаву лезлі невясёлыя думкі: як там сустрэнуць, ці прымуць?

У Клецку першага сустрэчнага мы спыталі, дзе знаходзіцца інтэрнат беларускай гімназіі.

— Ідзіце на Слабадскую вуліцу — адказаў дзядзька, — знойдзеце хату Івана Нікановіча, там і будзе інтэрнат.

Мы трапілі, як кажуць, з карабля на бал. Гімназісты вельмі ветліва сустрэлі нас, не далі нават як след

абагрэцца і павялі на ёлку. У зале пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасці. Хор пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Антона Міхайлавіча Валынчыка выконваў цудоўныя дагэтуль нечутыя беларускія песні «За праўду, за шчасце», «Як на свет нарадзіўся Янка» на словы Янкі Купалы, «Ліпы старыя» на словы Якуба Коласа, «Я люблю густыя шумы», «Вечарам» на словы Уладзіміра Жылкі і іншыя.

Гэтыя песні мяне заваражылі. Колькі ў іх было душэўнай прыгажосці!

Тады я не ведаў, што музыку да вершаў беларускіх паэтаў напісаў сам Антон Міхайлавіч. Не ведаў і таго, што Антон Міхайлавіч Валынчык мой зямляк, родам з вёскі Мяльканавічы Слонімскага павета.



З таго цяжкага, але бурнага часу прайшло каля сарака гадоў. Загучалі новыя, бадзёрыя песні, якія славяць вольную працу, гераізм нашага народа. Але тое, што з дзяцінства запала ў душу, там і засталося, хвалюе і цяпер.

Я ведаў: дзе б ні знаходзіўся Антон Міхайлавіч, там гучаць нашы песні. І сапраўды, у 1947 годзе ён сфарміраваў міжабласны ансамбль у Ашмянах, быў хормайстрам гродзенскага народнага ансамбля «Нёман».

Будучы аднойчы ў Гродна, захацелася мне наведаць земляка. Пастукаў у дзверы Гродзенскага педінстытута, на якіх красавалася дошчачка з надпісам «Кафедра музыкі і спеваў».

— Заходзь, заходзь! — пачуўся знаёмы голас.

Прывітаўшыся, я пажартаваў:

— Хачу ўзяць інтэрв’ю.

— Можна, можна.

І Антон Міхайлавіч расказаў аб сваёй працы. Сабраў ён і апрацаваў каля пяцідзесяці беларускіх народных песень. Напісаў музыку да многіх вершаў беларускіх паэтаў і найбольш на тэксты Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У 1966 годзе арганізаваў настаўніцкую капэлу горада Гродна, якая стала значным мастацкім калектывам. У яе выкананні цудоўна гучаць беларускія, украінскія, польскія песні.

У апошні час кампазітар напісаў музычную гісторыю беларускага народа. Кантата пачынаецца песняй «Люблю наш край» і захоплівае перыяд аж да ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР.

Сустракаючы 50-годдзе БССР, Антон Міхайлавіч напісаў некалькі песень, у тым ліку на словы П. Броўкі:

Калі мы што творым, будуем,
Кожную хвілю і міг,
Заўсёды мы добрае чуем
У думках, у справах сваіх.

У 1963 годзе за дасягнутыя творчыя поспехі і актыўны ўдзел у развіцці мастацкай самадзейнасці Антону Міхайлавічу Валынчыку прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

Ленінградскі завод запісаў на пласцінкі ў выкананні беларускай Дзяржаўнай капэлы музыку А. Валынчыка «Ліпы старыя» і «Касцы».



Трэцяя сустрэча з нашым земляком адбылася, так сказаць, завочна. У сталіцы рэспублікі — Мінску — праходзілі дні Гродзенскай вобласці. Ішоў заключны

канцэрт. Выступалі ўсё новыя і новыя мастацкія калектывы. І вось на сцэне хор гродзенскіх настаўнікаў на чале са сваім кіраўніком. І паліліся песні «Люблю наш край» і «Як на свет нарадзіўся Янка». Тыя самыя песні, што давялося чуць у дзяцінстве.

Зрываецца бура апладысментаў. Публіка да гэтага часу яшчэ нікому так моцна не апладзіравала. Што ж, нічога не скажаш — заслужылі.

*1968*

## Паўлінка

Пасля першай работы ў Слонімскім народным тэатры маладога рэжысёра Мікалая Фёдаравіча Варвашэвіча — пастаноўкі камедыі А. М. Астроўскага «На бойкім месцы» — слонімчане з нецярпеннем чакалі новага спектакля.

І вось адбылася прэм’ера вядомай камедыі Янкі Купалы «Паўлінка». Папулярнасць гэтага твору на Слонімшчыне вялікая. Яшчэ ў часы белапольскай акупацыі вясковыя самадзейныя артысты, перамагаючы цяжкасці з атрыманнем дазволу, у гумнах ставілі «Паўлінку». Спектакль падымаў настрой, нацыянальную гордасць, якую заўсёды прыніжалі акупанты.

Сама назва камедыі патрабавала добрай выканаўцы галоўнай ролі Паўлінкі. І трэба сказаць, што пасля пошукаў і некаторых перастановак правільна зрабіў рэжысёр, што даручыў гэтую ролю Святлане Варвашэвіч. Гледачы, якія не раз бачылі пастаноўку купалаўскага твору, у тым ліку і ў тэатры Янкі Купалы, хваляваліся за слонімскую Паўлінку. І хваляваліся дарэмна. Святлана са сваёй роллю справілася. Яна паказала беларускую вясковую дзяўчыну ціхай і

вясёлай, разумнай і справядлівай, жартаўніцай і шчырай у каханні.

На працягу ўсёй п’есы Святлана-Паўлінка была захапляючай. Мабыць, так і трэба, каб праз сціпласць прабіваліся тонкія дзявочыя пачуцці да свайго каханага Якіма Сарокі і калючая іронія да шляхцюка Адольфа Быкоўскага.

Сарока і Быкоўскі — два процілеглыя тыпы. Сарока-рэвалюцыянер, бедны чалавек і ніякіх багаццяў, акрамя свайго кахання, ён не можа абяцаць. А Паўлінцы больш нічога і не трэба. Яна разумее, што з такім добрым чалавекам, як настаўнік Якім Сарока, нідзе не прападзеш.

Відавочна, Паўлінка не раз сустракалася з такімі поглядамі і дзеяннямі паноў і падпанкаў, якія былі ў Адольфа Быкоўскага: што ўсё беларускае, у тым ліку і танцы, хамскае, нікуды не варта. Сцэна, дзе Быкоўскі з Паўлінкай развучвае панскія танцы, сапраўды варта гумару. Але іроніі дзяўчыны шляхцюк не разумее. Затое ўсю тонкасць гульні разумеюць гледачы. І мне зноў успамінаюцца даўно мінулыя часы, калі наша вясковая моладзь, натхнёная камедыяй Янкі Купалы «Паўлінка», яшчэ з большым запалам змагалася за родную школу, за права ставіць беларускія пастаноўкі і наогул за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы.

І сёння «Паўлінка» адыгрывае значную выхаваўчую ролю, хоць гэта ўжо стала гісторыяй, якая ніколі не вернецца. Шкада толькі, што малады хлопец Аляксандр Гук, які першы раз выступаў на сцэне, не змог так ярка прадставіць Адольфа Быкоўскага. Хацелася б, каб у далейшым ён быў больш энергічным у сваёй напышлівай шляхецкасці.

Запамінаецца Андрэй Каханоўскі ў ролі Пранціся Пустарэвіча, сваяка Крыніцкіх. Ён таксама першы раз выступаў на сцэне, але найбольш смяшыў публіку сваімі паводзінамі і адмоўнымі адносінамі да Быкоўскага.

У камедыі ўсё завяршаецца нечакана. Змяніліся адносіны да будучага зяця Быкоўскага і ў бацькі Паўлінкі — Сцяпана Крыніцкага. Палічыўшы шляхцюка за злодзея, ён выганяе з хаты гэтага чужога сялянам чалавека.

Добра выступалі Людміла Антонаўна Клімовіч і артыстка народнага тэатра Феафанія Лявонцьеўна Ракевіч. Удачныя і масавыя сцэны, у якіх занята была моладзь.

Дапаўняла, падкрэслівала гульню артыстаў музычнае афармленне слонімскага самадзейнага кампазітара Міхаіла Гарабца.

І другая работа рэжысёра Мікалая Фёдаравіча Варвашэвіча (ён у «Паўлінцы» Сцяпан Крыніцкі), як і пастаноўка камедыі А. М. Астроўскага, застанецца надоўга ў памяці гледачоў.

*1968*

## З чаго пачынаецца Радзіма

Гэта была сціплая задума — сабраць матэрыял аб рэвалюцыйнай і баявой дзейнасці землякоў у 1920–1930-я гады і ў час Другой сусветнай вайны. Маладыя следапыты пайшлі па вёсках, гутарылі са старэйшымі жыхарамі, якія памятаюць тыя падзеі. У Дзеравянчыцкую школу паступалі фотаздымкі, успаміны, даведкі. Экспанатаў сабралася многа, прычым не толькі гістарычных, а і краязнаўчых. У адным з класных пакояў стварылі музей.

Экспазіцыя пачынаецца з аддзела «Жыццё першабытных людзей на Слонімшчыне». На гэтым стэндзе размешчаны скрабкі, якія знойдзены каля вёскі Шылавічы, крамянёўскія стрэлы са стаянак першабытных людзей нашай мясцовасці, абломкі ганчарнай пасуды і г. д. На карце сярэдняга цячэння ракі Шчары нанесены 54 кружкі — помнікі-стаянкі. На вітрыне пад шклом прадстаўлены лён, проса, зярняты жыта і рэчы, знойдзеныя пры раскопках слонімскага замчышча.

Наступны аддзел называецца «Слонімшчына ў перыяд феадалізму». Тут можна знайсці звесткі з гісторыі вёсак Бракава і Дзеравянчыцы. Старажылы расказваюць, што на месцы цяперашняга Бракава раслі вялікія сосны. У тыя далёкія часы палякі высякалі і прадавалі лес. Яны прыслалі сюды свайго прадстаўніка-бранёра, які пасяліўся ў лесе. Потым пасёлак лесарубаў назвалі Бракава.

Наведнікі з цікавасцю разглядаюць здымкі курных хат А. С. Мазайлы і Г. П. Песляка. Гэтыя хаты былі пабудаваны ў 1855 годзе і ні ў якое параўнанне не ідуць з цяперашнімі сельскімі дамамі.

У фондах музея ёсць шмат дакументаў аб жыцці і барацьбе сялян пры царскім самаўладстве.

Ёсць у музеі і шматлікія фотаздымкі землякоў, якія прымалі ўдзел у пазнейшых падзеях. На легендарным крэйсеры «Аўрора» служылі жыхары Слонімшчыны Уладзімір Іосіфавіч Ананові і Цімафей Пятровіч Барысік. Ганарацца вучні васьмю ўраджэнцамі Дзеравянчыц, якія прымалі ўдзел у грамадзянскай вайне. З іх Антон Сямёнавіч Мазайла і Яўген Абрамавіч Сцепчанка жывуць у роднай вёсцы, Іван Сцяпанавіч Мазайла жыве ў Слоніме.

Пашанай у школьнікаў і аднавяскоўцаў карыстаецца імя Паўла Швайдзюка, адважнага падпольшчыка часоў буржуазна-памешчыцкай Польшчы і нямецка-фашысцкай акупацыі. Польская паліцыя праследавала тых, хто слухаў радыё. Нягледзячы на гэта, Павел Іларыёнавіч купіў радыёпрыёмнік і паставіў яго ў падвале. Вечарамі, выставіўшы варту, сяляне слухалі радыёперадачы з Масквы і Мінска. За гэта паны пасадзілі П. Швайдзюка ў турму.

Павел Швайдзюк не стаў на калені і перад гітлераўцамі. Ён уладкаваўся тады шафёрам дарожнага аддзела. Аднойчы, калі аўтамашыну загрузілі зброяй, шафёр завёз гэты груз партызанам. Знайшоўся подлы чалавек, які выдаў Паўла акупантам. Яго арыштавалі і разам з другімі арыштаванымі павялі расстрэльваць на Пятралевіцкую гару. Але вылюдні прамахнуліся. Як сцямнела, партызанскі сувязны ўстаў з кучы трупаў.

Швайдзюк трапіў у рукі катаў і другі раз. Яго павесілі на базарнай плошчы горада Слоніма.

Пятнаццаць фотаздымкаў землякоў-партызан і падпольшчыкаў змясцілі вучні ў сваім музеі. Яны сабралі патроны, гранаты, ствалы аўтаматаў і іншую зброю, якой ваявалі народныя мсціўцы. Экспануецца самаробны пісталет аднаго з падрыўнікоў партызанскай брыгады імя Ракасоўскага.

Самая вялікая экспазіцыя (60 фотаздымкаў) паказвае землякоў-воінаў Савецкай Арміі. Сярод іх — Пётр Васільевіч Казук, які прымаў удзел у штурме Берліна.

Школьнікі свята захоўваюць памяць пра тых, хто вызваляў нашу родную Слонімшчыну. Фотаздымкі, даведкі, указы, загады, спісы, баявыя лісты… Толькі

ў адной штурмавой авіядывізіі, якой была прысвоена назва Слонімскай, служылі 23 Героі Савецкага Саюза. З многімі былымі лётчыкамі школьнікі перапісваюцца. Адзін з іх прыслаў у школу мадэль баявога самалёта з белай празрыстай пластмасы на такой жа падстаўцы.

*1969*

## Хвалюючая аповесць

У слонімскім гарадскім скверы, што на вуліцы Пушкіна, стаіць на п'едэстале салдат з аўтаматам, ля яго падножжа гарыць вечны агонь. Тут пахаваны савецкія воіны і партызаны, якія загінулі на Слонімшчыне ў баях з гітлераўскімі захопнікамі. На адной з надмагільных пліт ёсць надпіс з прозвішчамі Героя Савецкага Саюза маёра Кузьмы Савельевіча Гнедаша і старшага сяржанта Клары Трафімаўны Давідзюк.

Слонімчане свята ўшаноўваюць памяць тых, хто аддаў жыццё за нашу свабоду. Помнік і цяпер абкладзены вянкамі. Імем Гнедаша названа адна з вуліц Слоніма. Многія нашы народныя мсціўцы асабіста ведалі разведчыка і радыстку, разам з імі ваявалі.

Нядаўна ў трох нумарах маскоўскай газеты «Известия» надрукавана дакументальная аповесць Барыса Гусева «За тры гадзіны да світання», змешчаны таксама здымкі Кузьмы Гнедаша і Клары Давідзюк (дарэчы, да апошняга часу ў нас памылкова пісалі прозвішча Кузьмы Савельевіча — Гнідаш). Вядома, гэтыя нумары газеты ў Слоніме былі нарасхват, кожнаму хочацца прачытаць хвалюючую аповесць пра адважных разведчыкаў, якія дзейнічалі ў апошнія месяцы вайны ў нас, на Слонімшчыне. Аўтар аповесці

выкарыстаў архіўныя дакументы і расказы людзей, якія ведалі Гнедаша па яго дзейнасці разведчыка.

Пачынаеш чытаць гэты твор нібы тэлеграму: «Лес. Ноч. У зямлянцы сядзяць людзі — сем мужчын і адна дзяўчына. Яны не запальваюць кастра». Для кожнага былога народнага мсціўца дастаткова некалькі кароткіх сказаў, каб зразумець абстаноўку, у якую трапілі гэтыя людзі.

А трапілі яны ў шчыльнае акружэнне немцаў. «Адзін з мужчын ранены і ляжыць на насілках, зробленых з галін вярбы». Гэта Кузьма Гнедаш. Дзяўчына — Клара Давідзюк. Яна не магла пакінуць свайго раненага камандзіра і засталася з ім у замаскіраванай партызанскай зямлянцы.

На працягу ўсёй аповесці чытач, у тым ліку і той, хто ведае трагічную гісторыю мужных герояў, з неаслабным хваляваннем чакае фіналу. Канец жа аповесці сумны. Пяць партызан прарваліся, а Кузьму Савельевіча і Клару выявілі ў сховішчы немцы. Калі гітлераўцы памкнуліся ў зямлянку, разведчыкі ўзарвалі сябе апошняй гранатай.

Дорага заплацілі ворагі за жыццё нашых разведчыкаў. Клара штодзённа перадавала дакладныя звесткі аб колькасці, размяшчэнні і прасоўванні варожых вайсковых часцей. Маёр Гнедаш знішчыў да 19 чэрвеня 1944 года больш за тысячу нямецкіх салдат і афіцэраў.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі К. Гнедаша перад Радзімай, пасмяротна прысвоіўшы разведчыку званне Героя Савецкага Саюза.

*1969*

## «Калі любіш»

Надоўга ў памяці слонімскіх гледачоў засталіся спектаклі па класічных п’есах вядомага рускага пісьменніка А. М. Астроўскага «На бойкім месцы» і беларускага народнага паэта Янкі Купалы «Паўлінка», пастаноўку якіх ажыццявіў наш народны тэатр пад кіраўніцтвам маладога рэжысёра Мікалая Варвашэвіча.

Нядаўна народны тэатр паказаў у Дзераўноўскім сельскім Доме культуры новую прэм’еру — спектакль па драме «Калі любіш» беларускага пісьменніка Мікалая Гарулёва.

Дзея адбываецца ў абласным горадзе ў нашы дні. У п’есе паказана сям’я ўрача Міхаіла Аляксандравіча Батурына. Ідзе гутарка пра любоў чалавека да справы, пра каханне.

Жонка Міхаіла Аляксандравіча — Надзея Рыгораўна — вельмі любіць свайго сына Івана (таксама ўрач) і дачку Вольгу, якая вучыцца ў музычнай дзесяцігодцы. Вольга пайшла вучыцца музыцы не па свайму жаданню, а па волі маці. Што з гэтага выйшла, паказана ўжо ў першай карціне.

У гарадскім парку сустрэліся вучаніца Вольга і настаўніца Галіна Пятроўна Громава. Настаўніца ў далікатнай форме гаворыць Вользе, што тая не адчувае музыкі. Вольга лічыць гэта прыдзіркай, тым больш, што маці іншай думкі аб здольнасцях дачкі.

Малады ўрач Іван Батурын працуе над адным навуковым доследам. Абласны аддзел аховы здароўя, а таксама бацька лічаць яго даслед неабгрунтаваным і не даюць ходу рабоце.

З далейшага дзеяння высвятляецца, што Івана і Галіну моцна звязвае каханне. Аднойчы яны

прыйшлі ноччу да Батурыных, што вельмі абурыла бацькоў, асабліва Надзею Рыгораўну.

Ролю Міхаіла Аляксандравіча Батурына іграе вядомы артыст народнага тэатра Мікалай Федзюкоў. Яму ўдалася роля ўрача і бацькі. Герой п’есы трымаецца застарэлых поглядаў на самастойнасць моладзі, але хутка згаджаецца на шлюб сына з Галінай. Старэйшы Батурын толькі ніяк не дае дазволу сыну прымяніць у бальніцы новы метад лячэння. Артыст М. Федзюкоў трымаецца на сцэне лёгка, свабодна.

Артыстка народнага тэатра Кацярына Паляшчук пераканаўча паказала жанчыну-маці з лёгкім налётам мяшчанства. Надзея Рыгораўна то саладжавая, то ўедлівая. Заўсёды права павінна быць на яе баку, а гэта вызваляе яе ад аналізу падзей і ўдумлівасці. Роля выконваецца жыва і цікава.

Івана Батурына іграе сам рэжысёр М. Варвашэвіч. Яго малады ўрач настойлівы, паслядоўны. Ён верыць, што праўда пераможа, што вырашыцца пытанне з яго доследам.

Тым часам сямейныя падзеі нарастаюць з маланкавай хуткасцю. У выніку сутычкі паміж вучаніцай і настаўніцай апошняя пападае пад машыну. У цяжкім стане яе даставілі ў бальніцу. З бальніцы Галіна выйшла глухая. А Вольга пакінула школу, нягледзячы на пратэсты бацькоў, і стала медсястрой.

Брат і сястра пачалі лячыць Галіну. І Іван употай прымяніў новы прэпарат. Тэмпература ў хворай рэзка павышалася. Нарэшце крызіс мінуў, слых да Галіны вярнуўся. Перамаглі настойлівасць і прызванне маладога ўрача. Захапілася работай у бальніцы і Вольга.

Вольгу іграе маладая настаўніца трэцяй сярэдняй школы Ларыса Фірсава, яе кавалера Міцю — дыспетчар Грыбаўскага аддзялення «Сельгастэхніка»

Анатоль Цярэнін. Гэта здольная моладзь, хаця ёй на сцэне яшчэ не хапае практыкі.

Простую, але добрую і лёгкую па стылю дэкарацыю да п’есы зрабіў мастак Пётр Слезнік. Гэта дазволіла паставіць спектакль на вясковай сцэне.

*1969*

## Прырода Слонімшчыны

Слонімскі раён знаходзіцца ў падзоне змешаных лясоў. Блізкасць Балтыйскага мора стварае ў нашым краі цёплы, сярэдне-мяккі клімат.

На тэрыторыі Слонімшчыны працякае рака Шчара, левы прыток Нёмана. У Шчару ўпадае даволі значная рэчка Іса і мноства меншых рэк і рачулак. Сярод нешматлікіх азёр — Бяздоннае (глыбіня даходзіць да адзінаццаці метраў) і Клепачоўскае.

Дзякуючы спрыяльным прыродным умовам у нас багаты і разнавідны жывёльны свет. У лясах і поймах вадаёмаў водзіцца каля 50-ці відаў млекакормячых, 140 відаў птушак, шэсць відаў паўзуноў, пяць відаў земнаводных. У рэках і азёрах сустракаецца звыш 25-ці відаў рыб.

Раслінны і жывёльны свет Слонімшчыны знайшоў адлюстраванне ў раённым краязнаўчым музеі. У дзвюх залах сабрана многа цікавых экспанатаў, фотаздымкі характэрных пейзажаў.

Чатыры поры года паказаны ў асобных вітрынах-дыярамах.

Зіма ў раёне працягваецца з сярэдзіны лістапада і амаль да канца сакавіка. Глядзіш на дыяраму і здаецца, што гэта сапраўды куток заснежанай прыроды, так удала зліваецца макет з малюнкам. На дрэве сядзіць вавёрка ў зімовым футры, а ўнізе — курапат-

ка, аўсянка звычайная. Яны заўсёды ў нас зімуюць. У цёплыя зімы застаюцца некаторыя іншыя птушкі, сярод іх канюк, які корміцца мышамі, і паганка на незамярзаючых вадаёмах, адкуль яна, ныраючы дастае сабе ежу. Па такому ж прынцыпу зроблена дыярама вясны. Паказана абуджэнне прыроды, ранні прылёт гракоў, шпакі ў першыя дні сакавіка. На адной з галінак сядзіць салавей.

Лета — самая багатая пара на птушак і звяроў. У прыродных умовах пад шклом бачым пудзілы кнігаўкі, шэрага саракапыта, савы — карысных птушак, якія знішчаюць насякомых, мышэй. У гэтых птушак у першай палавіне лета паяўляюцца птушаняты.

Прывабны летні лес. Вось рыжая вавёрка грызе яловыя шышкі, дастае з іх дробныя зярняткі. Хто не бачыў невялікіх насякомаедных птушак пеначку і берасцянку, то можа паглядзець у музеі.

Восень. Жоўтае лісце. На дрэвах спелыя жалуды, чырвоныя гронкі рабіны. Прыгожа. Птушкі, чуючы набліжэнне халадоў, адлятаюць у цяплейшыя краі. Калі дрозд-рабіннік, сойка і зелянушка застаюцца, значыць, зіма будзе лагодная. Да нас з поўначы прылятае ў лістападзе чырванагруды снягір.

На іншых экспанатах багата прадстаўлена прыбярэжная вадаплаўная птушка — шылахвостка нырэц, пастушок, лысуха, кулік, крохаль вялікі, чаратоўка, зуёк рачны, ластаўка берагавая і іншыя. Цікавая дыярама берага Бяздоннага возера з яго пастаяннымі або часовымі жыхарамі — чапляй шэрай, гагарай чарназобай, чырком, краквай, казаркай.

На нашай Шчары водзяцца такія каштоўныя звяры, як выдра і бабёр, шкуркі якіх дорага цэняцца. Аднак паляванне на іх забаронена.

Выдра корміцца рыбай і з’ядае за год каля чатырохсот кілаграмаў. Бабёр, наадварот, любіць пабегі

лазы, асіны. Ён перагрызае тоўстыя дрэвы, робячы на рацэ запруды і жыллё. Пудзіла гэтага звера паказана на згрызеным альховым пні.

Да прамысловых звяроў адносяцца лісіца, заяц-бяляк, тхары і другія. Хоць тхор і дабіраецца часам у куратнік, але гэта карысны звярок. Сям'я вялікага тхара знішчае за год да шаснаццаці тысяч палявых мышэй.

Прыжыўся ў нас і ў іншых раёнах Беларусі янотападобны сабака, які завезены з Усурыйскага краю Расіі. Яго футра высока цэніцца.

Цікавай з'яўляецца дыярама лістоўнага лесу, дзе жывуць вожык і птушка-казадой. Вожык знішчае многа мышэй, гадзюк, насякомых, казадой — насякомых і лічынак.

Асобная дыярама прысвечана цецерукам і называецца «Цецеруковы ток».

У нашых лясах водзяцца драпежныя звяры — ваўкі. Знішчэнне іх заахвочваецца дзяржавай.

Да Першай сусветнай вайны ў лясах Слонімшчыны вяліся бурыя мядзведзі. Цяпер іх на Беларусі ўсяго каля 80-ці штук. Мядзведзь заглядвае часам да нас з боку Мінскай вобласці. Пудзіла гэтага буйнога звера стаіць пасярэдзіне залы.

У музеі ёсць пудзілы арлана-белахвоста і арла-беркута, якія сяды-тады залятаюць у наш раён.

Ёсць і іншыя цікавыя экспанаты і дыярамы. Сярод іх дыярама, дзе прадстаўлена жытняе поле з перапёлкай, сіваваронкай і другімі карыснымі птушкамі.

У натуральным выглядзе паказаны ў вітрынемантажы асноўныя пароды нашых дрэў і кустоў. У імху, як сапраўдныя, сядзяць грыбы.

Ніхто не можа прайсці міма, каб не палюбавацца мічурынскімі гатункамі яблык і груш, што раяніраваны на Слонімшчыне.

Аддзел прыроды Слонімскага раённага краязнаўчага музея з цікавасцю аглядаюць наведнікі.

*1969*

## Раніца

Адкрываючы першую кнігу паэзіі, перш за ўсё адкрываеш чалавека і свет у яго ўяўленні. І хочацца, каб гэты чалавек быў шчыры, добры, хочацца адчуць асалоду ад яго вершаў.

Прыемна ўзяць у рукі зборнік вершаў «Раніца» гродзенскай паэтэсы Вольгі Іпатавай. Яна нарадзілася 1 студзеня 1945 года ў гарадскім пасёлку Мір. Выхоўвалася ў дзіцячым доме ў Гродна. Закончыла філалагічны факультэт БДУ. Працуе рэдактарам на Гродзенскай студыі тэлебачання.

Ужо гэтыя біяграфічныя звесткі гавораць, што для Вольгі Іпатавай толькі пачалася раніца жыцця і творчасці. Зборнік паэзіі і адкрываецца вершам «Раніца»:

Адуванчык вялізны — сонца
Вырастае з прыціхлай ракі.
Зараз дзьмухне вецер спрасонку —
Пырснуць промні ва ўсе бакі.
Туманы, як мядзведзі камлатыя,
Дапаўзаюць да лесу крадком,
За нямытай, заспанаю хатай
Аб даёнку цурчыць малако.
А зямля так даверліва, проста
У сваім харастве паўстае,
Што здымаю з ног «шпількі» вострыя:
Незнарок не ўкалоць бы яе…

Не, не ўколе зямлю Вольга Іпатава. Яна нікому не дазволіць, каб калолі нашу планету. У другім

вершы паэтка піша: «Да скону дзён забыць я не магу — руінаў дым, натоўп за хлебам ноччу». Тады дзяўчынка ўпершыню моцна адчула Радзіму, якой стаў дзіцячы дом. Хоць у людзей гарэлі смуткам вочы, але пра хлеб яны крычалі: «Дзетдому ў першую чаргу!»

Праз усю кнігу чырвонай ніткай працягнулася ўдзячнасць дзяўчыны Радзіме, савецкім людзям за клопаты аб дзецях вайны, аб іх будучыні:

Не маці ў інстытут праводзіла мяне,
Зрабіўшыся ад шчасця маладой.

Вершы Вольгі Іпатавай шчырыя, задушэўныя, меладычныя, бо яны ідуць ад душы. Бадай, у першай кніжцы паэткі няма такога твору, які не хваляваў бы.

Пасля роднай маці, якая прыходзіла да сваёй дачкі ў сне, і бацькі, якога яна бачыла толькі на даваеннай фотакартцы, дзяўчына лічыць вёску самай блізкай, самай роднай:

Як бохан хлеба, ты дала мне мову.
Яна — як росны золак на губах,
Дзе кожны склад, пявучы і вясновы,
Дажджом і медуніцаю прапах.

Ад дзяўчыны, для якой пачалася раніца жыцця, мы пачуем яшчэ шмат прыгожых, сакавітых беларускіх слоў. Мова Іпатавай народная, самабытная.

Лірычны герой Вольгі Іпатавай, шчаслівы і бадзёры, крочыць па ўсіх вершах першай кнігі. Яму, герою, хапае работы, хапае прастору.

Зборнік «Раніца» — шчырая, добрасумленная споведзь. А шчырасці Іпатавай не пазычаць. Аб гэтым яна і сама заяўляе:

Жаночую ласку і шчырасць
Не вычарпаць да канца.

*1969*

## Творчая ўпартасць паэта

На паліцах слонімскіх кнігарняў нядаўна з’явілася манаграфічная праца нашага паэта-земляка Міколы Арочкі «Валянцін Таўлай».

Пра Валянціна Таўлая, аднаго з яркіх паэтаў рэвалюцыйнай заходнебеларускай літаратуры, многа ўжо сказана, напісана. Але ніхто яшчэ не вычарпаў крыніц яго кіпучага жыцця і ўпартай творчасці. Найбольш поўна зрабіў гэта Мікола Арочка.

Літаратары не памыляюцца, калі кажуць, што Валянціна зрабіла палымяным паэтам рэвалюцыйнае асяроддзе, у якім ён жыў, вучыўся, змагаўся. Шляхі барацьбы за сацыяльныя і нацыянальныя правы беларускага народа кідалі яго на турэмныя нары буржуазнай Польшчы. Там і з’явіліся лепшыя вершы і паэмы.

Першымі настаўнікамі паэта былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і ўся рэвалюцыйная паэзія, якая трапляла ў рукі. Мікола Арочка , каб паказаць творчы шлях земляка, многа перабраў архіўных дакументаў. Таму даследчык мог з упэўненасцю заявіць, што В. Таўлай сфарміраваўся як лепшы паэт у пасляваенныя гады. Калі пад вершам «Жаданне», напрыклад, стаіць 1928 год, то гэта не значыць, што тады верш быў такім, якім мы яго чытаем цяпер. Ад ранейшага верша застаўся, можа, толькі адзін неперапрацаваны радок.

Творчаму росту В. Таўлая спрыяла тое, што ён у пачатку 1930-х гадоў знаходзіўся ў Мінску, працаваў

у «Звяздзе». Там сустрэўся з многімі пісьменнікамі, вучыўся ў іх майстэрству. Асабліва вялікі ўплыў на паэта зрабіла паэзія Маякоўскага — свежая, рэвалюцыйная, непаўторная. У адным са сваіх вершаў В. Таўлай пісаў у 1941 годзе: «Маякоўскі па-сяброўску радзіў не збываць адразу верша з рук: напісаў — замкні яго ў шуфлядзе, як адлежыцца, — судзі, здавай у друк».

«Была яшчэ адна прыцягальная вяршыня, — піша ў сваёй кнізе М. Арочка, — якая ва ўсёй магутнасці адкрылася Валянціну Таўлаю на яго падыходзе да сталасці — гэта паэзія Уладзіслава Бранеўскага». Польскі паэт быў блізкім для Таўлая рэвалюцыйнымі якасцямі, мужнасцю і шчырасцю, сваёй барацьбой з турмой, што душыла рэвалюцыйны рух народа.

Мікола Арочка піша, што Таўлай падтрымліваў творчыя сувязі з другімі пралетарскімі пісьменнікамі і добра ведаў польскую класічную літаратуру, а творы некаторых пралетарскіх літаратараў мог дэкламаваць па памяці.

У канцы 1932 года Таўлая прынялі ў члены КПЗБ і накіравалі ў Польшчу. Ён пачаў рэдагаваць легальную «Беларускую газету» і гуртаваць вакол яе літаратурныя сілы. Праз год Таўлай арганізаваў з’езд пісьменнікаў, а ў студзені 1934 года трапіў у рукі дэфензівы. Тут асабліва спатрэбілася паэту памяць. Працягваючы бязлітасную барацьбу і ў турме, паэт пісаў творы без паперы і алоўка. У адным са сваіх вершаў ён так і гаворыць:

Я верш пад ззянне бліскавіц
Запісваю у памяць.

Вось якую ацэнку вершам Таўлая даў польскі пракурор Пятроўскі, які ў 1936 годзе судзіў паэта: «Гэта

самы таленавіты, а значыць, і самы небяспечны крамольнік. Мы павінны выбіць з яго рук аловак і паперу».

І ўсё ж не мог выбіць. Таўлай не толькі пісаў вершы «ў памяць», але разам з Піліпам Пестраком на тонкай паперы выдаваў у Лукішках часопіс «Краты».

Тры апошнія гады Таўлай прасядзеў у жудаснай гродзенскай турме, у тым ліку адзін год у адзіночцы. Тады ж паэт без паперы пачаў тварыць паэмы «Песня пра сухар» і «Таварыш».

Пасля ўз’яднання Валянцін Таўлай працаваў днём у лідскай раённай газеце «Уперад», а вечарам — дома, над «расшыфроўкай» з памяці вершаваных радкоў. Мікола Арочка піша: «Сотні вершаў, урыўкі паэм, безліч варыянтаў — усё гэта належала не толькі ўзнавіць і перанесці на паперу, але і прыкінуць свежым вокам, з вышыні новага чуцця эстэтычную вартасць слова, якое прасілася ў свет».

Мікола Арочка паказвае ў крытыка-бібліяграфічным нарысе працу Таўлая над праўкай вершаў. Нарэшце быў падрыхтаваны зборнік вершаў «Шляхі і краты». Але свету кніга не ўбачыла, бо пачалася вайна. У вайну загінулі ўсе рукапісы. І Таўлаю ў другі раз удалося аднавіць вершы.

Падрабязна апісвае М. Арочка ваенны перыяд жыцця В. Таўлая. Памёр ён 27 красавіка 1947 года, не дачакаўшыся выхаду ў свет сваёй кнігі.

У адным месцы аўтар манаграфіі піша: «Для Таўлая як мастака гэтая якасць (пастаянная патрэба папраўляць) была менавіта рашаючай. Па сутнасці, мы не мелі б цяпер таго Валянціна Таўлая — страснага, мужнага рэвалюцыйнага паэта, якім сёння мы яго ведаем, — калі б ён карэнным чынам не перапрацаваў сваіх ранніх твораў».

Шырокае кола чытачоў з цікавасцю прачытае кніжку пра нашага земляка.

*1970*

## Дружба з маскоўскім пісьменнікам

Рэжысёр Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч, пачынаючы сваю працу ў Слонімскім народным тэатры, звярнуўся да рускай і беларускай класікі. І драматычны калектыў з поспехам ажыццявіў пастаноўку п’есы А. Астроўскага «На бойкім месцы» і камедыі Янкі Купалы «Паўлінка». Пастаўлена п’еса беларускага літаратара Мікалая Гарулёва «Калі кахаеш». Гэтыя творы былі цёпла сустрэты не толькі ў сваім раёне, але і на сцэнах вобласці і суседніх гарадоў.

У пошуках новай п’есы аб жыцці калгаснай вёскі Мікалай Фёдаравіч натрапіў на аповесць маскоўскага пісьменніка Мікалая Віннікава «“ЧП” на хутары “Дубкі”». Аповесць спадабалася, толькі яе не паставіш на сцэне. І рэжысёр зрабіў інсцэніроўку празаічнага твору.

Перш чым ставіць спектакль, М. Варвашэвіч напісаў аўтару пісьмо. М. Віннікаў пажадаў поспехаў у працы калектыву народнага тэатра і выказаў падзяку за тое, што ў Беларусі звярнулі ўвагу на яго твор.

Так завязалася дружба паміж вядомым маскоўскім празаікам і драматургам Мікалаем Віннікавым і нашым народным тэатрам. А «“ЧП” на хутары “Дубкі”» з вялікім задавальненнем праглядзелі слонімскія і дзятлаўскія гледачы. Поспех заваяваў спектакль і на абласным аглядзе-конкурсе: там наш народны тэатр заняў першае месца.

Нядаўна рэжысёр М. Варвашэвіч пабываў у Маскве і па просьбе народнага тэатра наведаў М. Віннікава. Рэжысёр прыехаў да пісьменніка, як кажуць, не з пустымі рукамі. Ён завёз сваю інсцэніроўку аповесці, фотаздымкі сцэн спектакля, зробленыя С. Прасняком і А. Пераходам, раённую і абласную газеты з рэцэнзіямі на спектакль і афішы.

Аўтар твору быў вельмі задаволены сустрэчай і перададзенымі матэрыяламі. Слонімскую афішу ён змясціў на сцяне пакоя, дзе вісіць цэлая выстаўка афішаў спектакляў па яго творах.

Мікалай Георгіевіч цікавіўся творчым жыццём нашага тэатра, матэрыяльнымі магчымасцямі, дыяпазонам гастрольных выступленняў. Цікавіўся горадам Слонімам.

У канцы задушэўнай гутаркі Мікалай Фёдаравіч ад імя калектыву народнага тэатра і свайго запрасіў аўтара прыехаць у Слонім на спектакль і сустрэчу з яго ўдзельнікамі. Запрашэнне было з падзякай прынята Мікалаем Георгіевічам.

М. Віннікаў падарыў рэжысёру сваю кнігу з аўтографам, у якой змешчана шэсць камедый. Пісьменнік паабяцаў, што як напіша новую п’есу, то абавязкова прышле Слонімскаму народнаму тэатру.

Трэба чакаць, што гэтая творчая дружба прынясе карысць і аўтару, і драматычнаму калектыву.

*1970*

## Народная слава

У Партызанаўцы, суседняй з Акунінавам вёсцы, што на Слонімшчыне, адкрыўся музей баявой і працоўнай славы, для якога мясцовы калгас пабудаваў асобны дом.

Першы раздзел музея прысвечаны гадам грамадзянскай вайны, стварэнню Беларускай Савецкай дзяржавы. У жорсткіх баях на франтах грамадзянскай вайны прымалі ўдзел многія жыхары вёсак. Гэта Трахім Дуброўка, Лука Хомчык з Акунінава, Сідар Хомчык з Вецянеўкі, Антонік з Баравікоў. Іх партрэты мы бачым на стэндах музея.

Створана галерэя партрэтаў легендарных палкаводцаў, якія вызвалялі Гродзеншчыну ад белапалякаў. Гэты раздзел дапаўняюць архіўныя даведкі, пашпарты, грошы, фотакопіі дэкрэтаў аб міры і зямлі, фотаздымкі слонімчан, якія прымалі ўдзел у штурме Зімняга палаца.

Перыяд гаспадарання польскіх паноў ілюструюць дакументы таго часу. Цікавасць прадстаўляюць падпольныя газеты «Чырвоны сцяг», «Малады камуніст», «Голас салдата», плакаты. Выстаўлены для паказу даўгавыя векселі, дакументы аб ліквідацыі маёмасці сялян. Як прыклад цяжкага жыцця, сведчаць прымітыўныя прылады працы і тагачасны абутак селяніна — лапці.

З цяжкім становішчам народ не хацеў мірыцца, усюды ішло змаганне за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Дыяграма паказвае рост тэрору ў Заходняй Беларусі. Напрыклад, з 1928 па 1932 год колькасць палітзняволеных з 2800 узрасла да 12 тысяч. Многа беларусаў Слонімшчыны таксама сядзела ў панскіх турмах, у тым ліку М. Р. Скок, П. С. Крынчык, К. М. Крупнік, І. Я. Дабрыян, Ю. Д. Кавалеўскі і другія, фотаздымкі якіх экспануюцца. Ёсць фотаздымкі Веры Харужай і Сяргея Восіпавіча Прытыцкага, якія дзейнічалі і на Слонімшчыне.

Наступны раздзел — вызваленне Заходняй Беларусі ў 1939 годзе. Ілюструюць гэты перыяд

шматлікія плакаты, здымкі. Пад адным фотаздымкам подпіс: «Падзел зямлі». З гэтага часу зямлю не прадавалі, а давалі на душу насельніцтва бясплатна.

Хутка ў былым Акунінаўскім сельсавеце з'явіліся калектыўныя гаспадаркі, сяляне масава ўступалі ў калгасы. Фотаздымкі сведчаць, што першым старшынёй калгаса ў вёсцы Сучкі быў У. В. Рыла, у Вецянеўцы — Б. Я. Семянюк, у Акунінаве — І. Р. Рубец.

Страшэнную бяду прынесла народу гітлераўскае нашэсце. Старэйшыя людзі памятаюць жудасці фашызму. А маладому пакаленню, якое не бачыла вайны, аб гэтым расказваюць экспазіцыі музея. Вось здымак, на які нельга глядзець раўнадушна: на ім паказана вёска, якую запалілі фашысты.

Фашызм — гэта няволя і смерць. Дыяграма расказвае, што на тэрыторыі Слонімшчыны гітлераўцы расстралялі і спалілі 41 665 чалавек, у тым ліку знішчылі 560 чалавек у вёсках цяперашняга саўгаса «Бальшавік». На сцяне вісіць спіс загінуўшых з гэтых вёсак ад рук фашызму.

Амаль усе дарослыя жыхары Акунінава, Коласава і суседніх вёсак у час вайны пайшлі ў партызаны, помсцілі ворагу за пралітую кроў. Сярод народных мсціўцаў быў і Іван Ігнатавіч Рубец. Усю яго сям'ю расстралялі акупанты, а ён сам, устаўшы з малой дачкой з-пад трупаў, узяў вінтоўку і пайшоў у лес. І не выпускаў з рук зброі, пакуль ворага не стала на нашай зямлі.

У музеі вісяць фотаздымкі мясцовых партызан, а таксама арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Слонімшчыне. Камандзірам партызанскага атрада імя Дзяржынскага быў былы падпольшчык-камуніст Аляксей Серы з вёскі Акунінава, начальнікам разведкі гэтага атрада — Аляксандр Міхальчык з суседняй вёскі Залессе.

У гэтым раздзеле можна ўбачыць многа зброі і дакументаў.

Ёсць у музеі і раздзел аб пасляваенным жыцці, які называецца «Працоўная слава саўгаса». Ён паказвае хуткае цяперашняе развіццё гаспадаркі, няўхільны рост дабрабыту людзей.

*1970*

## Жыццёвыя навелы

Многія ведаюць нашага земляка Уладзіміра Аляхновіча як паэта па вершах, якія не раз друкаваліся на старонках нашай газеты. Ведаюць і па першай кнізе паэзіі «Мора мары», якая выйшла два гады таму назад. Цяпер Уладзімір Іванавіч прадстаў перад чытачамі як празаік. Яго другая кніжка пад назвай «Палескія навелы» не так даўно з'явілася на паліцах слонімскіх кнігарняў.

Не бяруся судзіць, што аўтару лепш удаецца — паэзія ці проза. Гутарка ідзе аб кароткіх навелах, якія напісаны вобразна, сакавіта. Зборнік увесь час трымае чытача ў неаслабным захапленні роднай прыродай, сціпласцю і шчырай працай мясцовых людзей.

У сваіх творах аўтар не шукае экзотыкі. Ён проста ідзе па зямлі, многа працуе, акунаецца з галавой у адвечную мудрасць і жыццёвую праўду, якія ўласцівы жыхарам нашай міралюбівай краіны.

Дзе, як не на ўлонні прыроды, так поўнасцю раскрываецца чалавек! І гэта добра адчуў і падмеціў малады пісьменнік. Бадай, без такой уласцівасці цяжка стаць летапісцам некаторых падзей, светлых мар, вялікіх перамог, чым напоўнена ўсё наша кіпучае жыццё.

Ёсць у народзе прымаўка: малы залатнік, да дарагі. Так і палескія навелы — кароткія, простыя, але змястоўныя. І ў душы яны спелі даўно, з дзіцячых гадоў. Яны ўсе біяграфічныя, а гэта цікава.

У адной з навел («Чырвоныя макі») У. Аляхновіч апісвае падзеі на невялікім паўстанку, калі ён працаваў у вышукальных экспедыцыях на Палессі (зрэшты да той пары адносяцца і ўсе навелы). Ён убачыў такі малюнак. Маладая жанчына замітусілася каля трохгадовай дзяўчынкі. Тая плакала, што маці не купляе ёй «мішутку». Да дзяўчынкі падышоў чалавек гадоў пад шэсцьдзесят, выняў з кішэні цацку. Дзяўчынка ўзяла кольца з трыма шарыкамі-бразготкамі, перастала плакаць і залілася вясёлым дзіцячым смехам.

Расказчык (нам здаецца, што гэта быў сам У. Аляхновіч) ніяк не мог прыпомніць, дзе ён бачыў гэтага чалавека. І раптам успомніў. На тым самым паўстанку ён, трохгадовы хлопчык, у халодны дажджлівы дзень разам з маці хадзіў уздоўж вайсковых саставаў, чакаў з вайны бацьку. Ногі ад холаду здзервянелі, а бацькі сярод байцоў нідзе не знайшлі. Тады (як да гэтай дзяўчынкі) падышоў незнаёмы дзядзька, зняў з плячэй ранец, дастаў чаравікі і працягнуў хлопчыку:

— Ну, бяры, арол, не саромейся! Вёз сваймy, а выйшла... Насіць няма каму...

Хлопчык на ўсё жыццё запомніў рысы гэтага чалавека.

Такая дабрата, падчас схаваная ў падтэксце, адчуваецца ў герояў кожнага кароткага апавядання. Нішто — ні вайна, ні зверствы фашыстаў, ні пасляваенныя цяжкасці — не магло зачэрсцвіць характар нашых людзей. Наадварот, усе тонкія струны добрай душы яшчэ мацней зазвінелі.

Дарэчы сказаць, беларускія звяры і птушкі ў творах нашага земляка такія ж, добрыя і лагодныя, як і гаспадары палескіх нізін — людзі. Аб гэтых навелах цяжка пісаць, там у двух-трох радках часам больш сказана, чым у доўгім мудрагелістым апавяданні. Вось, напрыклад, навела «Бусел і Жэнька», дзе апісваецца, як пры адлёце ў вырай не мог узняцца з падбітым крылом бусел.

«Упэўніўшыся, што ўзляцець не ўдасца, птушка знерухомела, застыла. У яе клёкаце чулася роспач. Здавалася, што яна плача. Гэта быў ужо не клёкат, а стогн. Грудны чалавечы стогн.

Бусліная чарада, зрабіўшы апошні круг над поплавам, прапала ў небе.

— Трэба яго злавіць, — сказаў мой калега па экспедыцыі Жэнька Груша, — бо іначай ён замерзне.

Я быў упэўнены, што бусел нават з перабітым крылом бегае, як той страус. І ён абавязкова ўцячэ ад чалавека.

Я ўбачыў, як Жэнька пакаўзнуўся і ўпаў. Бусел, які дагэтуль стаяў нерухома, адрыгануў і хутка паклыпаў насустрач. Здавалася, што ён спяшаецца на дапамогу чалавеку».

Канчаецца навела тым, што Жэнька працягнуў на далоні хлеб. Птушка схапіла з рукі ежу. «Назад, да нашай палаткі, чалавек і бусел ішлі разам».

Кніга цікавая, хоць у ёй няма нічога выдуманага. Аўтар мок і мёрз у экспедыцыйных паходах і палатках. Ён бачыў, як былыя франтавікі і моладзь мужна пераносяць усе цяжкасці. Праз некалькі гадоў геолаг пабываў у тых мясцінах, дзе некалі згубіў у багне боты і сам ледзь не ўтапіўся. Там, на асушаных землях, шумелі буйныя каласы збожжа.

«Пахне навальніцаю», — сказаў брыгадзір у адной з навел, расцёршы ў загарэлых далонях жытні колас.

«Што меў на ўвазе брыгадзір, я не стаў удакладняць. Я зразумеў гэта па-свойму: любы хлеб пахне навальніцаю, навальніцамі. У кожнай крупінцы хлеба — праца хлебароба, жыццёвыя нягоды і радасці. І здабываюць яго цяжка».

Яшчэ цяжэй было здабываць свабоду ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Уладзімір Іванавіч знайшоў сціплыя, але цёплыя словы, каб напісаць свае ўражанні аб мемарыяльным помніку загінуўшым воінам Дняпроўскай ваеннай флатыліі, які пастаўлены ў Пінску.

Кожны, хто любіць родную літаратуру, з цікавасцю прачытае нявыдуманыя «Палескія навелы».

*1970*

## З гісторыі гарадской друкарні

Да верасня 1939 года ў Слоніме налічваліся чатыры саматужныя друкарні. Гэта былі, як піша першы рэдактар раённай газеты І. А. Чарняўскі, падсобныя майстэрні мясцовых гандляроў для выпуску розных квітанцыйных дакументаў, пераплёту прыватных кніг і сшыткаў, друкавання аб'яў аб смерці, розных паведамленняў мясцовых улад.

На другі дзень устанаўлення на Слонімшчыне савецкай улады (19 верасня 1939 года) адбыўся сход рабочых друкарняў. Высветлілася, што ў падвалах валяліся старыя рускія і беларускія шрыфты. Рабочыя рассыпалі іх па касах. І вось 25 верасня 1939 года на невялікім аркушы выйшла ў горадзе першая газета на беларускай мове «Вольная праца», якая расказала аб савецкай уладзе, аб пераўтварэннях, што адбываліся на тэрыторыі заходніх абласцей.

Затым усе друкарні аб'ядналі ў адну і размясцілі яе ў прасторным на той час памяшканні на Студэнц-

кай вуліцы. Мінскія друкарні прыслалі многа новых шрыфтоў і кас. Газета пачала выходзіць рэгулярна два разы ў тыдзень на чатырох старонках.

Нямецка-фашысцкія захопнікі перанеслі друкарню на вуліцу Янкі Купалы (тады яна называлася Маставая), дзе друкавалі свае загады. Пры адступленні з горада яны падпалілі будынак, і машыны, шрыфты і ўсё абсталяванне згарэлі.

Пасля выгнання гітлераўцаў друкарню пачалі аднаўляць на яе старым месцы, тым больш што ўцалеў будынак. Дасталі з пажарышча часткі згарэлых друкарскіх машын і сяк-так сабралі адну плоскую машыну, каб зноў можна было выпускаць раённую газету. Друкарскую машыну прыходзілася круціць рукамі, бо не было электраэнергіі. На першым этапе адраджэння друкарня налічвала 10 рабочых.

Друкарня раённай газеты хутка пачала расці і з 1945 года, з улікам далейшага развіцця, пачала называцца гарадской. У 1946 годзе была прывезена з Мінска новая друкарская машына, на якой выпускалася газета два разы ў тыдзень тыражом у тры тысячы экзэмпляраў. Цяпер раённая газета выходзіць тры разы ў тыдзень, яе тыраж даведзены да 8331 экзэмпляра.

*1970*

## Збыліся Коласаўскія пажаданні

Жыхар вёскі Дзераўная Слонімскага раёна Уладзімір Іосіфавіч Раманоўскі дачакаўся вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але здароўе ўжо было падарвана, і ён доўга не нацешыўся свабодай — памёр.

У хаце засталіся маці, дзве дачкі і два сыны-блізнюкі. Цяжка было без бацькі, асабліва старэйшай Насці, бо на яе плечы лёг цяжар дапамагаць маці.

А час няўмольна бег наперад і цягнуў угару малых. Насця вырасла ладнай дзяўчынай і, як кажуць, упала ў вока Станіславу Дуброўскаму з недалёкай вёскі Ваўчуны. Хлопец з дзяўчынай часта сустракаліся, і справа дайшла да вяселля.

Згодна з народным звычаем, на вясельнай урачыстасці маладых павінен благаслаўляць бацька. А калі яго няма, то на той час бацькам становіцца блізкі сваяк або добры чалавек.

Доўга Насця думала, перабірала ў памяці, каго папрасіць на вяселле і назваць самым родным, дарагім. Навокал было многа добрых, спагадлівых людзей. Дзяўчына не давала ганьбы нікому. Толькі ёй хацелася знайсці такога бацьку, які наймацней любіць родны край. Яшчэ са школьнай парты Насці падабаліся мілагучныя, шчырыя вершы і цікавыя апавяданні народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

«Вось хто быў бы родным бацькам, — прамільгнула думка ў будучай маладой, — але ці згодзіцца прыехаць». Гэтая думка не пакідала дзяўчыну, і яна вырашыла прасіць Канстанціна Міхайлавіча наведаць яе сямейную ўрачыстасць. І пісьмо паляцела ў Мінск. У ім гаварылася аб жыцці-быцці, пра гора і радасці, аб усім, што прыйшлося перажыць.

Сніўся нават сон, што бацька Уладзімір Іосіфавіч і Канстанцін Міхайлавіч вялі яе, яшчэ маленькую дзяўчынку, у ясную, сіняватую даль. Людзі гаварылі: сон вельмі добры, маўляў, маладую пару чакае радасць.

І вось неўзабаве прыйшоў ад народнага паэта ліст, які засмуціў Анастасію. Якуб Колас пісаў: «Учора мне

даставілі сюды, у бальніцу, дзе я зараз знаходжуся, Ваша пісьмо. Ад усяго сэрца дзякую Вам, Стасенька, за Ваша сардэчнае пісьмо і запрашэнне прыехаць на Ваша вяселле. І прыехаў бы, каб не быў хворы… Дык дазвольце, мая дарагая Станіслава Уладзіміраўна, ад усяго сэрца павіншаваць Вас з Вашай асабістаю вялікаю ўрачыстасцю, з днём Вашага выхаду замуж. Няхай жа замуства Ваша будзе радасным і шчаслівым. Таксама віншую і Вашага мужа. Жывіце ў згодзе, у дружбе і шчасці. Цалую Вас па-бацькоўску».

Якуб Колас пасля гэтага хутка памёр. Смерць паэта пакінула глыбокую рану ў сэрцы Анастасіі Уладзіміраўны Дуброўскай. Яна сказала пры нашай нядаўняй сустрэчы, што было такое цяжкае адчуванне, нібы памёр родны бацька.

— А як наконт шчасця, ці збыліся Коласаўскія пажаданні? — пытаюся ў гэтай вясёлай жанчыны.

— На сваё шчасце не крыўдую, — адказала Анастасія Уладзіміраўна. — Хаджу на працу ў калгас, жывём добра.

І расказала, што сястра выйшла замуж, жыве някепска. Брат Валодзя працуе шафёрам, другі брат Анатоль — заатэхнік у адным з калгасаў Дзятлаўскага раёна.

У Анастасіі Уладзіміраўны і Станіслава Казіміравіча Дуброўскіх трое дзяцей, і ўсе вучацца. Старэйшы сын Ваня ходзіць у дзясяты клас Дзераўноўскай сярэдняй школы. Гэта ён і сястра Валя як дарагую рэліквію бераглі пісьмо дзеда Коласа і потым адаслалі яго ў літаратурны музей.

Анастасія Уладзіміраўна сказала яшчэ, што каб Якуб Колас пабываў у Ваўчунах, то напэўна нешта цікавае напісаў бы. І мы такой думкі, бо вёска раскінулася некалькімі групамі хат у вельмі пры-

гожай мясцовасці пры самым лесе. Сапраўды, гэты краявід падобны да мясцін Коласавай мясцовасці.

*1970*

## Мацней за смерць

Слонімцы з нецярпеннем чакаюць кожны новы спектакль нашага народнага тэатра. На гэты раз у перапоўненай зале раённага Дома культуры адбылася прэм'ера драмы ўкраінскага пісьменніка Пятра Салюка «Запомніце іх імёны».

Спектакль робіць моцнае ўражанне на гледачоў. Дзеянне адбываецца ў час вайны на тэрыторыі Савецкага Саюза і ў Кракаўскім ваяводстве Польшчы, куды наша камандаванне пасылае групу разведчыкаў.

Чырвонай ніткай праходзіць інтэрнацыянальная дружба, ярка паказана сумесная барацьба савецкага і польскага народаў супраць агульнага ворага — гітлераўскіх захопнікаў. Вернымі памочнікамі нашых разведчыкаў, якія здабывалі весткі аб кракаўскім умацаваным раёне немцаў, аказаліся кіраўнік падпольнага камітэта Польскай рабочай партыі Міхаіл, яго жонка Ванда і другія патрыёты.

Ад пачатку і да канца ў спектаклі паказана канкурэнцыя двух нямецкіх карных арганізацый — гестапа і абвера (ваеннай разведкі). Здаецца, іх прадстаўнікі перагрызлі б адзін другому горла, каб толькі даказаць перад сваімі фюрэрамі, што яны найлепш могуць працаваць. Такая ўжо воўчая мараль у фашысцкіх галаварэзаў. А мэта ў іх адна — тэрор, грабеж.

Рэжысёр народнага тэатра Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч і акцёры правільна супрацьпаставілі

савецкіх людзей гітлераўцам. У імя перамогі над лютым ворагам, у імя свабоды савецкія людзі падвяргаюцца небяспецы, ідуць на смерць.

Праўдзівыя, пераканаўчыя вобразы савецкіх патрыётаў стварылі акцёры. Гледачы даўно, яшчэ па ранейшых спектаклях, палюбілі настаўніцу хіміі другой сярэдняй школы Лілію Міхайлаўну Літвіненку. У спектаклі «Запомніце іх імёны» яна іграе ролю савецкай разведчыцы Ганны. Бачачы падвойную ігру, мы захапляемся эмацыянальнай насычанасцю яе глыбокіх чалавечых пачуццяў. Глядач не ведае, чым закончыцца паядынак трапіўшай да шэфа гестапа савецкай разведчыцы Ганны, але верыць, што жанчына не здрадзіць таварышам па зброі, хутчэй загіне ад рук злачынцаў, бо справа вызвалення, любоў да Радзімы мацней за смерць.

Такімі аказаліся таксама савецкія разведчыкі Міхайлаў і Вольга, ролі якіх выконваюць майстар тэлеатэльё Мікалай Ліхадзееў і настаўніца трэцяй школы Ларыса Фірсава. І яны стварылі вобразы мужных, самаадданых патрыётаў.

За апошні час прыкметна вырас як артыст дыспетчар Грыбаўскага спецаддзялення «Сельгастэхніка» Анатоль Цярэнін, які таксама іграе савецкага разведчыка. Малады воін дыпламатычна, дастойна трымае сябе перад вопытным ворагам Бромбергам.

Ролю падпольшчыка Міхала выконвае адміністратар кінатэатра «Мір» Віктар Шчарбакоў, а ролю яго жонкі — дырэктар вочна-завочнай школы артыстка народнага тэатра Кацярына Палішчук. Ролі не лёгкія, але сыграны праўдзіва. Верыцца, што гэта вопытныя польскія падпольшчыкі, якія адважна ідуць на смяротную небяспеку дзеля свабоднага жыцця.

Бромберг у выкананні артыста народнага тэатра К. Ярашчука прадстаў як вопытны афіцэр нямецкай разведкі. Ён у той жа час і шкурнік. Убачыўшы крах гітлераўскай ваеннай машыны, Бромберг шукае ратунку ў савецкіх разведчыкаў, перадае ім каштоўныя звесткі, абы толькі даравалі жыццё.

З гумарам, свабодна, з характэрнымі звычкамі ролю гітлераўскага афіцэра, галоўнага інжынера ўмацаванага раёна Пекеля іграе шафёр хуткай медыцынскай дапамогі Віктар Піменаў. І гэты акупант, трапіўшы ў палон да нашых разведчыкаў, купляе сабе жыццё — адразу выдае план умацаванняў Кракава.

І толькі Нойман, шэф гестапа (ролю яго ўдала выконвае ветурач саўгаса «Маладая гвардыя» Аляксандр Фёдаравіч Малік) застаецца фашысцкім фанатыкам.

Добрае музычнае афармленне Л. Кабалкіна і М. Гарабца робіць спектакль яшчэ больш успрымальным.

Гэты прыгодніцкі спектакль з мноствам вострых падзей — шостая па ліку работа Мікалая Варвашэвіча ў Слоніме. Шостая, але не апошняя. Пажадаем яму і артыстам-энтузіястам далейшых удач.

*1970*

## У абноўленым аддзеле Слонімскага краязнаўчага музея

Бадай, няма такога чалавека, які не любіў бы пахадзіць па грыбных ці сунічных мясцінах лесу, паслухаць птушыную музыку або прайсціся ўздоўж рэчкі каля чаротавых і лазовых зараснікаў. Удыхнуўшы поўнымі грудзямі паветра, настоенае на водары родных прастораў, чалавек набірае сілу, адчувае найвышэйшую асалоду жыцця.

Нешта падобнае адчуваеш, калі пройдзеш па залах Слонімскага раённага краязнаўчага музея, у якіх размешчана экспазіцыя абноўленага аддзела прыроды. Глядзіш на цуды роднага краю, сабраныя і па-мастацку адлюстраваныя ў гэтых залах, і паўтараеш словы Якуба Коласа: «Дзе ж у свеце край другі такі знайсці?»

Каб лепш зразумець прыродныя з'явы сучаснай Слонімшчыны, аддзел прыроды пачынаецца з гісторыі жыцця на Зямлі. Дыяпазітывы і карты паказваюць прасцейшыя віды жывых арганізмаў. У пазнейшы перыяд з'явіліся рыбы, яшчарападобныя жывёлы. У вітрыне паказаны адбіткі і акамянеласці жывёлін, якія жылі ў розныя геалагічныя эры.

У наступнай вітрыне сабраны абломкі касцей і адкладаў чацвярцічнага перыяду. Тут ёсць рогі вялікарогага аленя, рогі тура, а таксама зуб маладога маманта (вага зуба 3.750 грамаў), які быў знойдзены на беразе Шчары каля вёскі Ніз.

Сучасны рэльеф Слонімшчыны сфарміраваўся ў выніку ўсіх геалагічных працэсаў, але галоўным чынам у выніку дзейнасці леднікоў. На тэрыторыі раёна размешчана Слонімскае ўзвышша, вышыня якога дасягае 227 метраў над узроўнем мора. Два вялікія фотаздымкі паказваюць гэтае ўзвышша і шыракахвалістую раўніну. Тут жа вісіць карта раёна. Дыяграма паказвае размеркаванне тэрыторыі па ўгоддзях. Агульная плошча сучаснага раёна — 142 875 гектараў. На фотаздымках — дрэвы, якія ахоўваюцца законам рэспублікі, Альбярцінскае возера, бераг ракі Шчара. Ніжэй пад шклом — шэсць маналітаў з узорамі глебаў, характэрных для нашага раёна.

Зроблена таксама карта карысных выкапняў з размешчанымі на ёй фатаграфіямі залежаў торфу, пяску, пясчана-жвіравых матэрыялаў, мелу, гліны. Ніжэй у вітрыне сабраны ўзоры гэтых выкапняў.

Арыгінальна паказаны чатыры пары года. Тут бачым дыяпазітывы, фатаграфіі, гербарыі, чучалы звяроў і птушак.

Прыгожы наш лес, які займае 32,5 працэнта плошчы раёна. Шэсць дыяпазітываў характарызуюць лясны краявід. Двухметровая фотаўстаўка «Сасновы лес» і іншыя фотаздымкі даюць уяўленне аб розных пародах дрэў. Да кожнага здымка ёсць устаўка з мантажом драўнінных і куставых парод. З-за фатаграфій дрэў на нас паглядаюць заяц, лісіца, воўк, казуля, янотападобны сабака, вяртлявая вавёрка. У асобную групу сабраны карысныя птушкі.

Наведвальнікі абавязкова звернуць увагу на чучала даўнейшага жыхара нашых лясоў — мядзведзя, што стаіць пасярэдзіне залы, і на дыяпазітыў зубра. Зубр зрэдку наведвае Слонімшчыну.

Галоўныя нашы вадаёмы — рака Шчара, Альбярцінскае і Бяздоннае азёры. Яны і адлюстраваны на фотаздымках. Глядзіш на здымак і бачыш, як плывуць плыты па Шчары. Гэта самы танны спосаб дастаўкі драўніны, які здаўна выкарыстоўвалі нашы продкі.

Багата прыбярэжная і водная фаўна ў нашым раёне. Многа птушак, рыб, водзіцца выдра, бабёр. Бабёр паказаны ў той час, калі перагрыз дрэва. Асобна трэба адзначыць сухі акварыум, у якім размешчаны чучалы прамысловых рыб. Рыбы выглядаюць як жывыя.

Далей ідуць лугі, балоты. Да кожнага луга дадзены адпаведны гербарый, які характарызуе кармавую

каштоўнасць траў. Паказаны чучалы птушак, якія насяляюць нашы лугі і балоты.

Нізінныя балоты — гэта крыніцы торфу, паліва і ўгнаення для палёў. Многія фатаграфіі дапаўняюць паняцці аб лугах і балотах.

Мы не раз бачылі на палетках жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, лён, караняплоды, але з прыемнасцю аглядаем снопікі зернявых культур, муляжы буракоў, бульбы і інш.

Можна ўбачыць гербарый лекавых і мёданосных раслін, штучныя соты з натуральнымі пчоламі.

Зрокавая памяць у чалавека вельмі трывалая. Выйдзеш з гэтага аддзела, а перад вачыма стаяць цудоўныя малюнкі прыроды і яе пераўтваральнікаў — нашых працавітых людзей. Здаецца, самая цікавая кніга не можа пакінуць такога ўражання аб нашым раёне.

Вялікую работу па абнаўленню аддзела прыроды прарабілі дырэктар музея Ірына Шпыркова і супрацоўніца Марыя Сакалова, якія каля двух гадоў збіралі розныя гербарыі.

*1971*

## Тварцы цудоўнага

Ёсць характэрная рыса ў нашых людзей — адчуваць прыгажосць і тварыць цудоўнае. У гэтым яшчэ раз пераконваешся, калі пабываеш на выстаўцы народнай творчасці.

Выстаўка займае адзін пакой у Слонімскім раённым краязнаўчым музеі. Але яе характарызуе не колькасць экспанатаў, а іх тэматыка, разнастайнасць.

Загадчык клуба прамкамбіната Віктар Жук прадставіў для паказу трыццаць адзін твор. Здзіў-

ляешся, што гэта зрабіў адзін чалавек. Тут разьба па дрэву, чаканка па металу, каляровыя лінагравюры, малюнкі тушшу.

У разьбе па дрэву В. Жук імкнецца да таго, каб некалькімі штрыхамі стварыць закончаны малюнак. Гэта яму асабліва ўдалося ў рабоце «Казуля».

Мастак шмат увагі ўдзяляе гістарычнай, рэвалюцыйнай, ваеннай тэмам. Лінагравюры «Смольны», «Начны дазор», «Карпаты», «20-ы год» робяць добрае ўражанне, запамінаюцца. Ваенная тэма прадстаўлена работамі «У дазоры», «Паўночная граніца», «Абаронцы Радзімы». Адзін з твораў паказвае салдата, які прыехаў да бацькоў на пабыўку. Ад карціны вее цеплынёй, можа, і таму, што аўтар не забыў прыкмеціць дэталь: на стале — самавар.

Малюнкі тушшу таксама выклікаюць прыемнае ўражанне. На малюнку «Роздум», які можа быць і застаўкай і ілюстрацыяй у кнізе, паказана дзяўчына, мабыць, студэнтка за рашэннем важнай задачы.

На мінулых выстаўках у нас не было чаканкі па металу. Таму з цікавасцю наведвальнікі глядзяць гэтыя работы Віктара Жука. На наш погляд, чаканка таксама не кепска ўдаецца ўмельцу. Акрамя барэльефных работ, у тым ліку і фантастычнай «Арбіты», мастак прадставіў браслет, завушніцы і іншыя прадметы жаночага ўпрыгожання.

З дрэва можна зрабіць цудоўныя мастацкія карціны. Гэтым захапіўся інжынер мэблевай фабрыкі Уладзімір Дзяргай, які экспануе некалькі твораў: пано «Ленін» і «Аўрора», «Макі», «Дзяўчына».

Пра настаўніка Сялявіцкай васьмігадовай школы Эдуарда Маркушэўскага я пісаў не раз. І на гэтую выстаўку ён прыслаў некалькі аплікацый саломкай. Жоўтая і памаляваная саломка, наклееная на

чорны фон, вельмі добра глядзіцца. А тое, што і як на малюнку прадстаўлена, сведчыць аб таленце і фантазіі мастака. Аплікацыі ўмельцу ўдаюцца, ствараюць незабыўнае ўражанне, сведчаннем таго, напрыклад, з'яўляецца малюнак «Па ваду». Варта было б Э. Маркушэўскаму папрацаваць над арганізацыяй асабістай выстаўкі.

Пенсіянер Эдуард Эдуардавіч Мацяевіч — майстар інкрустацыі па дрэву. На выстаўцы паказаны тры яго шкатулкі. На адной з іх адлюстраваны ордэн Леніна, другая прысвечана дружбе народаў. Экспануецца і папяросніца ў выглядзе доміка (для папярос) і калодзежа (для акуркаў).

Захапляецца работай па дрэву і настаўнік Кракоцкай сярэдняй школы Анатоль Жыткевіч. Яго тры вазы з чачоткавай, ці карэльскай, бярозы могуць упрыгожыць любы пісьмовы стол або дамашні столік. Шкада, што на выстаўцы толькі тры гэтыя, магчыма, не самыя лепшыя рэчы.

Выкладчык працы са Слоніма Сяргей Лазарэвіч прадставіў унікальную рэч — інструктаваную беларускім арнаментам самаробную скрыпку. Гэтая прыгожая і па-мастацку выкананая рэч пабывала нават на выстаўцы музычных інструментаў у Маскве. Аўтар экспаната атрымаў там пахвальную грамату.

Славяцца нашы вёскі мастацкім ткацтвам. І цяпер тыя, хто любіць гэтую народную творчасць, ткуць прыгожыя коўдры, пакрывалы, ручнікі. Работнікі музея пастараліся, каб на выстаўцы былі і гэтыя экспанаты. Іх прыслалі Ганна Турлай, Яўгенія Жыткевіч з Кракоткі і Ніна Жыткевіч, якая жыве ў Слоніме. Усе восем экспанатаў цудоўныя. А тыя з іх, што з узорамі беларускіх арнаментаў, заслугоўваюць, каб быць узорамі для вырабаў нашых тэкстыльных фабрык.

Іван Жыткевіч са Слоніма, які вядомы ювелірнымі вырабамі тонкай работы, прадставіў на гэты раз мастацкія вырабы з рагоў жывёлы (падстаўкі, падсвечнік).

З жывапісу на выстаўцы ўсяго тры работы. Гэта пейзажныя эцюды рабочага фабрыкі «Беларусь» Валянціна Жыліна.

Выстаўка народнай творчасці сведчыць аб невычэрпных народных талентах.

*1971*

## Чаканшчык, рэзчык, скульптар

Для Віктара Жука свет прыгожага пачаў раскрывацца з дзіцячых гадоў.

Будучы хлопчыкам, ён перамалёўваў здымкі на паперу. Праўда, малюнкі атрымліваліся слабаватыя, але з уласцівымі рысамі.

Далейшае развіццё таленту Віктара прайшло ў школе. Ён займаўся лепкай з пластыліну, ахвотна маляваў нацюрморты.

Апошні раз зачыніўшы дзверы васьмігадовай школы, малады Жук пайшоў, як кажуць, на ўласны хлеб. Юнака прыняў на працу мастак-дэкаратар, народны ўмелец Віктар Шынаеў. Ён і прывіў Віктару любоў да разьбы па дрэву і чаканкі па металу.

Віктара Жука захапіла і графіка, з якой бліжэй пазнаёміўся, калі быў у войску. Салдат сустрэўся там з мастакамі-графікамі. Ну і сам рабіў спробы паказваць прадметы лініямі, стварыў некалькі карцін.

І яшчэ адно важнае прынёс з арміі Віктар Жук — ваенна-патрыятычную тэматыку, якая хвалюе яго і цяпер.

Гэта некалькі біяграфічных штрыхоў творчай самаадукацыі Віктара Віктаравіча Жука. Варта

дадаць, што ён прачытаў шмат літаратуры аб мастацтве, пабываў у музеях, дзе знаёміўся з лепшымі творамі.

Слонімцы маглі ўпершыню пазнаёміцца з работамі гэтага самабытнага мастака на раённай выстаўцы народнай творчасці. Нас тады здзівіў ён разнастайнасцю жанраў. Прыемна было пазнаёміцца бліжэй з дваццацідвухгадовым народным умельцам, паглядзець на яго работы.

Чаканка па металу, як і разьба па дрэву, патрабуе выключнай дакладнасці, зоркасці: стукнуў або рэзнуў не там — і работа можа быць сапсавана. Але адчаканеныя ім на метале фігуры «памарак» не маюць, выглядаюць быццам вылітыя.

У шэрагу сваіх работ В. Жук адлюстраваў перыяд грамадзянскай вайны, паказваў герояў таго часу. Такі ў яго трыпціх «Тры асілкі», дзе, нібы з помніка, глядзяць на нас вайскоўцы 1920-х гадоў. У творы «За ўладу Саветаў» паказаны рабочы са сцягам, і паказаны ён дынамічна, у руху.

Ваенна-патрыятычную тэматыку дапаўняюць каляровыя лінагравюры «Абаронцы Радзімы», «Спатканне» і іншыя. Робіцца каляровая лінагравюра так: спачатку мастак выразвае на лінолеуме клішэ, затым адпаведныя месцы намазвае рознымі фарбамі і адбівае на паперы без адзінага мазка пэндзля. І важна тое, што гэта не перамалёўкі, як некалі ў дзяцінстве, а ўласныя кампазіцыі.

Розныя бываюць графіка і разьба па дрэву. У Віктара Жука яны захапляюць сваёй прастатой і праўдзівасцю вобразаў. Вось яго «Дзяўчына» або «На начлезе», яны надоўга запамінаюцца.

Мастак зрабіў контуры коней на фоне белага месяца, у праменнях якога адсвечваюць белізной хвасты

і грывы. Работа можа служыць застаўкай у любой лірычнай ці сельскагаспадарчай кнізе.

Самабытны мастак спрабуе свае сілы і ў скульптурным жанры. Яму ўдаюцца партрэты. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць скульптурны партрэт пагранічніка, Героя Савецкага Саюза Аляксея Лапаціна.

Добрыя творчыя задумы ў Віктара Віктаравіча. Ён хоча папрацаваць над народнай тэматыкай, зрабіць серыю твораў у скульптуры, разьбе па дрэву.

*1971*

## Стваральнік прыгожага

Пасля заканчэння Ваўкавыскага педагагічнага вучылішча Часлава Браніслававіча Маркушэўскага назначылі настаўнікам Сялявіцкай васьмігадовай школы. Там ён працуе сямнаццаты год, вядзе пачатковыя класы, а таксама маляванне ў старшых класах.

Не выпадкова маляванне даручылі весці Чаславу Браніслававічу. Ведалі, што ён любіць гэтую справу, сам малюе ў вольныя гадзіны.

Да паступлення ў педвучылішча хлопец нават не бачыў ні адной рэпрадукцыі з карцін вядомых мастакоў. Ён проста захапляўся творчасцю народных умельцаў, доўгімі вечарамі сядзеў каля сястры Адэліі, прыглядаўся, як яна ткала прыгожыя ручнікі і пакрывалы з рознымі ўзорамі.

А калі жыў і працаваў у вёсцы Сялявічы на Слонімшчыне, Часлаў Браніслававіч неяк зайшоў у дом Наталлі Сямёнаўны Жукоўскай. На сцяне віселі аплікацыі з саломы па матывах народнага ткацтва.

Вядома, ткаць ручнікі і пакрывалы настаўнік не збіраўся, а стварыць карціны з саломы вырашыў цвёрда.

Атрымаўшы ад Наталлі Сямёнаўны кансультацыю, як рыхтаваць патрэбную салому, як яе фарбаваць і якім карыстацца клеем, Часлаў Браніслававіч прыступіў да справы. Спачатку са сваімі вучнямі ён наклейваў саломку на палатно. А потым пачалі наклейваць узоры на чорнай дошцы. Работы атрымліваліся трывалыя і больш прыгожыя.

Тут і прыдалося тое, што некалі ў вучылішчы займаўся маляваннем. Справа ў тым, што на памаляванай у чорны колер дошцы трэба перш за ўсё нарысаваць адпаведны эскіз, а тады ўжо наклейваць залацістыя і пафарбаваныя кавалачкі саломы.

Вучнёўскі гурток «Умелыя рукі» Сялявіцкай васьмігодкі працуе і па сённяшні дзень. Работы гурткоўцаў экспанаваліся на раённых выстаўках і карысталіся папулярнасцю ў наведвальнікаў. Сам настаўнік таксама кожны год стварае па некалькі работ, адлюстроўваючы ў іх народны быт, фальклор.

Работы Часлава Браніслававіча «Хлеб-соль», «Сям'я» і ўзоры па матывах беларускага ткацтва экспанаваліся два разы на раённай і па аднаму разу на абласной і рэспубліканскай выстаўках.

У бягучым годзе на раённай выстаўцы народнай творчасці таксама былі прадстаўлены пяць аплікацый з саломы Ч. Маркушэўскага. Па майстэрству і тэматыцы сярод іх выдзяляліся «Вясна» і «Музыкант».

Народны ўмелец рыхтуецца да індывідуальнай выстаўкі. Народная тэматыка захапляе яго ўсё больш і больш.

*1971*

## І тчэ забыўшыся рука...

Хто не ведае гэтых цудоўных радкоў з верша вядомага беларускага паэта Максіма Багдановічы, у якім паэт апісвае беларускіх дзяўчат, што «ў панскі двор дзеля красы» «бяздольныя ўзяты ткаць залатыя паясы».

Біяграфія Ганны Максімаўны Турлай, якой пайшоў восьмы дзясятак гадоў, напамінае лёс слуцкіх ткачых. Розніца толькі ў тым, што кракоцкая ткачыха прала і ткала для паноў Развадоўскага і Міхайлоўскага не на панскіх дварах, а ў сваёй невялікай хатцы.

У старога Максіма было два гектары поля і чацвёра дзяцей. Слабая гаспадарка не магла пракарміць сям'ю, і гаспадар увесь час ездзіў на вывазку лесу.

Як крыху падраслі, узняліся на ногі дзеці, то таксама кінуліся шукаць кавалак хлеба, якога дома ніколі не хапала. З васьмі гадоў Ганна пайшла ў наймы: жала жыта, зграбала сена, капала бульбу. А зімой маці вучыла яе прасці кудзелю — зноў жа не сабе, а багатым аднавяскоўцам і панам.

Усю зіму Ганна, дзве сястры і маці пралі тонкі кужаль, а напрадвесні ткалі палатно, ручнікі, настольніцы. Найцяжэй было выткаць настольніцу ў дванаццаць нічальніц. А плата была такая, што ледзь хапала на газу.

— Але, якая б ні была цяжкая праца, — расказвае Ганна Максімаўна, — яна прыносіць і радасць. Вельмі прыемна бачыць на палатне ружовыя кветкі, зялёныя лісцікі і па баках — узоры беларускага арнаменту. Паны ганяліся за нашымі мастацкімі вырабамі, адсылалі аж у Варшаву сваім знаёмым.

Любоў да ўсяго прыгожага, да роднай прыроды Ганна Максімаўна пранесла праз усё жыццё. Сёння

ёй не трэба працаваць доўгімі зімовымі начамі, як раней. Цяпер у хаце ярка гарыць лямпачка, на стале ляжыць свежы пахучы хлеб, ёсць і да хлеба. У хату кожны месяц паштальён прыносіць пенсію.

Але Ганна Максімаўна не была б Ганнай Максімаўнай, каб закінула сваё ўмельства. Да яе прыходзілі па ткацкую навуку Соня Булыка, Насця Петручэня і другія дзяўчаты і жанчыны. І народны ўмелец заўсёды раскрывае людзям свае веды, дзеліцца вопытам.

— Цяпер у магазіне можна ўсё купіць, — зазначае гэтая паважаная жанчына, — але няхай ткуць на здароўе, каб не звялося наша майстэрства.

Можна спадзявацца, што майстэрства такіх ткачых-самавучак, як Ганна Максімаўна Турлай, ніколі не звядзецца. Мастацкія ўзоры з ручных тканін смела і ўмела пераносяцца на шырокія фабрычныя палотны.

Слава слонімскіх ткачых-самаробніц ужо даўно перакрочыла межы рэспублікі. Напрыклад, здольная вучаніца Ганны Максімаўны Вера Юрык, якая навучылася яшчэ і вязаць на сто ўзораў, павезла мастацкія здабыткі ручнога ткацтва ў суседнюю Украіну.

Многія слонімцы аглядалі прыгожыя ткацкія вырабы Ганны Турлай, Яўгеніі Жыткевіч і другіх умельцаў на раённай выстаўцы народнай творчасці, якая сёлета адбылася вясной.

Арганізатарам наступнай раённай выстаўкі варта выявіць і шырэй прадставіць розныя віды хатняга мастацкага ткацтва. Ім славіцца наш край.

*1971*

# Саўгасны садавод

Калі едзеш з Шылавіч у Чапялёва, што на Слонімшчыне, то справа недалёка ад дарогі ўбачыш малады саўгасны сад. Ён роўнымі радамі абягае за сугліністы ўзгорак і там упіраецца ў жытнія прасторы. Самым старэйшым дрэвам, якія садзіў яшчэ калгас і якія займаюць чатырнаццаць гектараў, ужо будзе дваццаць гадоў.

Гаспадаром гэтага прыгожага кутка зямлі з’яўляецца садавод Васіль Міхайлавіч Балкунец. Жыве ён у вёсцы Чапялёва.

Ужо з самага ранку садавода дома не аказалася. Суседзі сказалі, што пайшоў у сад.

І што цяпер рабіць у садзе, калі з неба сыпле халодны снежаньскі дождж са снегам, падумалася мне. Але, аказваецца, ёсць што. На гук сірэны з-за таго ўзгорка, куды збягаюць абвязаныя ядлаўцовымі галінкамі яблыні, паказаўся пажылы чалавек. Прывітаўшыся, ён сказаў:

— Папраўляю абвязку, каб не было голага месца на ствалах. Праз дзень-другі будзе позна: пачнуцца маразы, ядлаўцовыя лапкі прымерзнуць да зямлі і іх не зрушыць тады з месца.

Разгаварыліся. Васіль Міхайлавіч працягваў:

— Пакінь толькі шчыліну ў абвязцы, заяц ужо хутка знойдзе і мігам пакалечыць дрэва, абгрызе кару. А калючай ядлаўцовай ігліцы баіцца, як вожыка.

Васілю Міхайлавічу 72 гады. Але ён жвавы, бадзёры. Лічыць, што сад без яго будзе сіратой.

Любіць сваю справу саўгасны садавод. Палюбіў яе яшчэ ў маладосці. Калі ажаніўся і пайшлі ў сям’і дзеці, каб яны не лазілі па чужыя грушы і яблыкі, увесь прысядзібны ўчастак засадзіў пладовымі дрэвамі, сам іх прышчапляў.

Гэтую любоў перанёс і на грамадскую справу, без якой не можа пражыць дня. Таму з ранку да вечара яго можна знайсці ў садзе. То зносіць у адно месца падпоркі, то абрэзвае зломленыя галінкі.

Грунтоўную абрэзку дрэў Васіль Міхайлавіч пачынае са студзеня, каб да вясны закончыць. Вядома, лепш было б зрабіць гэта ў канцы лютага або ў пачатку сакавіка, але як не выдзяляць людзей на дапамогу, то сад застанецца неабрэзаным.

Вялікую шкоду могуць нанесці пладовым дрэвам мышы. Пад снегам вакол ствалоў яны робяць хады, грызуць кару. Адзін ратунак — атоптваць снег. І садавод атоптвае ўсе прыствольныя кругі.

Чалавек даўно навучыўся паляпшаць прыродныя ўмовы росту пладовых дрэў, перакопвае зямлю пад кронамі для большага доступу паветра. Калі сад быў меншы, Васіль Міхайлавіч да зімы не пакідаў ні аднаго дрэва неабкапаным.

Вялікую дапамогу чалавеку ў павышэнні ўраджаю садоў аказваюць пчолы. Збіраючы мёд, яны апыльваюць кветкі. Таму ў садзе пасялілі пчоласем'і. Цяпер іх налічваецца пяцьдзясят адна.

Аднак вельмі кароткая пара цвіцення саду. Таму ўвесь сад засяваюць такімі меданоснымі культурамі, як белая канюшына і белы доннік — гэта ўжо для пчолаў. Канюшына з'яўляецца каштоўнай культурай і для саду. Яна абагачае глебу азотам і паляпшае структуру.

Пытаемся ў садавода, які быў сёлета ўраджай яблыкаў.

— Што аб гэтым гаварыць, — махнуў рукой Васіль Міхайлавіч. — Ураджай быў незвычайны, аж галіны ламаліся. Толькі малую мы атрымалі карысць.

У канторы саўгаса паведамілі, што ўраджай склаў 22 цэнтнеры з гектара пры плане 7,2 цэнтнера.

А было такіх ураджайных 14 гектараў. Усе яблыкі прадалі па 10 капеек за кілаграм і атрымалі толькі 222 рублі.

— Даў бог цяля, ды няма хлява, — гаворыць Васіль Міхайлавіч, маючы на ўвазе адсутнасць склада для захоўвання фруктаў.

Вядома, каб тыя яблыкі добра знялі і захавалі, то прадалі б даражэй.

Але, нягледзячы ні на што, садавод-самавучка робіць усё, каб і ў наступным годзе буйна зацвілі яблыні.

*1971*

## Разбуджаны талент

Жыццё вясковага хлопца нічым не адрознівалася ад жыцця яго аднагодкаў і аднавяскоўцаў.

І ўсё ж Уладзімір Маркевіч нечым вызначаўся. Ён мог зрабіць табурэтку або іншую патрэбную рэч, якая не была пазбаўлена прыгажосці. Некаторыя нават гаварылі ў Сакалове, што ў хлопца ёсць талент.

Потым Уладзімір трапіў на Слонімскі аўтарамонтны завод, дзе два з палавінай гады працаваў слесарам. Працаваў на такарным, свідравальным і іншых станках. За добры вокамер і кемлівасць хутка слесару прысвоілі чацвёрты разрад.

Аднойчы дырэктар завода выклікаў У. Маркевіча і сказаў:

— Няма ў нас цяпер меднаграфітавага матэрыялу. Падумай, з чаго б зрабіць прарывальнік-размеркавальнік.

І рабочы прыдумаў. Па яго прапанове гэтую дэталь пачалі рабіць з чырвонай бронзы. Эфект атрымаўся добры.

За гэтымі рацыяналізатарскімі штрыхамі недзе глыбей хаваўся талент умельца, аб чым не здагадваўся і сам Уладзімір Андрэевіч. Будучы ўжо на фабрыцы мастацкіх вырабаў, ён убачыў драўляную фігурку зубра грубай рэзкі. І адразу прамільгнула думка: а ці нельга зрабіць лепш?

Уладзіміру Маркевічу вельмі хацелася ўбачыць жывога зубра, гэта дапамагло б у рабоце над сувенірнай фігуркай. Але ўбачыць не ўдалося. Таму перш чым узяцца за рэзку, прыйшлося вывучаць белавежскага звера па шматлікіх фотаздымках.

Добра ўявіць веліканa нашых лясоў дапамаглі вокамернае адчуванне, прыроджаныя здольнасць і фантазія. Узяўшы ў рукі кавалак ліпы і разец, ён сапраўды зрабіў не горшую фігурку зубра за тую, што раней бачыў.

Работа народнага ўмельца была накіравана ў Мінск, на разгляд мастацкага савета. У Мінску яна атрымала высокую ацэнку. Аўтара прэміравалі.

Усё гэта акрыліла чалавека. І ён узяўся за працу з новымі сіламі. Умелец зрабіў ужо дваццаць сапраўды цудоўных сувенірных фігурак, якія могуць упрыгожыць любую кватэру. А пакуль што некалькі гэтых двайнікоў красуюцца на стале аўтара.

Я назіраў, як працуе Уладзімір Андрэевіч. Беручы ў рукі кавалак ліпы, ён не глядзіць на гатовых мініяцюрных зуброў, а рэжа па памяці. Яны ж атрымліваюцца, быццам знятыя з адной формы.

Кожную выразаную з ліпы фігурку зубра майстар пакрывае тонкім слоем лаку і прымацоўвае да падстаўкі — сасновай дошчачкі, на адным баку якой пакінута кара. Гэта надае экспанату своеасаблівы, прыгожы выгляд.

Хоць зубра робіць народны ўмелец з вялікай ахвотай, але гэта ўжо пройдзены этап у яго творчасці. Мастак-самавучка знаходзіцца ў новых творчых пошуках. Яго не менш цікавяць і іншыя прадстаўнікі беларускай фаўны, якіх марыць увасобіць у выглядзе драўляных сувенірных фігурак.

Над стварэннем адной такой новай фігуркі Уладзімір Андрэевіч працуе. Ён робіць сувенір — мядзведзя, які смокча лапу. І зноў жа прыходзіцца тварыць, гледзячы на фотаздымак, бо гэтага звера ў прыродных умовах энтузіяст ніколі не бачыў. Фатаграфія плоская, а добра было б бачыць цела ў выпуклым выглядзе. Выратоўвае стваральніка тое, што ён умее прадставіць прадмет і з другога боку, нябачнага на фотаздымку.

Зайздроснае дараванне ў гэтага чалавека. Наведаўшы яго кватэру, я ўбачыў яшчэ адну рэч — гадзіннік у латуннай аправе, на тэксталітавай падстаўцы. Спачатку я думаў, што гэта фабрычная рэч. Толькі мяне здзівіла тое, што падстаўка замнога выцягнута ў правы бок.

Убачыўшы мой уважлівы позірк, гаспадар кватэры сказаў:

— Усё я сам зрабіў, акрамя гадзінніка. Праўда, кампазіцыя яшчэ не закончана, на свабодным месцы падстаўкі думаю паставіць зубраня.

Я развітаўся з Уладзімірам Андрэевічам Маркевічам, падзякаваўшы за прыемнае знаёмства, і падумаў: колькі яшчэ дрэмле талентаў у нашым народзе!

*1972*

# Пра зборнік в'етнамскай паэзіі

В'етнам, як некалі Беларусь, — шматпакутная, але свабодалюбівая, гераічная краіна. Многа гора выпала на яго потым. Былі японскія, потым французскія каланізатары. А цяпер амерыканскія імперыялісты спусташаюць в'етнамскую зямлю.

Нам да болю ў грудзях зразумелы лёс мужных патрыётаў. І мы з цікавасцю чытаем не толькі паведамленні аб баях супраць захопнікаў, але і мастацкія творы в'етнамскіх пісьменнікаў і паэтаў.

Паэзія — душа народа. У ёй адлюстраваны пачуцці, спадзяванні, вера ў перамогу. В'етнамская паэзія гарталася ў баях з даўніх гадоў, а цяпер прайшла праз агонь знішчальнай вайны, не страціўшы лірызму.

Вялікую справу зрабіў наш вядомы літаратар Язэп Семяжон. Ён пераклаў, а выдавецтва «Беларусь» выдала зборнік твораў в'етнамскіх паэтаў. Кніга называецца «Апалены лотас».

Пачынаецца зборнік паэмай «Жальба салдаткі». Аўтар гэтага класічнага твору паэтэса Даан Тхі Дзьем, якая жыла ў XVIII стагоддзі. Нельга без хвалявання чытаць радкі паэмы, здаецца, што яны напісаны сёння:

Пялёсткамі на скроні ляжа
Мне сівізна — мой госць,
І старасць людзям не раскажа,
Як выглядала маладосць.
Я не ад гэтага ў адчаі,
Што не ўтрымаеш маладосць.
Такіх, як мы, паразлучалі,
А дзе ні глянеш — шчасце ёсць.
А я, згаіўшы ў сэрцы раны,
П'яная паўнатой жыцця,

Схілюся над станком старанна
І буду ткаць да забыцця.

У зборніку змешчаны выбраныя старонкі з «Турэмнага дзённіка» паэта, прэзідэнта Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам Хо Шы Міна. Ён пісаў:

Байцы спяшаюцца на фронт.
Ачаг зары аж да Карачы.
А я сумую ў ланцугах,
Што час так марна трачу!

Ваенная тэматыка шырока прадстаўлена ў зборніку. Вершы кранаюць душу малюнкамі родных мясцін, клічуць на барацьбу. Паэзія, як і зброя, трапна б'е па амерыканскіх злачынцах.

Характэрна, што ў в'етнамскай літаратуры многа жанчын. Напрыклад, Ань Тхо, дачка беднага селяніна, выдала тры зборнікі паэзіі. У вершы «Зязюля», прысвечаным бацьку, яна піша: «Мы дзесяць год мяняем рубяжы, вядзём баі, стаім у каравуле. Ці доўга нам яшчэ?.. Ты мне скажы, скажы па праўдзе, шэрая зязюля!»

Свежасцю і лірызмам, палымянай страснасцю і глыбокім роздумам над жыццём і лёсам народа вее ад вершаў паэтэсы Ван Дай. У зборніку змешчаны толькі адзін яе верш «На маршы». Яна паказвае салдат, якія валяцца з ног на прывале. Аўтар усё прыкмячае: «жывы каснічок — ручай» і як «май — красна кілішкі свае схіляе к занямелай руцэ». І, нарэшце, не вытрымала: «О кветкі! Чаго вам спяшацца, вы ж бачыце — усе мы прысталі. Будзем з задання вяртацца, тады б сабе і расцвіталі».

В'етнамская паэзія бадзёрая, у ёй няма месца для роспачы, яна поўная веры ў перамогу. Вось як пішуць паэты Паўднёвага В'етнама:

Ле Ань Суан:

Твайго аблічча я, салдат,
Не згледзеў уначы.
Была ты ў куртцы, аўтамат
Трымала на плячы.

Тхань Хай:

Мы ў імя Радзімы ўсё
Аддаць гатовы, як адзін —
І кроў да кроплі і жыццё
За нашу волю аддадзім!

Мы верым, што шматпакутны в’етнамскі народ пераможа.

*1972*

## Купалаўскае свята ў Кракотцы

Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы споўнілася 45 гадоў. Гэта адна са старэйшых бібліятэк рэспублікі.

Словы Янкі Купалы ў гады змрочнага панавання пілсудчыкаў клікалі да барацьбы за вызваленне з-пад прыгнёту памешчыкаў і капіталістаў, неслі святло надзеі ў сялянскія хаты. Творчасць любімага паэта, якому 7 ліпеня споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння, любяць і шануюць у Вялікай Кракотцы.

У сонечную нядзелю 28 мая каля вёскі, на ўлонні маляўнічай прыроды, дзе шумяць і разносяць пах жывіцы памаладзеўшыя за вясну сосны, адбылося вялікае купалаўскае свята. Каб адзначыць юбілей паэта і бібліятэкі, сабраліся не толькі хлебаробы мясцовага калгаса. Прыехалі сюды людзі з другіх вёсак і са Слоніма, а таксама госці з Мінска.

У прэзідыум былі запрошаны намеснік старшыні райвыканкама В. І. Жадзейка, паэт Сяргей Грахоўскі, наш зямляк паэт, доктар філалагічных навук Алег Лойка, ураджэнец Кракоткі кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч, старэйшыя аднавяскоўцы, якія стваралі бібліятэку, жонка Валянціна Таўлая Лідзія Сяргееўна, работніца Літаратурнага музея Янкі Купалы Т. С. Тарасава і іншыя паважаныя людзі.

Адкрыў урачыстасць загадчык аддзела культуры райвыканкама Л. І. Каспяровіч. Гаворачы пра старэйшую культурна-асветную ўстанову, якая першая пры жыцці паэта насіла яго імя, ён сказаў:

— Вялікая і цікавая гісторыя гэтай бібліятэкі. Не менш цікавы яе сённяшні дзень. Зараз на паліцах бібліятэкі налічваецца больш за дзесяць тысяч тамоў палітычнай, мастацкай і сельскагаспадарчай літаратуры.

Мастацкае слова стала штодзённым спадарожнікам працаўнікоў вёскі і сельскай інтэлігенцыі. Каля пяцісот чытачоў карыстаюцца кнігамі з гэтай скарбніцы. Толькі ў мінулым годзе яны прачыталі звыш васьмі тысяч кніг.Даклад аб жыцці і творчай дзейнасці Янкі Купалы прачытаў дырэктар мясцовай сярэдняй школы І. В. Беладзед. Даклад суправаджаўся чытаннем вершаў паэта «Мужык», «А хто там ідзе?», «Беларусі ардэнаноснай» і іншых. Іх чыталі вучні Віктар Саламевіч, Ніна Лазар, Таня Лукашэвіч, Вера Сабалеўская, Ніна Шуляк.

Затым выступіў чытач, удзельнік арганізацыі бібліятэкі В. М. Жыткевіч. Ён на памяць прачытаў вялікі ўрывак з паэмы Янкі Купалы «Курган». Гэты ўрывак ён памятае з тых далёкіх часоў, калі ў бібліятэцы паявіліся творы любімага песняра.

Хвалюючымі былі словы прадстаўніка Саюза пісьменнікаў Беларусі паэта Сяргея Грахоўскага.

— На гэтую зямлю, дзе я ступаю першы раз, слова Янкі Купалы прыйшло ў самы цяжкі час, — сказаў ён. — Паважаныя сябры, я прывёз вам прывітанне ад сыноў і ўнукаў дарагога Івана Дамінікавіча — беларускіх пісьменнікаў. На гэтай урадлівай зямлі таксама вырасла плеяда здольных паэтаў. Гэта Валянцін Таўлай, Анатоль Іверс, Алег Лойка, Мікола Арочка і другія. Іх таксама натхняла палымянае слова вялікага Купалы, чый юбілей сёння вы так урачыста адзначаеце.

Выступае Алег Лойка. Ён падзякаваў гасцінным гаспадарам за тое, што заснавалі слаўную бібліятэку.

С. Грахоўскі і А. Лойка прачыталі свае вершы, прысвечаныя юбіляру.

Потым выступалі школьнікі. Яны пад кіраўніцтвам настаўніка В. П. Трафімовіча зрабілі літаратурна-мастацкі мантаж па творах Янкі Купалы. Прагучалі песні «Гэй наперад», «Зайшло ўжо сонейка», якія спявалі жыхары Кракоткі сорак пяць гадоў таму назад.

Былы падпольшчык Павел Крынчык у сваім выступленні ўспомніў часы падпольнай барацьбы, калі словы Янкі Купалы запальвалі агнём сэрцы працоўных.

Слова бярэ Лідзія Сяргееўна Таўлай. Яна прачытала верш Валянціна Таўлая, прысвечаны Янку Купалу, і сказала, што гэта быў бы не адзіны верш Таўлая нашаму песняру, каб жыў Валянцін Паўлавіч. Госця падарыла бібліятэцы два тамы «Анталогіі беларускай паэзіі», выдадзенай на ўкраінскай мове.

Тамара Сяргееўна Тарасава перадала шчырае прывітанне жыхарам Кракоткі ад работнікаў музея

Янкі Купалы, расказала, як будзе праходзіць свята ў Мінску і на радзіме паэта — у Вязынцы. Яна таксама падарыла бібліятэцы біяграфічную кнігу твораў юбіляра.

Загадчык раённага аддзела культуры Л. Касяровіч паведаміў, што загадчык Вялікакракоцкай бібліятэкі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч, які працаваў на гэтай пасадзе 26 гадоў, ідзе на заслужаны адпачынак. Віншавалі Аляксандра Іванавіча дырэктар Гродзенскай абласной бібліятэкі П. Р. Мельнічонак, намеснік старшыні райвыканкама В. І. Жадзейка. Яму ўручылі Ганаровыя граматы, імянны гадзіннік і іншыя каштоўныя падарункі.

Свята ў Кракотцы закончылася канцэртам мастацкай самадзейнасці.

*1972*

## Сувеніры мастака

На Слонімскай мэблевай фабрыцы многа сталяроў, пра якіх гавораць, што яны маюць залатыя рукі. Да іх ліку належыць і сталяр-шаблоншчык Мікалай Фёдаравіч Ляўкевіч. Што ні дай, ён зробіць хутка і добра. Таму і даверылі гэтаму чалавеку рабіць шаблоны, сачыць за тым, каб выпускаемая прадукцыя адпавядала стандарту.

Штогод у горадзе праходзяць конкурсы на званне лепшага па прафесіі. Ад фабрыкі на гэтых спаборніцтвах умелых, як правіла, удзельнічае і Мікалай Фёдаравіч. У 1970 годзе ён выйшаў пераможцам. Першынство заваяваў і сёлета. У бягучым годзе на конкурсе кожнаму ўдзельніку прапанавалі зрабіць па сваёй задуме вешалку на тры калочкі. Сталяр-шаблоншчык з заданнем справіўся датэрмінова. Вешалка была прызнана лепшай.

Высока ацэнена праца М. Ляўкевіча. Партрэт перадавога рабочага красуецца на раённай Дошцы гонару.

Некаторыя майстры спыняюць на гэтым палёт сваёй фантазіі: маўляў, слава прыйшла і больш нічога не трэба. А Мікалай Фёдаравіч не такі, у яго заўсёды ёсць творчая задума, якую хоча здзейсніць, хоча зрабіць нешта новае, прыгожае.

А тут якраз у раённай газеце з'явілася аб'ява, што фабрыка мастацкіх вырабаў арганізуе выстаўку народных умельцаў і запрашае прыняць у ёй удзел. На такое рашэнне не мог не адгукнуцца Мікалай Фёдаравіч: трэба нешта зрабіць!

Будучы малым хлопчыкам, Мікалай моцна пасябраваў са сваім дзедам Міхаілам Мацвеевічам Жыхаркам. Бывала, дзед робіць бочку, а ўнук — домік з абрэзкаў ад клёпак. Аднойчы, калі стары сядзеў на калодцы, а малы на зямлі, над вёскай праляцеў самалёт.

— Бачыш, да чаго дадумаўся чалавек, — сказаў Міхаіл Мацвеевіч, — лятае. Бывала і ў мяне такая думка, каб асядлаць птушку і паляцець за мора-акіян, паглядзець, як жывуць там людзі…

Бочкі… Птушка… Домікі…

Успомніў пра ўсё гэта Мікалай Фёдаравіч і пачаў майстраваць. Пачаў з бочачкі, якая дастойна быць прыгожым сувенірным прадметам.

Мы сядзім з Мікалаем Фёдаравічам за яго сталом, аглядаем тое, што ўжо створана.

— Закурыце, калі ласка, — сказаў гаспадар і крыху прыпадняў над падстаўкай, а потым апусціў назад мініяцюрную драўляную бочачку. На паверхні ляжала ўжо папяроса.

— А гэта што за домік з птушачкай? — паказваю на другую сувенірную рэч.

— Гэта таксама папяросніца, — адказвае Мікалай Фёдаравіч і нахіляе птушку галавой уніз. У гэты час з доміка выкочваецца папяроса, якая трапляе ў птушыную дзюбу.

Гэтыя па-мастацку зробленыя сувеніры могуць упрыгожыць не адну кватэру. Сюды трэба дадаць інкруставаную шкатулку ў выглядзе кнігі, якую таксама зрабіў на выстаўку народны ўмелец.

— Ёсць у мяне яшчэ адна работа, — працягвае размову М. Ляўкевіч, — якая называецца «Мара дзядоў».

Інкруставаная карціна таксама зроблена з дрэва. З умела падабраных і падагнаных кавалачкаў клёну, дубу, арэха паўстаў малюнак — птушка ў палёце, на якой сядзіць чалавек-летуценнік. Гэта падобна на казку, якая ў наш век стала касмічнай явай.

Па слядах бацькі пайшоў і сын Фёдар. Раней ён часта наведваў мэблевую фабрыку, цікавіўся работай чырванадрэўшчыкаў. Прафесія спадабалася. І вось ужо другі год працуе сталяром, нядрэнна спраўляецца з заданнямі.

Пільна прыглядаецца хлопец і да сувенірных вырабаў бацькі, вучыцца ў яго цярплівасці, пераймае вопыт.

Можна пажадаць маладому рабочаму далейшых поспехаў, стаць такім жа майстрам, як Мікалай Фёдаравіч.

*1972*

## Станаўленне

Маладога рабочага гарадской друкарні Анатоля Цярэніна многія слонімцы ведаюць як артыста народнага тэатра. Ён не так даўно прыйшоў на сцэну, але ўжо сыграў нямала роляў у асноўным станоўчых герояў.

У друкарні гавораць, што рэзчык гатовай прадукцыі А. Цярэнін — дысцыплінаваны, з работай спраўляецца добра.

Анатоль Цярэнін прыйшоў у Слонімскі народны тэатр па рэкамендацыі вядомай аматаркі драматычнага мастацтва, настаўніцы другой сярэдняй школы г. Слоніма Феафаніі Лявонцьеўны Ракевіч. Якраз шукалі выканаўцу ролі Якіма Сарокі ў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка».

Анатоль (ён працаваў тады ў Грыбаўскім аддзяленні «Сельгастэхніка») удзячны сваёй былой настаўніцы, што яго і паклікала на добрую справу. З радасцю і страхам узышоў на сцэну новы артыст у даволі вялікай, як на дэбют, ролі. Вобраз рэвалюцыйна настроенага і закаханага настаўніка першы раз не зусім удаўся дэбютанту.

— Не тое, што іграць, нават стаяць на сцэне было страшна перад перапоўненай залай, — успамінае цяпер Анатоль Мікалаевіч.

Дзве сілы змагаліся тады ў яго душы. Адна, якую падганяў страх, цягнула са сцэны; другая, што засновалася на юначым імкненні перамагаць цяжкасці, цягнула на сцэну і перамагла.

Пасля «Паўлінкі» А. Цярэнін удзельнічаў у многіх спектаклях. У спектаклі па п’есе Мікалая Гарулёва «Калі любіш» малады акцёр сыграў ролю студэнта Міці, у спектаклі па п’есе маскоўскага пісьменніка Мікалая Віннікава «ЧП на хутары Дубкі» — ролю калгаснага тэхніка. Гэтыя невялікія ролі дапамаглі яму шліфаваць акцёрскае майстэрства, набірацца новых творчых сіл.

У наступнай рабоце — спектаклі па п’есе ўкраінскага пісьменніка Пятра Салюка «Запомніце іх імёны» — А. Цярэнін выступаў у ролі развед-

чыка Аляксея. Рыхтуючы гэту ролю, Анатоль часта ўспамінаў расказ маці аб акунінаўскім расстрэле. Яго маці Зінаіда Мітрафанаўна, ураджэнка вёскі Акунінава Слонімскага раёна, будучы адзінаццацігадовай дзяўчынкай, устала з кучы расстраляных гітлераўцамі аднавяскоўцаў. Параненую, яе падабралі тыя, каму ўдалося схавацца ад карнікаў. А ўся сям'я засталася ў брацкай магіле.

Савецкі разведчык — Анатоль — умела помсціў гітлераўцам. І той, хто бачыў спектакль, заўважыў значны рост майстэрства артыста. Ды ён і сам гэта адчуў.

Потым ён выступаў трактарыстам у спектаклі «Дзіўны доктар» па п'есе Анатоля Сафронава. Роля была кароткая, але яркая.

Кожнаму аўтару ўласцівы свае манеры паказваць жыццёвыя з'явы. Добра, калі спосабы творчасці аўтара і выканаўцы супадаюць, адзін аднаго дапаўняюць. Мне здаецца, што гэтым кіраваўся рэжысёр тэатра Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч пры падборы п'есы Уладзіслава Галубка «Ганка» і выканаўцаў роляў. Драматург сам быў добрым артыстам і ведаў, як пісаць для самадзейных калектываў, каб яны, выступаючы на сцэне, мелі поспех у гледачоў. І спектакль меў поспех, у тым ліку і студэнт Васіль у выкананні Анатоля Цярэніна.

У росце кожнага самадзейнага артыста Слонімскага народнага тэатра закладзена шмат працы рэжысёра і старэйшых сяброў гэтага дружнага калектыву. А творчы рост Анатоля вельмі прыкметны. Рыхтуючы спектакль па п'есе Ю. Сохара і Р. Смольскага «Разбег», рэжысёр М. Варвашэвіч без вагання даручыў Анатолю Цярэніну галоўную ролю.

У гэтай ролі зліліся ў адно два сучаснікі — сакратар камсамольскай ячэйкі Міхась Бугрэй і сакратар

камсамольскай арганізацыі гарадской друкарні Анатоль Цярэнін. Першы з іх быў на вайне, бачыў голад, разбурэнне. Другі, які змагаецца за тое, каб не было вайны, ахвяр і разбурэння, таксама прайшоў нялёгкі шлях за свае 26 гадоў. Вобраз Міхася ўдаўся выканаўцу. Яго герой — поўны ўпэўненасці ў перамозе над цёмымі сіламі.

*1974*

## Слова аб роднай прыродзе

Гэтая кніжка выйшла ў свет у 1968 годзе тыражом 13 тысяч экзэмпляраў і хутка разышлася. І не дзіва, гэта зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў аб родным краі, яго харастве, багацці. Складальнік С. Грабчыкаў піша ў прадмове: «Прачытаць гэтую кнігу — усё роўна, што зрабіць цікавае падарожжа, і не адно, а цэлыя чатыры: вясенняе, летняе, асенняе і зімняе, яшчэ бліжэй пазнаёміцца з цудоўнымі куткамі беларускага краю, яго багатай і разнастайнай прыродай, чароўнымі мясцінамі».

І сапраўды, чытаеш творы нашых аўтараў і не можаш адарвацца, так яны бяруць за душу сваёй непасрэднасцю вобразаў, пачуццяў. І ловіш сябе на думцы: а што ты зрабіў для таго, каб павялічыць багацце родных палёў, лугоў, лясоў, каб былі чысцейшымі нашы рэкі, яснейшымі нашы далі, гладчэйшымі нашы дарогі?

У кнізе змешчаны творы каля ста аўтараў. У кожнага з іх сваё ўяўленне аб прыгажосці чароўных пейзажаў. Адно толькі агульнае ў нашых паэтаў і празаікаў — бязмежная любоў да роднага краю. Гэта бязмежнасць любві — сведчанне таго, што кожны з іх у ліхую гадзіну небяспекі гатоў абараняць

сваю Радзіму, не шкадуючы жыцця. Яно так і было: многія старэйшыя пісьменнікі — хто на фронце, хто ў партызанскіх атрадах, хто ў падполлі — змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі да поўнага ачышчэння роднай зямлі ад ворагаў, а некаторыя дайшлі да Берліна. Многім варожая куля ці асколак снарада абарвалі жыццё…

Кніга пачынаецца вядомым урыўкам з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..»

Хто не ведае папулярнай, стаўшай народнай, песні на словы Канстанцыі Буйло «Люблю наш край — старонку гэту». Гэты лейтматыў прысутнічае ў кожным творы, што змешчаны ў зборніку «Слова аб роднай прыродзе». Хочацца працытаваць многа ўрыўкаў, асабліва з вершаў, у якіх найбольш скрышталізавана тое, што хвалюе сэрца. Але ў кароткім артыкуле гэтага не зробіш.

Возьмем, для прыкладу, гродзенскую паэтэсу Дануту Бічэль, якая напісала захапляючы верш «Радзіма». Вось яе словы: «Здаецца, усюды маладзік двухрогі… Чаму ж такі прывабны родны кут? Мяне завуць нязнаныя дарогі… Пайду, а сэрца застанецца тут».

А вось што кажа Міхась Калачынскі:

Дняпро ляціць у белы свет,
Дунай грыміць між гор,
А хіба знае хто як след
Між рэк раку Бабёр?
І хоць на карты не кладзе
Ён чысты свой блакіт, —
Паверце, лепшае нідзе
Няма, чым ён, ракі.

І што б ні апісвалі паэты (Пімен Панчанка — яблыню, Аркадзь Куляшоў — воблака, Максім Лужанін — дождж, Алег Лойка — кнігаўку), усё дыхае цеплынёй і любоўю да роднага краю, яго прыроды. Алег Лойка паказвае такі малюнак і выказвае сваю думку так:

Яна ж не моўкне нада мной,
Адводзіць у аеры…
Адразу, мабыць, цяжка ёй,
Каб чалавеку верыць.

І сапраўды, трэба нам жыць і працаваць так, каб родная прырода верыла нам — гаспадарам зямлі.

Апісваючы родныя вобразы, Мікола Хведаровіч смуткуе, што

…часта, так часта бывае,
Што мы ў сумятлівым жыцці
Мінаем і не заўважаем
Красу сваіх родных мясцін.

Вялікаму мастаку паэтычнага слова Пятру Глебку:

Травы пахнуць кветкамі,
Кветкі пахнуць зорамі,
Зоры над палеткамі —
Лесам і азёрамі.

У гэтым вясеннім раздзеле «Слова аб роднай прыродзе» я не змог прывесці ні адной вытрымкі з мастацкай прозы. Але і гэтага хопіць, каб уявіць поўную гаму прыгажосці нашай Беларусі. Зборнік дапаўняюць 19 каляровых рэпрадукцый беларускіх мастакоў. Гэтую кнігу з цікавасцю прачытае дарослы і школьнік.

*1974*

## Мастачка

Алена Міхайлаўна Бялецкая-Гвяздоўская нарадзілася ў 1915 годзе каля горада Томска ў сям'і тэхніка. Пасля смерці бацькі ў 1920-я гады трапіла ў Слонім, дзе маці будучай мастачкі ўладкавалася на працу ў шпіталі.

— Пачынала я з малога, — успамінае Алена Міхайлаўна. — Малявала сяброў, знаёмых... Людзі пазнавалі сябе. Адны смяяліся, другія хвалілі, трэція рэкамендавалі вучыцца.

Дзяўчына і сама ведала, як неабходныя мастаку тэарэтычныя веды. Таму, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, яна паступіла на факультэт выяўленчага мастацтва Віленскага ўніверсітэта. Гэта было ў 1933 годзе.

Алена Бялецкая закончыла ўніверсітэт у памятным 1939 годзе. Пачала працаваць настаўніцай малявання і чарчэння першай сярэдняй школы Слоніма. Але ў 1941 годзе пачалася вайна...

Алена Міхайлаўна, якая ўжо звязала сваё жыццё з настаўнікам гэтай жа школы Станіславам Гвяздоўскім, вымушана была пакінуць выкладчыцкую працу. Затое поўнасцю аддалася любімай справе — мастацтву. Яна выконвала на даму многія прыватныя заказы.

Сярод каштоўных палотнаў таго часу, напісаных Аленай Міхайлаўнай, былі дзве работы: «Кастусь Каліноўскі» і «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў», якія цяпер знаходзяцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

Дэмакратычныя погляды і рэвалюцыйная тэматыка творчасці мастачкі былі не па густу нямецка-фашысцкім акупантам. Мастачку кінулі ў турму.

А неўзабаве разам з мужам вывезлі на катаргу ў Германію.

Пасля вайны наша зямлячка пасялілася ў Польскай Рэспубліцы, у горадзе Быдгашч.

Як і раней, Алену Міхайлаўну прыцягваюць вобразы мужных і працавітых людзей. Член Саюза польскіх мастакоў А. Бялецкая-Гвяздоўская штогод прымае ўдзел у выстаўках карцін у розных гарадах Польшчы. Яе работы экспанаваліся ў Маскве, Харкаве, Літве, Германіі, знаходзяцца ў музеях польскіх гарадоў. Мастачка адзначана дзвюма ўрадавымі ўзнагародамі Польшчы.

Алена Міхайлаўна даўно выношвала задуму стварыць партрэт чалавека, які на слонімскай зямлі аддаў жыццё за свабоду Радзімы. Яна напісала партрэт разведчыка Героя Савецкага Саюза Кузьмы Савельевіча Гнедаша і падарыла народнаму музею рэвалюцыйнай і баявой славы чацвёртай сярэдняй школы горада Слоніма.

*1974*

## Дарога прывяла ў кіно

Перад юнакамі і дзяўчатамі, якія заканчваюць вучобу ў сярэдняй школе і выбіраюць сабе жыццёвую дарогу, заўсёды стаіць пытанне: куды пайсці?

Вучань дзясятай сярэдняй школы Слоніма Уладзімір Антонік захапляўся ігрой артыстаў кіно. Іншы раз ён лавіў сябе на думцы, што сам хоча быць артыстам, удзельнічаць у прыгодніцкіх фільмах.

Рашэнне быць артыстам з кожным годам мацнела. З восьмага класа Валодзя пачаў перапісвацца з кінастудыяй «Беларусьфільм». У школе юнак добра вучыўся.

Валодзя Антонік ад свайго рашэння не адступіў. Пасля заканчэння школы ён падаў заяву ва Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. У той год з Беларусі прынялі ў інстытут на акцёрскі факультэт шэсць хлопцаў і шэсць дзяўчат, у тым ліку і нашага земляка.

Вучоба ў гэтым інстытуце не лёгкая. Акрамя развіцця акцёрскіх здольнасцей, трэба было навучыцца і спартыўнаму майстэрству.

Першай работай акцёрскай групы быў спектакль «Фантазія» па Гогалю. Гэты спектакль удаўся бліскуча, заслужыў высокую ацэнку.

Потым Уладзімір Антонік стварыў ролю маладога Пятра ў інсцэніроўцы першай часткі рамана А. Талстога «Пётр Першы» і многа эпізадычных роляў у розных фільмах.

Уладзімір Антонік закончыў інстытут кінематаграфіі і прыбыў на працу на кінастудыю «Беларусьфільм». Гэта першы наш зямляк, які стаў кінаартыстам.

Слонімчане бачылі ўжо фільм «Чорныя сухары». Там Уладзімір Антонік сыграў ролю Сашкі.

Цяпер слонімскі артыст здымаецца ў адной з галоўных роляў у трохсерыйным тэлевізійным фільме «Выстрал». Да канца года фільм павінен выйсці на экраны.

*1974*

## Цудоўны куток Слонімшчыны

Наш узгоркавы раён часам называюць Слонімскай Швейцарыяй. І сапраўды, гэтая мясцовасць прыгожая, пакрыта хвойнымі і змешанымі лясамі.

У адной з прыгажэйшых мясцін, недалёка ад ракі Шчара, раскінулася вёска Жыровічы. Некаторымі

вуліцамі яна амаль упрытык падыходзіць да лесу, які дамініруе над усім краявідам. Недарэмна кінастудыі саюзных рэспублік прыязджаюць сюды здымаць мастацкія фільмы: ёсць тут глыбокія балоцістыя даліны, даволі высокія ўзгоркі, роўныя дарогі пры лесе.

На свежых супяшчаных і суглiністых глебах расце каля Жыровіч сасна, у некаторых месцах — дуб, не кажучы ўжо аб бярозе, якая сустракаецца ва ўсіх лясах Слонімшчыны.

У адну з сонечных вераснёўскіх раніц накіраваліся мы з памочнікам ляснічага Жыровіцкага лясніцтва Аляксеем Аляксеевічам Руцкім у 38-ы квартал, дзе растуць рэдкія не толькі для нашай мясцовасці, але і для Беларусі дрэвы. Выйшлі мы на ўзвышша, дарога павяла нас каля самага лесу. І што характэрна, на гэтым узлеску расце лістоўніца, якую ў другіх нашых лясах не ўбачыш. Дрэвы адразу кідаюцца ў вочы, бо з верхніх галін амаль асыпалася іглiца.

— Такі ўжо сёлета год, — зазначае Аляксей Аляксеевіч. — Крыху ранавата скідае свой шаўкавісты ўбор лістоўніца.

А вось і квартал 38-ы, дзе на плошчы прыблізна ў адзін гектар у сумесі з беларускімі пародамі дрэў раслі радамі далёкія госці — сосны веймутава і банкса, радзімай якіх з’яўляецца Паўночная Амерыка. І трэба ж, каб пасярэдзіне дзялянкі некалькі гадоў таму назад зрабілі прасеку для праводкі высакавольтавай лініі. Высеклі лес, у тым ліку і амаль усе каштоўныя віды далёкіх, з другога кантынента, соснаў. Лінію ж правялі… зусім у іншым месцы.

На шчасце шырокая прасека, што парасла ўжо густым ляшчыннікам і маладымі асінамі і бярозамі, захапіла не ўсе сосны веймутава. Іх прамыя, гладкія

і высокія ствалы, што стаяць някранутымі, вышэй узнялі кроны, чым дрэвы-аднагодкі мясцовай пароды.

Сосны веймутава сустракаюцца ў парках і садах Беларусі (так напісана ў «Даведніку работніка лясной гаспадаркі», які ў 1959 годзе выпусціла Акадэмія навук БССР). Таму, магчыма, у лясных умовах растуць толькі ў нас. Жыровіцкім соснам веймутава прыблізна 45 гадоў, хоць побач растуць ужо і маладзейшыя, якія насеяліся з шышак. Кара ў малодшых цёмная, напамінае дубовую, а ў старэйшых такая, як у ёлкі.

У гэтых дрэў вельмі прыгожая крона з мяккай, даўжынёй да 10 сантыметраў ігліцай. На фоне беларускіх соснаў колер веймутавай выдзяляецца зялёна-серабрыстай сінявой. Маладжава выглядаюць дрэвы, відаць, спадабаліся ім жыровіцкія суглінкі і супясчынкі. На самых вершалінах некаторых дрэў вісяць светла-зялёныя прадаўгаватыя, як у ёлак, шышкі.

Сасна веймутава не баіцца ні ветру, ні марозу, у нашых умовах можна дасягаць 40-50 метраў вышыні. Драўніна мяккая, лёгкая, белая. Выкарыстоўваецца ў будаўніцтве, мэблевай, алоўкавай, запалкавай, папяровай і іншай прамысловасці.

Паколькі гэта сасна вельмі прыгожая і хутка расце, яе варта садзіць як дэкаратыўнае дрэва. Работнікі Жыровіцкага лясніцтва хочуць сабраць насенне, каб пасеяць яго ў гадавальніку. Варта толькі не ўпусціць момант даспявання. Даспяваюць шышкі ў верасні–кастрычніку і на працягу некалькіх дзён насенне высыпаецца.

Развіталіся мы з гэтым цудоўным кутком Слонімшчыны з надзеяй, што праз некалькі гадоў

убачым дзялянкі з маладымі пасадкамі паўночна-амерыканскай сасны, якой прыйшліся да густу наша зямля і клімат.

*1974*

## Наш зямляк Максім Бурсевіч

Старэйшыя жыхары вёскі Чамяры Слонімскага раёна помняць свайго земляка Максіма Тарасавіча Бурсевіча. А малодшае пакаленне вельмі мала альбо зусім не чула пра гэтага чалавека, хаця ён увайшоў у гісторыю нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі.

Я памятаю Максіма Тарасавіча як аднавяскоўца і нашага настаўніка.

У першай палове дваццатых гадоў, калі нарастала нацыянальна-вызваленчая барацьба на заходнебеларускіх землях, у Чамярах, у хаце ўдавы Веры Герасік пару месяцаў працавала прыватная беларуская школа. Як гаворыцца, вучыліся мы ў цеснаце, але не ў крыўдзе. Максім Тарасавіч адкрываў нам казачную краіну — Беларусь. І мы, вучні, усёй душой імкнуліся туды, дзе, як гаварыў нам настаўнік, «Беларусь будуе светлы дом».

Пры гэтым ён зазначыў, што трэба вучыцца, працаваць і змагацца, каб і ў нас, у Заходняй Беларусі, настаў радасны дзень. Школьнікі старанна вучыліся, чыталі беларускія кніжкі, ведалі напамяць многа вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. І марылі аб радасным дні…

Аднак паны-акупанты не жадалі, каб дзеці беларускіх сялян спасцігалі навуку. Аднойчы з’явілася паліцыя і закрыла школу. Ці варта апісваць перажыванні вучняў і настаўнікаў?

Але Максім Тарасавіч не склаў рукі. Нягледзячы на забарону з боку паліцыі, у яго хаце адбываліся сходы рэвалюцыйна настроенай моладзі. Ён быў настойлівым і разам з тым душэўным, сапраўдным народным настаўнікам. Толькі настойлівасць дапамагла беднаму сялянскаму хлопцу яшчэ ў царскай Расіі закончыць настаўніцкую семінарыю.

Цяпер з упэўненасцю можна сказаць, што зарадка, атрыманая за кароткі час вучобы ў беларускай школе, прывяла групу чамяроўскіх юнакоў у Віленскую беларускую гімназію. У далейшым усе яны пайшлі па рэвалюцыйнаму шляху.

Знамянальнай старонкай у жыцці працоўных Заходняй Беларусі стала стварэнне масавай палітычнай арганізацыі — Беларускай сялянска-рабочай грамады. У яе радах не апошняе месца займаў Максім Бурсевіч.

Вядомая падпольшчыца КПЗБ Аляксандра Бергман, якая цяпер жыве ў Польскай Рэспубліцы і ў сваіх працах шырока раскрывае гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, у беластоцкім грамадска-культурным тыднёвіку «Ніва» змясціла артыкул пра нашага земляка «Хто такі Максім Бурсевіч?». Яна піша: «Вядома, што кіраўніцтва Грамады складавалася з пяці чалавек. Чатыры з іх — гэта паслы сеймавага клуба Грамады. Пятым быў Максім Бурсевіч — сакратар Цэнтральнага камітэта Грамады і кіраўнік Цэнтральнага сакратарыята Грамады ў Вільні з ліпеня 1926 года».

Максім Бурсевіч карыстаўся аўтарытэтам у народзе. Не выпадкова ў 1922 годзе ён быў зацверджаны кандыдатам у паслы (дэпутаты) сейма па спісу № 16. Далей у артыкуле чытаем, што яго нядрэнна ведала і слонімская паліцыя. У акце

абвінавачвання з віленскага працэсу Грамады пра Бурсевіча напісана: «Яшчэ перад стварэннем БСР грамады ён быў вядомы сваёй супрацьдзяржаўнай дзейнасцю на Слонімшчыне… Адкрыта намаўляў не плаціць падаткі… два разы быў арыштаваны: у сувязі са спробай заснаваць беларускую школу і распаўсюджваннем лістовак». І далей: «Абавязкі сакратара, якія выконваў Максім Бурсевіч, у арганізацыйнай структуры Грамады былі надзвычай важныя і ў многіх выпадках як выканаўчыя — рашаючыя».

За няпоўныя сем месяцаў дзейнасці ў Цэнтральным сакратарыяце Грамады Віленскі акруговы суд засудзіў М. Бурсевіча на восем гадоў цяжкай турмы.

У сваёй кнізе «Слова пра Браніслава Тарашкевіча», якая выйшла ў 1977 годзе ў Варшаве на польскай мове, Аляксандра Бергман некалькі разоў успамінае і Максіма Бурсевіча. Усе паслы і наш зямляк на следстве і пасля прысуду трымаліся так, як і належала кіраўнікам масавай палітычнай арганізацыі рабочых і сялян. Ні жорсткі турэмны і паліцэйскі тэрор, ні ізаляцыя ў адзіночных камерах, ні спакуса пазбегнуць пакарання не пахіснулі барацьбітоў за народную справу.

На апеляцыйным судзе М. Бурсевічу зменшылі прысуд да шасці гадоў. У 1930 годзе яго разам з іншымі кіраўнікамі Грамады ўмоўна звольнілі з турмы. І тады ж па ініцыятыве кіраўніцтва КПЗБ ён разам з сям'ёй перабраўся ў Мінск, дзе прыняў пасаду кіраўніка аддзела культуры і навукі ў Дзяржплане БССР. Прымаў таксама ўдзел у рабоце камісіі пры Акадэміі навук па вывучэнню Заходняй Беларусі.

*1980*

# Этнаграфічны музей у школе

Дырэктара Кракоцкай васьмігадовай школы Слонімскага раёна Анатоля Георгіевіча Жыткевіча мы ведаем як нястомнага збіральніка экспанатаў на тэму «Прырода і фантазія». Ідучы праз лес, ён не праміне, каб не заўважыць караня або галінку дрэва ў выглядзе якой-небудзь істоты. Гэтыя апрацаваныя прадметы бачылі шматлікія наведвальнікі раённых выставак. Любоў да назірання за прыродай настаўнік прывівае і сваім вучням.

Ёсць у Анатоля Георгіевіча яшчэ адна мара, якую спакваля ажыццяўляе ўжо не адзін год. Яна заключаецца ў тым, каб стварыць у вёсцы этнаграфічны музей. У школе ўжо сабралася даволі цікавая экспазіцыя. Знаходзіцца яна ў невялікім пакойчыку, таму большыя рэчы, напрыклад, кросны, тут нельга паставіць.

Прыемна адзначыць, што за апошнія дзесяцігоддзі вёска Кракотка змянілася, яна шпарка даганяе горад. Колькі знікла з ужытку прылад працы і бытавых прадметаў, якія сведчаць аб цяжкім мінулым жыцці, умельстве і вынаходніцтве народных майстроў.

Нельга, каб бясследна знікла культура жыцця і працы нашых дзядоў і бацькоў. Усё гэта трэба захаваць, каб маладое пакаленне ведала, з якой беднай, прымітыўнай базы паднялася да цяперашніх вышынь вёска.

І вось мы аглядаем экспанаты пакуль што школьнага этнаграфічнага музея. Кідаецца ў вочы ручное ткацтва. Гэта — ручнікі, настольніцы, пакрывала і іншыя саматканыя рэчы.

Тут жа паказана вопратка з самаробных тканін. На сцяне вісяць даволі прыгожа скроены і застрочаны

ўзорамі дзявочы жакет, каптан для старэйшай жанчыны і некалі папулярная сярмяга.

Паказаны амаль усе прылады, пры дапамозе якіх сялянкі апрацоўвалі лён і даводзілі яго аж да саматканых палотнаў. Хто са старэйшых вяскоўцаў не ведае церніцы, на якой уручную церлі высушаную ў печы льнотрасту. Здаецца, і цяпер чуваць характэрны стук гэтага нескладанага станка. А побач прымасціўся стаўпец з трыма разгалінелымі ножкамі, на ім трапушка з порцыяй атрапанага валакна, шчотка для часання льну і г. д.

Да дзвюх прасніц, якія знаходзяцца ў музеі, прывязаны льняныя кудзелі, хоць садзіся ды прадзі. Стаіць і механізаваная прасніца — невялікі калаўрот пад назвай «каза». Матавіла, сукайла, чаўнок, набіліцы, бёрда — набор прылад, без якіх нельга было абысціся ткачыхам.

Збіральнікі экспанатаў прыдбалі для музея завушніцы кавальскай работы, самаробную матыку, драўляны крук для скубання зляжалага ў гумне сена, ножны для стрыжкі авечак, плеценую сявеньку, стрыхаўку, якою крылі саломай стрэхі.

Многія экспанаты характарызуюць быт вяскоўцаў перыяду царызму і белапольскай акупацыі. Да іх адносяцца ночвы, у якіх купалі малых дзяцей, гліняны і плецены посуд, дзежка і апалонік, гарнец з бярозавай кары, лямпы і смяцюх (накшталт капцілкі), сялянскі абутак — хадакі і лапці, у тым ліку маленькі стаптаны хадачок, можа, на трохгадовае дзіця.

Цікавасць маюць драўляныя ўнутрыдзвярныя замкі. Каб іх зрабіць, патрэбны былі немалая кемлівасць і ўмельства.

Добрыя планы ў дырэктара школы. І для іх ажыццяўлення не так ужо многа трэба. Патрэб-

на сялянская хата старога тыпу з унутранай абстаноўкай таго часу. На двары (пад паветкай) стаялі б драўляныя барана, саха, ярмо і яшчэ сёе-тое. Сялянскі дворык, як гэта рабілі раней, можна было б абгарадзіць парканам.

На такі будынак многа сродкаў не спатрэбіцца. Мясцовы калгас мог бы ўзяць гэта на сябе.

*1980*

## Доля і хлеб

Прайшло 68 гадоў (1912) з часу выхаду ў свет першага зборніка вершаў Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі». Паэту было тады 32 гады. І вось у азнаменаванне стагоддзя з дня нараджэння нашага земляка выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала томік яго выбраных твораў «Доля і хлеб».

Сёння некаторыя вершы здадуцца чытачу крыху дзіўнымі, бо пабудаваныя яны на матывах суму, жабрацтва, смерці, уваскрашэння. Гэта быў час, калі абуджалася сацыяльная і нацыянальная свядомасць беднага, прыгнечанага малапісьменнага беларускага народа.

Бадай, найлепш будзе характарызаваць творчасць паэта пачатку XX стагоддзя верш «Чыжык»:

«Чыжык, чыжык, дзе ты быў?»
«Я на Белай Русі жыў.
Бачыў слёзы, жалю крык,
Як гаруе там мужык…»

«Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
Што ты чуў там, што рабіў?»
«Сярод вёсак я лятаў,
Песні сумныя збіраў…»

Няцяжка ўявіць у ролі чыжыка самога аўтара, які выйшаў з беднай сям'і, бацька якога перасяліўся з вёскі ў Слонім, шукаючы лепшай долі, працаваў кавалём. Таму і вершы маладога Ляўковіча (Г. Леўчыка) былі сумныя. Нават родная прырода не магла яго настроіць на іншы, больш надзейны тон:

Здаецца, вось-вось уцячэш
Ад слёз перад бядою,
Тым часам усюды валачэш
Ты гора-плач з сабою.

Вядома, паэт не мог увесь час заставацца на адных пазіцыях. На яго рабіла ўплыў творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы і другіх пісьменнікаў, творы якіх, як і Леўчыка, змяшчаліся ў беларускай газеце «Наша ніва». І ўжо ў іншым вершы аўтар, нібы дакараючы сябе, гаворыць:

Жальбой, слёзамі ніяк
Мы тут не паможам:
Загрызе жуда-чарвяк
Нас на свеце божым.

А яшчэ ў адным вершы заклікае згуртавацца: «Разам станем, як сцяна». І далей: «Бедаваць, цярпець ужо толькі да пары!» А яшчэ далей: «Пара беларусам, пара за шчасце, народ свой змагацца!»

А вось гэтыя радкі з верша «Душыцелям слова»: «Устане люд працоўны — на бой апошні ўстане», — напамінаюць радкі з «Інтэрнацыянала».

Тут варта назваць два лепшыя вершы Гальяша Леўчыка, якія карысталіся папулярнасцю ў былой Заходняй Беларусі. Гэта «Я багат, багаты» і «Хто адрокся сваіх». Іх заўсёды дэкламавалі з самадзейных сцэн.

Першы верш да горкай іроніі паказвае «багацце» селяніна, другі праклінае здраднікаў:

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых, —
Каб ён свету не знаў!

Паэзія Гальяша Леўчыка сведчыць, што яе аўтар вельмі любіў працоўны народ, родны край і страшэнна ненавідзеў адшчапенцаў, верыў у перамогу, уносіў свой уклад у добрую справу.

У кнігу ўвайшлі сугучныя настрою пераклады твораў Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай, К. Тэтмаера, усходніх трыялетаў. Чытач пазнаёміцца таксама з празаічнымі творамі Г. Леўчыка, апрацоўкамі з народнага.

Прадстаўляюць цікавасць змешчаныя у кнізе пісьмы Гальяша Леўчыка ва ўстановы і да розных дзеячаў. Гэтыя пісьмы таксама характарызуюць аўтара і становішча, у якім ён знаходзіўся.

Дапаўняюць кнігу ўспаміны пра Гальяша Леўчыка.

Многа працы ўклаў у падрыхтоўку выбраных твораў Гальяша Леўчыка «Доля і хлеб» літаратар са Слонімшчыны Янка Саламевіч. Не ў адным архіве пабываў укладальнік. Аб гэтым сведчаць біяграфія твораў паэта і літаратура пра яго. Толькі са Слонімскага краязнаўчага музея выкарыстаны ў кнізе восем пісьмаў Г. Леўчыка.

«Доля і хлеб» — каштоўны падарунак чытачам, асабліва слонімчанам, да стагоддзя з дня нараджэння Ільі Міхайлавіча Ляўковіча.

*1980*

# Выбух

Хлопец спакойна ішоў па вуліцы Слоніма, перабіраў у памяці падзеі апошніх дзён. З галавы не выходзілі родная вёска, хутар, дзе жывуць бацькі, адкуль прыбыў ён у так званую настаўніцкую семінарыю. І паступіў ён у гэту навучальную ўстанову не так дзеля вучобы, хаця вельмі хацелася быць настаўнікам, як таму, каб не вывезлі ў Нямеччыну на катаржныя работы.

Семінарыст прамінуў бы сустрэчнага ў нямецкай ваеннай форме, каб той не штурхнуў яго ў бок.

— Здароў, Іван!

Іван аслупянеў ад нечаканасці. Ніяк не думаў сустрэць у горадзе свайго сябра-партызана. Ці не здаўся фашыстам?

— А ты як тут апынуўся? — усё ж адважыўся запытаць у сустрэчнага.

— Абрыдла бадзяцца па лесе, вось і перайшоў з лістоўкай, якія немцы раскідвалі па вёсках, — ні то жартам, ні то ўсур'ёз адказаў той. — Скажы, дзе жывеш, зайду.

Нечаканая сустрэча не на жарт устрывожыла Івана. А калі той сапраўды здаўся і раскажа немцам, што прыносіў лістоўкі са Слоніма, перадаваў звесткі пра ворага? Аднак не хацелася верыць у найгоршае. Да вайны вучыліся разам на настаўніцкіх шасцімесяных курсах, а цяпер марылі аб светлым дні перамогі, які абавязкова прыйдзе.

Іван Руды і Уладзімір Жук лічылі сябе суседзямі, хоць нарадзіліся ў розных вёсках — Мілявічах і Букіштаве, што ў Мастоўскім раёне. Хутары іх бацькоў стаялі недалёка адзін ад другога. Валодзя, з'яўляючыся з групай партызан у родных мясцінах,

не ўпускаў магчымасці, каб заглянуць на хутар каваля дзядзькі Рудога. Іван таксама з задавальненнем чакаў сябра, каб падзяліцца думкамі і расказаць навіны са Слоніма.

Мо праз тыдзень Жук заскочыў на кватэру да Івана. Гутарка не клеілася, кватарант быў насцярожаны, чакаў правакацыі.

— Слухай, Ваня, — глянуўшы ў вочы сябру, прамовіў загадкавы перабежчык, — абрыдла мне і тут, трэба вяртацца ў атрад. Немцы могуць пакрыўдзіцца, як не пакіну «гасцінца». Можа, што парадзіш, дапаможаш?

— Параджу. Заходзь праз два дні, — падбадзёрыўшыся, выпаліў Іван, хоць на сэрцы штосьці скрабло.

У той жа вечар заклапочаны Іван усё расказаў кіраўніку падпольнай антыфашысцкай групы Мікалаю Ціхану, які, падумаўшы, зазначыў:

— Малы тэрмін даў ты яму. Мне ж трэба параіцца з кіраўнікамі нашага падполля, прыйдзецца пабываць, можа, і ў лесе. Ва ўсялякім выпадку, наглядай, ці не сочаць за домам, асцерагайся, а ў прызначаны дзень прыйдзецца прыняць «госця».

Невясёлыя думкі апанавалі Івана. Але адступаць было ўжо позна, махавік падзей набіраў сілу. Падпольшчык заўсёды ідзе на рызыку, на тое ён і падпольшчык. Вось і тады, у камендацкую гадзіну, як ляпіў на плот лістоўкі, ледзь не напароўся на начны патруль. А расклейваць трэба было, бо зводкі Саўінфармбюро рабілі сваю справу, людзі з нецярпеннем чакалі іх з'яўлення.

Уладзімір Жук з'явіўся з візітам, як і дамовіліся, у прызначаную гадзіну. На твары прыбыўшага Іван не заўважыў нічога асаблівага — тое ж прыроджа-

нае падморгванне вокам, як і заўсёды пры размове. Праўда, праступала крыху хвалявання. І гэта Івану спадабалася, пабойваецца.

— Сядай, браток, можа, зробім па чарцы самадзейнай?

— Няма часу, трэба завіхацца.

— Тады завіхайся. Вось магнітная міна з гадзіннікавым заводам.

Іван навучыў, як настаўляць на патрэбную гадзіну, і пажадаў удачы. І глядзеў уздоўж вуліцы, пакуль крыло шэра-зялёнага шыняля апошні раз махнулася перад паваротам. Тут жа забег да гаспадыні і сказаў, што начаваць не будзе, паедзе да бацькоў.

Гэта было ў маі 1943 года. Выбух у казарме грымнуў пад ранак. Але Жук яго не чуў, быў ужо далёка за горадам. Стомлены ад хвалявання і хады, партызан затрымаўся ў вёсцы Елка (Зэльвенскі раён) і вельмі абрадаваўся, як убачыў народных мсціўцаў са свайго атрада. З палёгкай скінуў з плячэй некалькі вінтовак, што «прыхапіў» у стаяку.

Акупанты ўспудзіліся. Людзі чулі, як па вуліцах імчаліся аўтамашыны і матацыклы. А як развіднела і пачаўся ў горадзе рух, затрымлівалі падазроных. Але дарэмна. Ніхто нічога не ведаў. Потым прасачылася чутка, што ад выбуху загінула каля сарака варожых салдат.

Прайшло 38 гадоў. Нядаўна сябры сустрэліся, успомнілі баявую маладосць, сваіх таварышаў — жывых і загінуўшых у баях і ад рук гітлераўскіх карнікаў.

Іван Мацвеевіч Руды цяпер жыве ў Вышнім Валачку Калінінскай вобласці, а Уладзімір Сцяпанавіч Жук — у Слоніме, працуе на фабрыцы мастацкіх вырабаў.

*1981*

## Тры сустрэчы

Я рана пазнаёміўся з творамі Янкі Купалы. У пачатку дваццатых гадоў бацька прынёс са Слоніма кніжку пад загалоўкам «Гусляр», надрукаваную лацінскімі літарамі. Адразу я не звярнуў на яе ўвагі.

Аднак вершы ў зборніку мяне зацікавілі, усхвалявалі, бо напісаны былі на той мове, на якой гаварылі вясковыя людзі. Паэт апісваў родную прыроду, цяжкае жыццё працоўнага чалавека, заклікаў да лепшай долі. Гэта было так зразумела.

Далейшае знаёмства з творчасцю Янкі Купалы адбылося ў той час, калі я вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Пад уплывам купалаўскай і коласаўскай паэзіі я сам пачаў пісаць вершы.

Вельмі хацелася пабачыць жывога песняра.

Памятны верасень 1939 года паламаў межы, што аддзялялі Заходнюю Беларусь ад Савецкай Беларусі. Тады ж наведаў Слонім і сустракаўся з Гальяшом Леўчыкам народны паэт Янка Купала. Гутарыць з Іванам Дамінікавічам мне не прыйшлося. Але я быў рады, што ўбачыў аўтара палымяных вершаў, якія не раз дэкламавалі на вечарах мастацкай самадзейнасці, аўтара захапляючай камедыі «Паўлінка», якая не сыходзіла з вясковых сцэн.

У пачатку лістапада 1939 года зноў давялося пабачыць дарагога Янку Купалу, ужо ў Мінску, у Доме пісьменнікаў. Гутарыў ён павольна, трымаў сябе сціпла. Гэта не перашкаджала яму быць вялікім, усімі паважаным чалавекам. Ён проста падыходзіў да людзей, падаваў руку.

Трэцяя сустрэча з народным песняром адбылася ў Лідзе, куды ён у сакавіку 1940 года прыязджаў да выбаршчыкаў, якія далучылі яго кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

Каб гэта сустрэча лепш прайшла і ў некаторай ступені насіла літаратурны характар, наш зямляк паэт-рэвалюцыянер Валянцін Таўлай, які працаваў у лідскай газеце «Уперад», запрасіў на вечар заходнебеларускіх літаратараў, у тым ліку і мяне. Вядома, у Ліду я ехаў з задавальненнем, але хваляваўся перад веліччу Янкі Купалы.

Вечар праходзіў у перапоўненай зале клуба чыгуначнікаў. Янка Купала не распранаўся, сядзеў у накінутым на плечы паліто, бо прыхварэў. На дварэ было хлюпатна, і каб госць не замачыў ногі, Валянцін Таўлай прынёс падарунак рабочых гумавай фабрыкі «Ардаль» — добротныя галёшы. Мы ледзь-ледзь угаварылі хворага надзець іх на туфлі.

Выступаючы перад лідчанамі, Янка Купала расказаў аб сваёй працы, творчай дзейнасці, узрушана гаварыў аб прыездзе ў дарагія сэрцу мясціны. «Дваццаць гадоў па гэтай роднай зямлі не хадзілі мае ногі», — сказаў ён. Потым чытаў вершы, дзякаваў за аказанае давер'е.

З вершамі выступалі Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Пятрусь Граніт, я і другія.

Сустрэча з Янкам Купалам з'явілася для нас, паэтаў былых «крэсаў усходніх», вялікай падзеяй, дала магчымасць бліжэй асабіста пазнаёміцца са стваральнікам новай беларускай літаратуры. У шчырай гутарцы ён цікавіўся нашым жыццём, працай, знаёміўся з вершамі, даваў свае заўвагі і парады. На развітанне мы атрымалі ад народнага паэта кнігі з аўтографамі.

Сорак два гады прайшлі з той пары, а ён стаіць перад вачыма, як жывы. Ён будзе жыць між намі вечна, бо неўміручыя яго палымяныя, задушэўныя творы.

*1982*

# Суровае выпрабаванне

У нашага падпольшчыка Мікалая Ціхана нямецкія фашысты расстралялі на Пятралевіцкай гары, што каля Слоніма, маці і малодшага брата Сяргея, члена маладзёжнай антыфашысцкай арганізацыі, якая дзейнічала ў настаўніцкай семінарыі. Гэта было за некалькі дзён да вызвалення Слонімшчыны ў 1944 годзе.

А пакуль што Мікалай працаваў актыўна, я б сказаў, з агеньком. Ён жыў не так далёка ад мяне, а таму забягаў і ў камендацкі час. І заўсёды прыносіў свежыя гарадскія навіны, якія маглі зацікавіць не толькі партызанаў, але і камандаванне Чырвонай Арміі. Аднойчы, калі ён зазірнуў у хату, я перадаў просьбу з партызанскай брыгады імя Ракасоўскага здабыць аўтамабільны акумулятар для сілкавання радыёперадатчыка.

Праз пару дзён, як добра сцямнела, урываецца на кватэру Ціхан з незнаёмым хлопцам і замест прывітання выпаліў:

— Прынеслі акумулятар!

— Як будзеш выконваць наступнае заданне, то не прыходзь з новым чалавекам. Спадзяюся ведаеш, што такое канспірацыя?

Мікалай зразумеў падтэкст сказанага:

— Аднаму цяжка было б несці гэты акумулятар. А Ваня добры, надзейны хлопец.

Так летам 1943 года я нечакана пазнаёміўся з Іванам Рудым. А праз год, калі нельга было ўтрымацца ў горадзе, Іван з Аляксеем Валадосем прывялі ў лес эсдоўца, якога акупанты імкнуліся ўладкаваць у партызанах…

Адгрымела вайна. Вярнуліся ў Слонім народныя мсціўцы, з радасцю прыступілі да аднаўлення раз-

грабленай і разбуранай народнай гаспадаркі. Толькі Руды мала пацешыўся са здабытай свабоды. Арышт. Суд. І высяленне ў Сібір…

Пасля доўгіх гадоў разлукі Іван тады-сяды прыязджае ў Слонім да сваякоў і на радзіму ў вёску Мілявічы Мастоўскага раёна. Я сустракаўся з ім, распытваў пра жыццё-быццё. Толькі ён ніколі не расказваў, што давялося пакутаваць разам з вядомым беларускім паэтам Сяргеем Грахоўскім.

Сяргей Грахоўскі напісаў шмат вершаў пра той трагічны для краіны час, калі тысячамі гінулі нявінныя людзі. У вераснёўскім за 1988 год нумары часопіса «Полымя» змясціў вялікі ўспамін пра сталінскую няволю «Такія сінія снягі», дзе прысвяціў значнае месца нашаму былому антыфашысцкаму падпольшчыку.

Сібірская вёска Біяза. Сямігадовая школа. Пісьменнік успамінае:

«У пачатковых класах першы год працавала пасля педвучылішча беленькая і кволенькая Валя Салаўёва. Прыехала яна з Вышняга Валачка адпрацоўваць свае два гады. Як толькі канчалі свой тэрмін, ніхто з маладых педагогаў назад у Біязу не вяртаўся… Як на сезонную глядзелі і на дробненькую і ціхую Валю. І раптам надзвычайнае здарэнне! Маладая настаўніца, камсамолка закахалася. І ў каго? У ссыльнага статнага прыгажуна беларуса Івана Рудога».

Трэба сказаць, што Іван быў майстра на ўсе рукі, працаваў у канторы спажыўкааперацыі. Зрабіў сабе прыбудоўку да хаты. А насупраць гэтай прыбудоўкі жыла на кватэры Валя.

Далей Грахоўскі піша пра Валю: «Як ні хавалася, а ад Наталлі Іванаўны не ўберажэшся. Яна ведала пра кожнага больш, чым той сам пра сабе… На-

талля Іванаўна насядала на дырэктара неадкладна абмеркаваць амаральныя паводзіны камсамолкі Салаўёвай. "Мы абавязаны хадайнічаць перад райкамам камсамола аб выключэнні Салаўёвай з радоў ВЛКСМ, а райана вырашыць пытанне аб мэтазгоднасці яе далейшай работы ў школе"».

Ах, як жа гэта да жудасці знаёма!

Працавала ў Слоніме наша падпольшчыца маладая настаўніца Еўдакія Казлова з вёскі Яглевічы Івацэвіцкага раёна. Яна скончыла Віленскую беларускую гімназію, дзе дырэктарам быў Радаслаў Астроўскі. Вось, набраўшы дома харчовага падмацавання, Дуся ехала цягніком з Івацэвіч у Баранавічы, каб адтуль другім поездам прыехаць у Слонім. Калі яна села ў купэ, на яе звярнуў увагу нямецкі афіцэр: «Здаецца, Казлова?» Былога дырэктара Астроўскага таксама пазнала колішняя гімназістка. Ён пацікавіўся, куды едзе. А даведаўшыся, запрапанаваў: «Кідай работу ў Слоніме і пераязджай у Менск. Я ствараю Беларускую цэнтральную раду. Будзеш працаваць у школьным аддзеле». «Падумаю», — адказала дзяўчына.

Прыехаўшы ў Слонім, Казлова тут жа расказала мне аб нечаканай сустрэчы і прапанове. А я — сакратару падпольнага райкама партыі М. Анішчыку, які зацікавіўся навіной і даў загад, каб неадкладна ехала і вяла ў Радзе разведку.

Еўдакія паехала, уладкавалася. Сувязным прызначылі Мікалая Ціхана.

Адгрымела вайна. Наша падпольшчыца-разведчыца вярнулася ў свае Яглевічы, працавала там настаўніцай. Потым яе арыштавалі, нават дапытваў сам Цанава. Акрамя заслуг ніякай віны ў яе не знайшлі. І выпусцілі на волю. Здавалася, што ўсе

пакуты скончыліся. Аднак, не. У роднай вёсцы і ў школе жыцця не было. Знайшлася ў школе падобная «Наталля», узбударажыла педкалектыў, пілавала дзяўчыну, называючы здрадніцай. Прыязджала ў школу згушчаць чорныя фарбы вакол нашай падпольшчыцы яшчэ адна, вядомая мне, асоба. Еўдакія апраўдвалася перад настаўніцкім калектывам, што ў Мінску выконвала адказнае партыйнае заданне. А насядаючыя адно: «Пакажы даведку».

Аказалася, на вялікі жаль, што інфармацыю разведвальнага характару лягчэй здабыць у ворага, чым даведку аб падпольнай рабоце ў таго, хто пасылаў на гэтую работу. Зацкаваная настаўніца з Яглевіч не адзін раз ездзіла да Анішчыка з просьбай. Ён жа пад рознымі надуманымі прычынамі (было і так са мною) адмаўляўся, не даваў дакумента.

Праз некаторы час я ўбачыў Дусю (яна часта прыязджала ў Слонім) у добрым настроі. Пытаюся:

— Пэўна, у школе адчапіліся ад цябе?

— Даў № в/ч, куды перадаваліся па рацыі мае разведданыя.

— Злітаваўся?

— Нічога дарма не робіцца, — дыпламатычна ўсміхнулася Еўдакія Антонаўна.

І мне прыпомнілася цікавая аповесць Міхаіла Зошчанкі «Грошы», дзе аўтар выразіўся так: «Скажам прама, што грошы іграюць і будуць яшчэ іграць велізарнейшую ролю нават і ў нашым змененым жыцці».

Пасля нейкага роздуму Казлова сказала:

— Праўда, даведку на рукі я не атрымала, яе даслалі ў райана. І адтуль ужо прыйшла каманда ў школу, каб спынілі праследаванне…

А што з Валяй Салаўёвай?

Сяргей Грахоўскі ўспамінае далей: «Валю Салаўёву выжылі са школы на першым годзе работы. Яна з годнасцю і пагардай сустрэла незаслужаныя абразы і знявагі, не прасіла ні ў каго літасці, не пісала скаргаў. Перанесла свой чамаданчык да Івана, надзела целагрэйку і гумовыя боты, завялі яны парсюка, вясною засадзілі соткі, і былі абое шчаслівыя.

Я ведаю і далейшы лёс гэтай сям'і. Як толькі вызвалілі Івана, яны паехалі ў Вышні Валачок, Валя скончыла педінстытут (і Казлова скончыла педінстытут. — *А. І.*), была настаўніцай і дырэктарам школы, выгадавалі трое дзяцей і шчасліва жывуць сярод добрых людзей».

На публікацыю Сяргея Грахоўскага ў «Полымі» адгукнуўся краязнаўца, настаўнік Карповіцкай школы Гродзенскай вобласці Ю. Камягін, даслаўшы карэспандэнцыю ў «Вышневолоцкую правду».

Няхай і мой невялікі ўспамін будзе дадатковым штрыхам да гэтай гісторыі.

*1990*

## Пра беларускіх настаўнікаў Заходняй Беларусі

Калі я сяды-тады заходжу ў настаўніцкую якой-небудзь школы такога старажытнага беларускага горада, як наш Слонім, і чую там адну толькі рускую мову, то здаецца, што апынуўся ў цэнтральнай Расіі, дзе-небудзь у Саратаве ці Самары. Без толку гаварыць з дырэктарам на тэму перахода навучання на беларускай мове. Заўсёды пачуеш, што не падрыхтаваныя, няма падручнікаў, няма загаду і г. д.

І дзіўна. Без ніякага пісанага загаду ўсе гарадскія школы перавялі з беларускай мовы на рускую. І няма вінаватых. А цяпер, каб усё адвярнуць назад, чакаюць нейкага загаду звыш. «Не падрыхтаваныя». А хто ж павінен падрыхтоўваць? Селянін, які здабывае для нас хлеб?

Ведаю, што без беларускіх падручнікаў вельмі цяжка працаваць. Аднак не бачу руплівасці, каб такія падручнікі хутчэй паявіліся.

Пры такіх размовах прыходзяць на памяць самаахвярныя настаўнікі заходнебеларускіх гімназіяў з часоў белапольскай акупацыі. З тых, хто мяне вучыў, на першае месца стаўлю настаўніка беларускай мовы і літаратуры Віленскай беларускай гімназіі Ігната Дварчаніна. Ён выдатна абыходзіўся без падручнікаў. Назубок ведаў свой прадмет выкладання і ўсю на той час беларускую літаратуру. А каб вучням лягчэй было засвойваць зададзенае, наш настаўнік падрыхтаваў і ў 1927 годзе выдаў «Хрэстаматыю беларускай літаратуры». Словам, Ігнат Сымонавіч усе свае сілы, здольнасць і набытую ў Чэхіі навуку аддаваў вучням, каб яны сталі людзьмі, патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны, носьбітамі ў масы роднай мовы, гісторыі, культуры. І ў гэтым ён меў выдатны поспех.

Другім шчырым патрыётам беларускага адраджэння, якога мне пашчасціла пазнаць і які мяне вучыў, быў настаўнік хіміі Клецкай беларускай гімназіі Вячаслаў Міхайлавіч Арэнь. Ён не мог уявіць, каб вучні не ведалі беларускай мовы і таго прадмета, які выкладае. А падручніка па хіміі на беларускай мове не было. І настаўнік па праграме 5-га класа гімназіі (адпавядаў 7-му класу нашай дзесяцігодкі)

сам пісаў падручнік, лісты размнажаў на шапірографе (каб хапіла кожнаму вучню) і прыносіў на заняткі.

Таму такога настаўніка не магу забыць да самай смерці.

Яшчэ пра аднаго настаўніка хачу сказаць пару слоў. Гэта, як і Ігнат Дварчанін, выпускнік Карлава ўніверсітэта ў Празе Вінцук Грышкевіч. У Віленскай беларускай гімназіі гэты настаўнік выкладаў гісторыю. А падручнікаў па гісторыі (у даным выпадку сярэдніх вякоў) таксама не было на беларускай мове. І Грышкевіч купіў некалькі экзэмпляраў падручніка па гісторыі на польскай мове, расшыў іх па лістах і раздаў вучням старэйшых класаў, каб пераклалі на беларускую мову. Не ведаю, ці ўдалося гэтаму энтузіясту выпусціць кнігу па гісторыі сярэдні вякоў.

Хочацца, каб след гэтых бескарыслівых настаўнікаў і памяць пра іх не загінулі. Я не кажу, каб усе настаўнікі былі менавіта такімі. Але прыклад браць трэба асабліва цяпер, калі беларуская мова заціраецца — дзе? — у школах, не кажучы ўжо аб установах, прадпрыемствах.

Вельмі непрыемна слухаць, калі некаторыя журналісты на тэлебачанні пачынаюць гаварыць па-беларуску, а потым пераходзяць на рускую мову — прыстасоўваюцца. Няма ніякай логікі, каб мы на сваёй зямлі прыстасоўваліся. Няхай іншыя, калі яны такія дэмакратычныя, прыстасоўваюцца да карэннага народа, вывучаюць нашу мову.

*1990*

## Мае адносіны да Скарыны

Мы трымаем у руках не звыклае, а цудоўнае, арыгінальнае запрашэнне, якое паклікала нас на гэтую гістарычную канферэнцыю, прысвечаную 500-годдзю аднаго з самых выдатных сыноў Беларусі Францішка Скарыны. Не магу не адзначыць, што такое гістарычнае запрашэнне выканаў наш слонімскі мастак Рыгор Жук.

Вельмі трапная назва запрашэння — «Адкрыць нашчадкам Скарыну»…

Як не дзіўна, што пра выдатнага вучонага, першадрукара ўсходніх славян даўно ведае вучоны свет, а для беларускага народа прыходзіцца адкрываць гэтае імя полацкага беларуса. Што ж, доўгі час мы жылі ў такіх умовах, што ўсе нацыянальныя каштоўнасці прыглушаліся, а то, калі сказаць праўду, забараняліся. Ад гэтага мы станавіліся духоўна беднымі.

Я не хачу супрацьпастаўляць Францішка Скарыну рускаму першадрукару Івану Фёдараву. Іван Фёдараў таксама вялікі, выдатны чалавек, які шмат зрабіў для пашырэння друкаванага слова, для ўздыму славянскай культуры. Іван Фёдараў разам з рускім і беларускім друкаром Пятром Мсціслаўцам выдалі ў Маскве сваю кнігу пад назвай «Апостал» у 1565 годзе, гэта значыць праз 48 гадоў пасля выхаду Скарынавай «Бібліі». Аднак гэтыя друкары доўга не маглі затрымацца ў Маскве. Пад націскам рэакцыйных колаў і кансерватыўнага духавенства І. Фёдараў і П. Мсціславец пакінулі Маскву і пераехалі ў Заблудава да гетмана Вялікага Княства Літоўскага Р. Хадкевіча, які дапамог заснаваць там друкарню і выдаваць кнігі (1569).

Каб доўга не затрымлівацца на гэтым пытанні, з апошняга тыднёвіка «Літаратура і мастацтва»

прывяду невялікі ўрывак з артыкула беларускага літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук Уладзіміра Казберука: «У час вайны магло складвацца ўражанне, што стратэгічныя арыенціры нашай партыі пачалі мяняцца: быў распушчаны III Інтэрнацыянал, змяніўся ў нас гімн, які больш не заклікаў разбураць стары свет дашчэнту, да тла. У арміі пачалі адраджацца старыя традыцыі. А да беларусаў, напрыклад, з гонарам вярнуўся Францішак Скарына (праўда, тады яго назвалі Георгіем)».

У праграме нашага «Запрашэння» мне запрапанавалі вызначыць паэзію на тэму: «Мае адносіны да Скарыны». Калі сказаць вельмі коратка, — станоўчыя, прыхільныя.

Першы раз я пачуў слова «Скарына» у 1926 годзе, калі паступіў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Лепш сказаць не пачуў, а прачытаў у дарагім для маіх успамінаў падручніку пад назвай «Родны край». А падручнік меў вельмі трапную назву, бо ў кнізе было ўсё роднае, блізкае, зразумелае. А шырокае тлумачэнне пра беларускага першадрукара даваў на ўроках цудоўны настаўнік, паэт, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук Ігнат Дварчанін. А ён мог шмат расказаць пра Скарыну, бо ў Пражскім універсітэце абараніў свой доктарскі тытул на падставе даследавання друкарскай і навуковай дзейнасці Францішка Скарыны з Полацка.

Ужо тады, дзякуючы віленскім беларускім падручнікам і такім выдатным настаўнікам, як Ігнат Сямёнавіч Дварчанін, Скарына стаў вялікім неад’емным фактарам выхавання нацыянальнай свядомасці, беларускага нацыянальнага гонару.

З той пары пачаў лавіць у віленскім беларускім друку звесткі пра Скарыну. Але, на жаль, у Заходняй

Беларусі, якая знаходзілася пад акупацыяй буржуазнай Польшчы, была вельмі абмежавана беларуская прэса — і колькасна, і якасна. Прыпамінаю некаторыя публікацыі пра першадрукара ў квартальным часопісе «Калоссе».

Асоба Францішка Скарыны, тагачасная скупая беларуская літаратура і прэса давалі добры імпульс для авалодання і пашырэння на вёсцы нацыянальнай культуры і беларускай літаратурнай мовы, якія цынічна ганьбаваліся польскай буржуазнай дзяржавай. Беларускую мову паны заўсёды называлі «хамскай».

Гэта нікога з беларусаў не здзіўляла, — паўсюдна мова жыла, захоўвалася на вёсцы. На фоне панскага ганьбавання мяне здзівіла іншае. У польскім падручніку па гісторыі Польшчы, здаецца, прафесара Лявіцкага было напісана, што вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Ягайла, які з 1386 года стаў каралём Польшчы, каранацыйную прамову ў Кракаве гаварыў на беларускай мове. Гэта цяпер мяне не здзіўляе, бо ведаем, што ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай мовай з'яўлялася беларуская.

Паўстае пытанне: хіба польскія акупанты Заходняй Беларусі не ведалі сваёй гісторыі, караля Ягайлу, што нашу мову нахабна велічалі «хамскай»? Вядома, ведалі. Але кожныя цемрашалы, кожныя акупанты, каб закабаліць народ, а таксама знішчыць народ, стараюцца адабраць у яго родную мову.

На шляху дэнацыяналізацыі стаіць наш вялікі культурны асілак Францішак Скарына. Ён мае такое вялікае сусветнае значэнне, што Арганізацыя Аб'яднаных нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО) 1990 год аб'явіла годам Скарыны.

Якія ж у мяне адносіны да Скарыны і да ЮНЕСКО? Я дзякую гэтай міжнароднай Арганізацыі за тое, што яна, калі можна прымяніць такое паняцце, узяла пад кантроль непераўзыдзенага нашага Скарыну, нашу культуру, адукацыю. Магчыма, гэта прысадзіла некаторых нядобразычліўцаў, частка з якіх усё ж асмелілася галасаваць супраць прыняцця Закона аб прызнанні дзяржаўнасці беларускай мове ў сваёй рэспубліцы.

Словам, усім нам трэба працаваць так на ніве роднай культуры, каб быць дастойнымі прадаўжальнікамі справы Францішка Скарыны.

*1990*

## Вяртанне праз пакуты

Толькі цяпер можна дзіву давацца, як на працягу дзесяцігоддзяў нас асляпляла афіцыяльная прапаганда. Мы зусім не ведалі сваёй слаўнай гісторыі, не чулі шмат аб якіх выдатных земляках. Праўда, ведалі, бачылі, як глумілі нашу мову, але гэта падносілі як прагрэсіўнае дасягненне да зліцця моў і нацый, маючы на ўвазе поўную русіфікацыю Беларусі.

Што граху таіць, і сёння не ўсе шлагбаўмы паднятыя на шляху да развіцця беларускай мовы, адраджэння культуры, поўнага раскрыцця гісторыі нашага народа. І зноў дзейнічае ўсёмагутная прапаганда, казённая і паўказённая прэса ў руках «власть имущих».

Каб далёка не хадзіць, возьмем хаця б тыднёвік «7 дней», не кажучы ўжо пра часопіс «Политический собеседник», разгул якога нават часам прыпыняе ЦК КПБ. Дык вось, газета «7 дней», якая на пачатку свайго існавання зарэкамендавалася вельмі ўсебакова

прагрэсіўнай, справядлівай, двойчы абманула сваіх чытачоў. Першы раз, калі клялася, што будзе выходзіць на дзвюх мовах (і я клюнуў, падпісаўся на беларускае выданне, сказаўшы работнікам «Саюздруку», што калі прышлюць рускі варыянт газеты, то будуць самі перакладаць на беларускую мову). Рэдакцыя слова не стрымала, нават ліквідавала дзве беларускія паласы. Другі раз перад разгарам падпіскі на 1991 год, калі заявіла, што тыднёвік «7 дней» (з васьмі старонкамі) самы танны ў Беларусі. А між тым падпіска на «ЛіМ», што выходзіць два разы большым памерам, каштуе танней, чым «7 дней».

Ды справа не ў гэтым. «Народная газета» нядаўна пазнаёміла сваіх чытачоў з дакументальнай аповесцю «У кіпцюрах ГПУ» беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, пра якога мала хто ведаў, бо забаранялі пісаць. Аповесць ішла пад рубрыкай «Друкуецца ўпершыню». Вось за гэта і ўхапілася «ўсебаковая» «7 дней», называючы Ф. Аляхновіча «вядомым буржуазным палітычным дзеячам і літаратарам». Каму «вядомым», калі яго творы былі забаронены, забаранялася нават называць прозвішча пісьменніка? Вядомым хіба рэдакцыі тыднёвіка, бо мае доступ да «сакрэтных» архіваў. Дзеля «добрай» справы не пашкадавала вялікі кавалак месца на паласе, дала фотамантаж з «Менскай газэты», дзе ў 1941 годзе друкавалася гэтая аповесць.

Па «семидневке» выходзіць, што Францішак Аляхновіч, якога ў 1926 годзе заманілі на культурную працу ў Мінск, нявінна адпакутаваўшы 7 гадоў на Салаўках, не павінен быў аб гэтым праўдзіва пісаць, каб не стаць «буржуазным дзеячам». Дзіўная логіка. А што «Менская газэта» змясціла дакументальную аповесць, няма нічога дзіўнага. Кожны варожы

бок (маю на ўвазе нямецкіх захопнікаў) стараецца ўразіць, падкалоць свайго кіраўніка, падарваць аўтарытэт у вачах грамадскасці па магчымасці праўдзівымі фактамі. Аднак самі факты ад гэтага не перастаюць быць праўдзівымі ў палітычнай гульні. Міжволі прыгадваецца польская прымаўка «Жэбы кузка не скакала, тобы нужкі не зламала». Інакш кажучы, каб ГПУ не мучыла ў канцлагерах нявіннага чалавека, то ён не пісаў бы ўспамінаў пра сваю няволю.

Другая справа, калі ў прапагандзе дапускаецца фальсіфікацыя. Для прыкладу маю на ўвазе катынскія расстрэлы афіцэраў Войска Польскага, у тым ліку і беларусаў. Доўгі час афіцыяльная савецкая прапаганда тлуміла галовы сваім грамадзянам, што зверскую расправу ў Катыні ўчынілі фашысты. І мы паверылі, бо бачылі шматлікія злачынствы акупантаў у іншых месцах. А ў сапраўднасці, як цяпер вядома, злачынства зрабілі камуністы НКВД. Недаўмяваю, чаму «7 дней» не дае пра гэта вялікі фотамантаж.

Не дае, дык не дае, — мы і так ведаем. Вернемся, аднак, да Аляхновіча, да яго аповесці.

Магу шчыра зазначыць, што дакументальны твор Ф. Аляхновіча прачытаў я ўпершыню ў «Народнай газеце». А паколькі раней давялося чытаць у «Новым мире» «Архипелаг Гулаг» А. Салжаніцына, то таксама магу сказаць некалькі слоў. Твор рускага пісьменніка, які доўга збіраў і шырока выкарыстаў матэрыял аб сталінскім генацыдзе, вызначаецца палітычнай накіраванасцю, падмацоўваецца нават цытатамі з Леніна. У «кіпцюрах» беларускага літаратара падаюцца амаль «голыя» факты, не называюцца праўдзівыя прозвішчы, каб не пашкодзіць зняволеным, не адчуваецца ніякай нацяжкі ў бок

няпраўды. «7 дней» баіцца ганьбіць жывога Аляксандра Салжаніцына, а на мёртвага Францішка Аляхновіча можна валіць што хочаш, — не ўстане, не дасць адпор.

Францішак Аляхновіч быў вельмі папулярным у Заходняй Беларусі як пісьменнік-драматург. Вясковыя самадзейныя артысты рэдка калі абыходзіліся без твораў гэтага аўтара. Яшчэ не выветрылася з памяці, як моладзь вёскі Чамяры, што на Слонімшчыне, ставіла спектаклі па творах «Калісь», «Дзядзька Якуб», «Заручыны Паўлінкі», «Чорт і баба», «Пан міністр» і інш. На гэтыя прадстаўленні прыходзілі людзі з навакольных вёсак і часамі не маглі памясціцца ў гумне.

Асабліва цяжка было атрымаць у пана павятовага старосты дазвол на спектакль па п’есе «Калісь», паколькі гэты твор паказваў рэвалюцыйныя падзеі. Не раз ад уладаў чулі адказ: «То большэвіцка пропаганда». А тут «7 дней» дае іншую ацэнку — «буржуазный политический деятель и литератор». Дзе ж праўда?

Яшчэ не хапае аднаго ярлыка Аляхновічу — «националист». А можна прышыць, прачытаўшы камедыю «Пан міністр». Аўтар паказвае, як нядошлы «беларускі міністр», рыхтуючыся да гэтай пасады, вывучае беларускую мову. І калі маладая настаўніца, не ведаючы, што ягоныя мары стаць міністрам праваліліся, гаворыць, што ў слове «любоў» літара пішацца з хвосцікам. Пан міністр ускіпеў: «Гэта чорт з хвосцікам!» Паколькі ў цяперашніх міністраў лягчэйшы лёс, не абавязкова вучыць беларускую мову, то Аляхновічу, які крытыкуе некаторых міністраў за мову, з пункту гледжання класавасці лёгка можна дабавіць яшчэ адзін ярлык.

Аднак пры панскай Польшчы такая «кваліфікацыя» не стасавалася да Аляхновіча, бо Камуністычная партыя Заходняй Беларусі ў адным з галоўных пунктаў сваёй праграмы ставіла барацьбу за адкрыццё беларускіх школ, дамагалася беларусізацыі царкоўнай службы. А служба, як і цяпер, праводзілася на рускай мове. Але тады для падрыву беларускай мовы папы мала шкодзілі, бо беларускамоўны сялянскі маналіт цяжка было разбіць.

І ўсё ж пісьменніцкі аўтарытэт Францішка Аляхновіча быў да некаторай ступені падарваны публікацыяй аповесці «У кіпцюрох ГПУ» у польскай віленскай прэсе. Камуністычная прапаганда ацаніла твор як паклёп на Краіну Саветаў (а мы верылі ў Савецкі Саюз як у Бога). Нічога дзіўнага, што ў апошні час, хоць балюча, павінна была адбыцца палітычная пераарыентацыя, бо адкрыліся народу жудасныя факты. Цяпер мы ведаем, што такое сталіншчына, берыеўшчына, ГУЛАГ, Салаўкі, Курапаты... І хто б пра гэта ні пісаў, «буржуазны» ці камуністычны літаратар — генацыду трэба паставіць заслон, з якога б боку ён ні праяўляўся і чым бы ні прыкрываўся. Нашай прэсе, мякка кажучы, не трэба рабіць падкоп пад нацыянальны фундамент. Францішак Аляхновіч паверыў у Савецкі Саюз і паехаў туды працаваць — пасадзілі. А што было б, каб напрыклад, Іван Бунін вярнуўся ў СССР?

На заканчэнне зазначу, што ў час белапольскай акупацыі сапраўды не чытаў «У кіпцюрах ГПУ». Можа, і добра, бо раздвойваўся б, цяжэй было б змагацца з пілсудчыкамі і нямецка-фашысцкімі захопнікамі. А «Народнай газеце» дзякую за публікацыю, за дапамогу вяртання яшчэ аднаго беларускага пісьменніка да свайго народа і ў гісторыю беларускай літаратуры.

*1992*

## Забойства ў Шылавічах

Больш як месяц валэндаўся я па гораду ў пошуках працы. І тут нечакана Іван Якаўлевіч Дабрыян паклікаў мяне ў гарсавет заняць месца адказнага сакратара гарвыканкама. Вядома, з задавальненнем прыняў я запрашэнне. Падумаў нават, што ўсе мае ганенні скончыліся, бо на такую адказную пасаду без узгаднення з райкамам партыі не абышлося. І сапраўды Іван Якаўлевіч хадзіў у райкам, дзе яму сказалі, што калі давяраеш, то бяры.

Іван Дабрыян хоць і быў камуністам, але не быў фанатыкам. Ён слепа не падпарадкоўваўся партыйнай дысцыпліне, не слухаў тэндэнцыйных нагавораў, а самастойна даходзіў да ісціны. Са мною, будучы камісарам атрада, ён больш дакладна пазнаёміўся ў партызанах. І, відаць, нічога дрэннага ва мне не ўбачыў, калі цяпер, нягледзячы на «политическое недоверие», адважыўся даручыць мне гербавую пячатку. І хоць ён ужо не жыве, хачу сказаць, што за два гады гарсавецкай службы ніколі не зрабіў яму непрыемнасцей.

На працягу доўгага часу (19 гадоў) партархіў не выдаў мне даведкі аб падпольнай і партызанскай дзейнасці, быццам не было «данных». Праўда, на запыт партыйных і савецкіх уладаў партыйны архіў даведкі выдаваў. Старшыня гарсавета Іван Якаўлевіч Дабрыян спрабаваў скарыстаць з гэтай магчымасці. Але і ён атрымаў адказ: «нет данных». У партархіве, мабыць, здагадаліся, што даведка патрэбна мне, а не старшыні.

Мая зямлячка Ганна Іванаўна Кароль, 1902 года нараджэння, была падпольшчыцай-рэвалюцыянеркай, неаднаразова падвяргалася рэпрэсіям,

пакутавала ў польскіх турмах і канцлагеры Картуз-Бяроза. Пасля вайны, у лютым 1947 года яе выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. У тым жа годзе працавала старшынёй Шылавіцкага сельсавета.

Вёска Шылавічы пры панскай Польшчы лічылася адной з найбольш рэвалюцыйнай на Слонімшчыне. Многія жыхары гэтай вёскі сядзелі ў турмах, а Юрку Кавалеўскага паны звялі са свету. Аднак гэтая рэвалюцыйнасць, як потым выявілася, прыняла жахлівыя, нечалавечыя формы. Пасля таго, як у верасні 1939 года Заходняя Беларусь ачысцілася ад польскай акупацыі, шылавіцкія «актывісты» не знайшлі іншага занятку, як запрэгчы ў воз мясцовага пана. Здзекваліся колькі хацелі, мучылі і замардавалі святара. За час падполля шылавіцкім сялянам убівалі ў галаву, што пры савецкай уладзе не будуць плаціць падаткаў. А выйшла наадварот.

Вось у якой вёсцы прышлося жыць і працаваць Ганне Кароль. А яна ж была праваднікам савецкіх законаў на сяле.

У адзін з першых дзён снежня 1947 год адбывалася пасяджэнне выканкама гарадскога савета, якое зацягнулася дапазна.

Назаўтра мы даведаліся аб страшэннай падзеі ў Шылавічах. Невядомы злачынец у той вечар застрэліў праз акно дэпутата Вярхоўнага Савета БССР старшыню Шылавіцкага сельсавета Ганну Іванаўну Кароль. Работнікі НКВД дапытваліся ў Івана Якаўлевіча, ці не ведае, дзе я быў у гэты вечар. Добра, што мы разышліся з пасяджэння пазней, чым адбылася трагедыя ў Шылавічах, я ж органам «не внушаю политического доверия».

Перабіраючы ў памяці тыя трагічныя падзеі, аж цяпер шкура шэхне. Няўжо слонімскія і рэспубліканскія

Шэрлок-Холмсы, у якіх я быў на падазрэнні, не ведалі, што ў мяне з Г. Кароль былі нармальныя, прыязныя адносіны. Ці можа самі следчыя не валодалі нармальным чалавечымі якасцямі? Няўжо яны не цікавіліся тымі асобамі, што замучылі святара? Словам, забойцы так і не раскрылі.

Я хацеў удакладніць дату гібелі заслужанай зямлячкі, але ні ў музеях, ні на фабрыцы мастацкіх вырабаў, калектыў якой трымае шэфства над магілай Ганны Іванаўны, не ведаюць дакладнай даты нараджэння і смерці. На фабрыцы быў альбом, прысвечаны жанчыне, але камсамольцы аддалі яго ў райкам камсамолу, дзе і згубіліся сляды.

Мая праца ў гарсавеце, нягледзячы на стопрацэнтнае выбранне дэпутатам, працягвалася нядоўга, бо партыйныя наменклатуршчыкі не могуць жыць без падману. Даючы згоду на маё сакратарства, яны ашукалі не толькі беспартыйнага, але і камуніста Дабрыяна. А прычына — тут як тут. У Слонім прыбыла аднекуль жонка даваеннага работніка райвыканкама Вальштэйна — Бязроднава, якую трэба было ўладкаваць на працу. У райкаме партыі доўга не думалі, выклікалі загадчыка гаркамгаса Генадзя Мендзелевіча Новіка і загадалі падрыхтаваць базу для майго звальнення. І Мендзелевіч, як правераны камуніст, шчыра ўзяўся за даручаную справу. Паўтараць «политическое недоверие» не сталі, а прыдумалі больш празаічнае абвінавачванне — «за утерю заявлений трудящихся и грубое отношение к посетителям». Галоўным абвінаваўцам, як не цяжка здагадацца, быў Генадзь Мендзелевіч (трэба ж яўрэю незаконна ўладкаваць яўрэйскую дачку. Гэта не лічылася нацыяналізмам, бо абое гаварылі па-руску).

Сесія гарсавета адбылася 29 верасня 1949 года (ізноў верасень). Некалькі разоў штурмавалі дэпутатаў, каб галасавалі супраць мяне. Усе «утерянные» заявы знаходзіліся ў Новіка, аб чым сведчылі ягоныя подпісы ў журнале. А ці ж гэта было патрэбна пагромшчыкам? Ніякія доказы невінаватасці не дапамаглі — звольнілі. Праўда, я не бачыў, хто як галасаваў, бо сядзеў, апусціўшы галаву. Запомнілася выступленне дэпутата ад вайсковай часці (прозвішча не помню), які сказаў: «Что вы делаете, ведь это наш хороший товарищ». Дзякую добраму чалавеку за падтрымку.

На гэты раз прыйшлося шукаць працу па-за межамі раёна, пакінуўшы ў Слоніме жонку з малым сынам.

*1992*

## Беларуская мова ў маім жыцці

Я пісаў ужо аб гэтым. Таму крыху паўтаруся. Нарадзіўся я ў беларускай сялянскай сям'і на Слонімшчыне, дзе ўсе гаварылі на сваёй роднай мове. Як і большасць земляробаў нашай вёскі Чамяры, мы прайшлі бежанства і вяртанне ў свае мясціны. Расійскае і ўкраінскае акружэнне (жылі ў Казанскай губерні і ў Кіеве) амаль не закранула нашай сямейнай гаворкі. Праўда, бацька навучыў мяне чытаць на нейкім буквары, і я ведаў многа рускіх слоў. Падабалася мне і ўкраінская мова, падобная да нашай, толькі з цвёрдым вымаўленнем некаторых слоў.

А як называлася мова, на якой гаварылі бацька і маці, я не ведаў. І вось мы зноў на радзіме, сярод сваіх аднавяскоўцаў. Толькі ўжо прыбыло не расійскае асяроддзе, а польскае, паявілася і польская школа. Дзіўныя словы, дзіўнае гучанне, наогул — дзіўная,

непрывычная мова: карова — крова, малако — млеко, крык — кшыж. Нездарма Валянцін Таўлай передражніваў палякаў (пшэкаў): кшупы, кшова, джовы. І ён, як і я, вінен быў вучыць верш «Кто ты естэсь? — Поляк малы!»

Ну, які ж я паляк, калі яны (паны) называлі нас «тутэйшыя», а нашу мову — «тутэйшая», а калі са злосцю, — то «хамская». Крыўдна было чуць і балюча перажываць гэта. А «хамы» ўмелі рабіць усё — прыгожыя вазы, сані, бароны, вырабляць цудоўныя прыгажосці тканіны. А народныя песні аж за сэрца хапалі.

Няўжо мы — хамы? Зайздросна было чуць, калі польскі вучань горда мог заявіць: поляк малы. А мы толькі «тутэйшыя», хоць і нас прымушалі казаць, што і мы — «малыя палякі».

І вось у 1922 годзе бацька, прыехаўшы са Слоніма, паклаў на стол кніжку пад загалоўкам «Гусляр». Нягледзячы на лацінскія літары, там усё напісана вельмі складна, ды так, як мы ўсе прывыклі гаварыць у сваёй вёсцы, не на тутэйшай, а на беларускай мове. Вось дык Янка! Вось дык Купала!

З той пары я, дзесяцігадовы хлапчук, стаў беларусам. Як гэта дабратворна падзейнічала на маю псіхіку. Нарэшце, я здабыў сваё нацыянальнае імя і калі б мяне паставілі ў той час сярод рускіх, палякаў, украінцаў, я з гонарам сказаў бы, што я — беларус.

Вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі, сустрэча з такімі выдатнымі педагогамі, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч яшчэ больш расшырылі мой кругагляд у справе беларушчыны. Нават у польскім падручніку па гісторыі Польшчы было напісана, што кароль Ягайла сваю каранацыйную прамову гаварыў па-беларуску…

З такім зарадам нацыянальнай свядомасці, у ліку некалькіх дзясяткаў вучняў, быў выключаны з беларускай гімназіі за тое, што прымаў удзел у пратэсце супраць паланізацыі навучальнай установы. Дзяржаўная прафашысцкая паланізацыя расшырыла наступ і на Клецкую і Навагрудскую беларускія гімназіі, дзе я пасля Вільні вучыўся і таксама быў выключаны за нацыянальна-вызваленчую дзейнасць.

Кожны акупацыйны рэжым усімі сіламі імкнецца задушыць нацыянальную свядомасць паняволенага народа. Гэта рабілі і пілсудчыкі. Каб не пашыралася свядомасць беларусаў, а праз яе і нацыянальна-вызваленчы рух, акупанты Заходняй Беларусі закрылі на яе тэрыторыі ўсе беларускія школы, абмежаваўся доступ працоўных і ў польскія навучальныя ўстановы, бо большасць бацькоў, абкладзеныя вялікімі падаткамі, не маглі плаціць за вучобу сваіх дзяцей.

А моладзь гарнулася на навукі, да культурна-асветнай працы. Таму і ў нашай вёсцы на сродкі сялян была адкрыта бібліятэка-чытальня імя Якуба Коласа, пабудаваны Народны Дом. Юнакі і дзяўчаты ладзілі беларускія вечарыны-спектаклі. Мы, выгнанцы з беларускіх гімназіяў, не былі апошнімі ў гэтай справе. Але нашу самадзейную і самаахвярную працу на культурна-асветнай ніве спынілі панскія служкі. Яны закрылі Народны Дом, бібліятэку-чытальню, забаранілі ставіць беларускія спектаклі. Словам, глушылася ўсё беларускае, нават слонімскія друкарні не хацелі (ці мо баяліся) надрукаваць аб'яву на беларускай мове.

Варожая палітыка польскага ўрада да ўсяго беларускага выклікала пратэст, садзейнічала нарастанню нацыянальна-вызваленчага руху. Усялякая праява

беларускасці кваліфікавалася тады як бальшавіцкая прапаганда. Ці ж не такое стаўленне афіцыйных уладаў да беларушчыны давала падставы селяніну пільней углядацца за ўсходнюю мяжу?

Нельга забыць, як у 1937 годзе пасля спектакля на вясковай сцэне, дзе я дэкламаваў верш Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны», мяне паклікалі ў дэфензіву. Шпікі катавалі і прыгаварвалі: «Ото тобе, хаме, гімназ’юм белоруске і “беларуская мова”!» Як мне тады абрыдла чужая (польская) мова, здаецца, не чуў бы яе ніколі, хоць ведаў, што мова тут ні пры чым.

З таго часу прайшло 40 гадоў, як адзіны раз давялося пабыць у Польшчы, у Плоцку, дзе я служыў некалі ў кавалерыі. Як ветліва сустракалі мяне жыхары гэтага горада! Здаецца, так і слухаў бы іх, здаўна знаёмую польскую мову, на гэты раз пяшчотныя словы.

Напрошваецца вывад, што кожны народ на сваёй тэрыторыі павінен гаварыць на роднай мове. І гэта стварае своеасаблівае прыемнае ўражанне.

Уносячы свой сціплы ўклад у развіццё нацыянальнай свядомасці нашых людзей, я думаў, што настане той час, калі Беларусь будзе вольнай, незалежнай дзяржавай. Разам з тым разумеў, што гэта не так хутка настане, што патрэбна вялікая, самаадданая барацьба беларускага народа за сваю сапраўдную самастойнасць. А кожная (маю на ўвазе справядлівую) барацьба суправаджаецца ахвярамі. Беларускі народ нікому не пагражае, ён толькі хоча вызваліцца ад усходняй ці заходняй «апекі». Як гэта зразумела нармальна думаючаму чалавеку. Аднак так не ёсць. Варожыя акупацыйныя сілы дзейнічаюць супраць здаровай логікі і права нацый на самастойнае жыццё.

У захопніцкай палітыцы такія жахлівыя абсурды, якія павінны былі б самі сябе з’есці. Аднак, не — увесь час церпіць народ. Пры панскай Польшчы хто гаварыў па-беларуску — абвінавачвалі ў камунізме, лічылі бальшавіком. Пры савецкай уладзе, наадварот, таго, хто размаўляў у Беларусі па-беларуску, лічылі нацыяналістам. Так званыя «камуністы» пакутавалі ў панскіх турмах і канцлагеры Бяроза Картузская, а так званыя «нацыяналісты» (яны ж яшчэ «ворагі народа») зведалі шматлікія лагеры савецкай поўначы, ляглі касцямі ў Курапатах і другіх месцах.

Я заўсёды гаварыў на сваёй роднай мове. Называлі і мяне нацыяналістам або, у лепшым выпадку, «той, хто гаворыць па-беларуску». Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотні разоў. Праўда, двойчы звальнялі з работы за тое, што «не внушаю политического доверия» (сакратар Баранавіцкага абкама КПБ Ажгірэй). Ды і як было арыштоўваць былога кіраўніка Слонімскай міжраённай антыфашысцкай арганізацыі, намесніка камандзіра партызанскага атрада (пасведчанне партызана Беларусі № 403568), які пацярпеў ад нямецка-фашыскіх захопнікаў (у лагеры смерці Калдычэва знішчылі бацьку і жонку).

Вось такімі шляхамі ішло адраджэнне беларускай мовы. І цяпер, калі рэспубліка стала незалежнай дзяржавай, развіццё роднай мовы ўперлася ў варожую сцяну рускамоўных партакратаў і ўрадавых бюракратаў. І ўсё ж з непахіснай надзеяй, як заўсёды, магу паўтарыць словы са свайго верша, прысвечанага Францішку Скарыне, які знаў: «з-за хмараў алавяных праб’ецца сонца да зямлі».

Беларусь знаходзіцца паміж магутных дзяржаў — Расіі і Польшчы. Гэта павінна было б спрыяць развіццю

нармальнага жыцця нашага народа. Павінна, каб не памкненні вялікадзяржаўных шавіністычна-нацыяналістычных сіл усходу і захаду. Не будзем прыгадваць, колькі на нашай тэрыторыі праходзіла захопніцкіх войнаў. Усход і захад спаборнічалі паміж сабою, хто перацягне на свой бок найбольш беларусаў і зробіць іх палякамі або расейцамі. І пры пасіўных паводзінах карэннага народа гэта ім удавалася сяды-тады. І таму ў адным з маіх апошніх вершаў з'явіліся радкі: «Я не паляк і не расеец, даволі жыць, як набяжыць!» Гэты сказ можна было б пакінуць без каментарыя. Але хочацца паказаць механізм, пры дапамозе якога нас паланізавалі і русіфікавалі.

Як вядома, Заходняя Беларусь амаль дваццаць гадоў знаходзілася пад акупацыяй панскай Польшчы. Цяжка жылося тады працоўным, асабліва сялянам, спрадвечным ахоўнікам беларускай мовы і культуры. Каб лягчэй было эксплуатаваць і апалячваць карэннае насельніцтва, улады закрылі ўсе беларускія школы, праследавалі прагрэсіўных беларускіх дзеячаў. І ўсё ж гэта не давала належнага эфекту. Тады акупацыйнаму ўраду дапамаглі каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, пэўна, яны аб гэтым дамовіліся. Вось прыклады. Жэняцца маладыя, нараджаюцца дзеці — усё трэба было афармляць праз рэлігійных чыноўнікаў, бо гэтага вымагаў закон. І вось едзе маладая пара да праваслаўнага папа, каб абвянчаў. А ён патрабуе 25 злотых, што раўнялася больш чым 12 пудам збожжа. Грошай няма, і маладыя едуць вянчацца ў касцёле. А там вянчаюць бясплатна, толькі запісваюць каталікамі. А раз ты католік, то значыць і паляк («То польская вера»). У сапраўднасці рэлігія ніколі не атаясамлівалася з нацыянальнасцю. Напрыклад, французы таксама каталікі, але не

палякі. Нядаўна прачытаў у раённай газеце, што ў Слоніме пражывае больш за дзве тысячы дарослых палякаў, а ў раёне — 900 чалавек. Скуль яны ўзяліся?

Яшчэ хачу прыгадаць такі выпадак пра апалячванне. Вайсковыя зборы ў другой палове трыццатых гадоў я праходзіў у 27 палку ўланаў, што размяшчаўся ў Баранавічах. На зборы паклікалі пераважна беларусаў. Аднойчы вечарам праводзіў заняткі з кавалерыстамі ксёндз у званні маёра. Гэта была не рэлігійная, а палітычная прапаганда. Маёр тлумачыў, даказваў рэзервістам, што мы не беларусы, а праваслаўныя палякі (значыць, не ўсіх перацягнулі ў каталіцтва, каб потым апалячыць), што тут спрадвеку была Польшча і г. д. Потым дакладчык запытаў, можа хто хоча выказацца па гэтым пытанні. Навагрудскія хлопцы бачылі, што я хвалююся і прасоўваюся наперад, уляпіліся ззаду за мой шынель, але я падняў ужо руку.

Выйшаўшы наперад, адразу я запярэчыў пану маёру, што тут не Польшча, а Беларусь, Заходняя Беларусь і што мы не палякі, а беларусы. А каб не было беларускага народа, то не было б беларускага народнага паэта Янкі Купалы. Ксёндз не мог мне запярэчыць і хуценька закончыў «пагаданку». Салдаты групамі, без строю і каманды пакрочылі ў казармы. Усе думалі, што мяне арыштуюць. Пранесла. Толькі, як вярнуўся са збораў, праз некалькі дзён паліцыянт прынёс павестку з’явіцца на пастарунак, які знаходзіўся ў Касцянях. Камендант паліцыі загадаў, каб на працягу шасці месяцаў двойчы на тыдзень хадзіў да іх на «Мэльдунак» (спецыяльную рэгістрацыю).

Русіфікацыя, як усім нам вядома, адбываецца больш маштабна. У гарадах закрылі ўсе беларускія

школы, амаль усе важнейшыя пасады занялі прысланыя да нас з усходу рускамоўныя чыноўнікі. У калгасах і саўгасах на кіруючых пасадах таксама ярыя русіфікатары, уся дакументацыя вядзецца на рускай мове. Культурныя ўстановы сталі прапагандыстамі не нацыянальнай культуры, а нейкага савецкага сурагату. Сфальсіфікавалі гісторыю Беларусі. Як жа тут было прабіцца парасткам беларушчыны?

Вельмі несПрыяльную дзейнасць у адносінах да беларускай мовы і культуры праявілі руская праваслаўная царква і празмерная колькасць савецкага — гэта значыць, расейскага войска на тэрыторыі рэспублікі. Уся служба ў цэрквах вялася на чужой мове. Армія праводзіла толькі камуністычна-русіфікатарскую палітыку. Вось характэрныя лічбы «брацкага» размеркавання ваенных. У Беларусі на 43 чалавекі цывільнага насельніцтва прыходзіцца адзін ваенны. А ў Расіі адзін ваенны прыходзіцца на 634 чалавекі цывільных грамадзян.

Уявілі розніцу размеркавання ваенных? Кожныя 43 беларуса кормяць аднаго непатрэбнага нам чужога воіна, а ён за тое нясе нам русіфікатарскую палітыку. Пры звальненні з сапраўднай вайсковай службы многія адстаўнікі асядаюць у Беларусі, бо тут лепш, чым на родным нечарназем'і.

Застаўся ў Слоніме пасля адбыцця вайсковай службы Аляксандр Масляніцын. Вось яго адносіны да беларускай мовы, у тым ліку і да мяне. У маі гэтага года ў раённай газеце быў змешчаны мой верш, у якім пісаў:

Няўжо я не дома жыву,
Што мова чужая наўкола
Ў сівую маю галаву
Пускае балючыя ўколы?

Вось Масляніцын і абрынуўся на мяне аж саракарадковым вершам. У мой адрас там ёсць такія словы: «С каких же пор для Вас чужой язык Тургенева, Толстого?», «Мне в Ваших слышится словах не боль за судьбы “родной мовы”. Так начинался Карабах, истоки в них беды Молдовы».

Гэта, бадай, самыя цяжкія абвінавачванні. Аднак скажу, што я ніколі не падбухторваў людзей да нацыянальнай разні. Я заўсёды выступаў за сапраўдную дружбу паміж народамі. Толькі не за генацыд, не за акупацыю, не за асіміляцыю адных народаў другімі, больш моцнымі. Што да Карабаха, то скажу наступнае, бо, магчыма, не ўсе ведаюць. Некалькі гадоў таму назад (на пачатку канфлікту) у « Известиях» прамільгнула заметка, дзе было напісана, што ў аўтаномнай рэспубліцы Карабах 75% армян, а ў класах школаў толькі па адным падручніку па армянскай мове. Потым тасаўскія паведамленні ў газетах ва ўгоду руска-азербайджанскай камуністычнай палітыкі так заблыталі канфлікт, што цяжка было зразумець, хто там вінаваты. А ці не лепш было б задаволіць законныя патрабаванні армян і пазбегнуць крывавай вайны. Толькі гэта не ў інтарэсах імперыялістычнай палітыкі.

Беларусь пакрысе ідзе да адраджэння незалежнасці, беларускай мовы, гісторыі, культуры, перамагаючыя шматлікія перашкоды і ў першую чаргу ў сваім жа парламенце. У нядаўнім праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана, што «дзяржаўнай мовай рэспублікі з’яўляецца беларуская мова». Гэта трэба вітаць і ўсямерна садзейнічаць напаўненню Закона зместам.

Я ўпэўнены, што адродзім сваю мову, культуру і гісторыю. Трэба праводзіць непахісную растлумачальную работу, выбіраць у органы ўлады шчы-

рых беларусаў, якія будуць абараняць інтарэсы працоўных. У гэтым справядлівым змаганні будуць (магчыма) і ахвяры. А калі станем сапраўды вольным народам ад усіх варожых заскокаў, тады і будзем інтэрнацыяналістамі.

*1993*

## «І бальшавікі арыштоўваюць...»

Рэдакцыя Слонімскай раённай газеты часова размяшчалася ў двух пакоях будынка былога староства павятовага над падвальным памяшканнем дэфензівы. Чыноўнікі староства і функцыянеры карнага органа разбегліся да прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе. Паперы сваёй дзейнасці дэфензіва знішчыла, а кайданы пакінула ў падвале. Пару такіх экспанатаў, якія складаліся з ланцужкоў, замочкаў з двума ключыкамі, я прыхапіў. Адны кайданы ў лістападзе 1939 года я здаў у Саюз пісьменнікаў Беларусі, каб паказаць, у што закоўвалі Піліпа Пестрака, Валянціна Таўлая і другіх заходнебеларускіх паэтаў.

Разбегліся не толькі паліцаі, шпікі і буйныя чыноўнікі, але і звычайныя паштовыя службоўцы. Таму «Звязду», «Савецкую Беларусь» і другія газеты накіроўвалі ў нашу рэдакцыю. А мы два ці тры дні раздавалі насельніцтву прэсу бясплатна.

Праз пару дзён прыбыў з Картуз-Бярозы і паступіў на працу ў рэдакцыю газеты паэт Сяргей Хмара (Сіняк). Рэдактар Іосіф Антонавіч Чарняўскі даручыў яму прадаваць рэспубліканскую і мясцовую прэсу.

У першыя дні мы спалі ў рэдакцыі, падклаўшы пад галовы пачкі газет. У нас працаваў тэлефон, пэўна, пакінуты службоўцамі староства.

І вось сядзім з Сіняком за сталом, вечарам праглядаем свежыя газеты і часопісы. Зазваніў тэлефон. Сяргей адразу схапіў трубку і назваўся. Званілі з НКВД, каб ён неадкладна зайшоў туды на пару хвілін.

— Пойдзем, гэта пэўна наконт кватэры, — здагадваўся напарнік.

— Не пайду, мяне не клічуць, — адказаў я.

Сіняк пайшоў. І на душы стала трывожна. Доўга я не клаўся спаць, усё чакаў сябра. Нарэшце не вытрымаў, пазваніў у НКВД, запытаў, ці не прыходзіў Сяргей Сіняк.

— Нет, не приходил, — пачуўся адказ у трубцы.

Мяне агарнула недаўменне, можа і сапраўды не заходзіў, куды клікалі. Быў жа выпадак, што на адной з вуліц горада ноччу забілі воіна.

Назаўтра я расказаў рэдактару, што пасля вячэрняга выкліку ў НКВД не вярнуўся ў рэдакцыю Сіняк. Іосіф Антонавіч развёў рукамі і нічога не сказаў.

Так прапаў без вестак наш жвавы работнік. А рэдакцыя неўзабаве перанеслася ў асобны будынак на вуліцу Студэнцкую, 7. Там у падвальным памяшканні размясцілася друкарня газеты «Вольная праца». На першым паверсе яшчэ ўладкаваўся райкам камсамола. Рэдакцыя папоўнілася новымі людзьмі. Прыслалі літработніка Міхася Арцёменку, з воінскай газеты прыбыў Майсей Гваздзюкевіч. Прыйшоў і пачаў асвойваць работу карэспандэнта Пётр Дабрыян з вёскі Какошчычы, які прасядзеў у Картуз-Бярозе больш за паўгода.

З’явілася ў нас і машыністка, а то ўсе матэрыялы пісалі каліграфічным почыркам, каб наборшчыкі, якія не ведалі беларускай мовы, маглі без памылак набіраць. Машыністка — гэта Рэгіна Натанаўна Варгафціг, уцякаючы ад гітлераўцаў, прыехала з

Варшавы, дзе працавала карэктарам у адной штодзённай газеце. Яна ведала польскую, нямецкую і, здаецца, французскую мовы, а беларускай — ні слова. Паабяцала хутка вывучыць, і яе прынялі з месячным выпрабавальным тэрмінам. Не прайшло двух тыдняў, як яна магла друкаваць не толькі з пісанага, але і пад дыктоўку.

Сіняк патроху пачаў забывацца, хоць мяне заўсёды мучыла пытанне: дзе ён падзеўся?

Было гэта ўжо летам 1940 года. Аднойчы ў нядзелю пайшлі з жонкай Верай у кінатэатр «Модэрн», сядзім у чакальнай зале, чакаем званка. У гэты час з'явіўся ў зале Іосіф Антонавіч Чарняўскі са сваёй жонкай Надзеяй Назараўнай. Падселі да нас. Рэдактар быў у добрым настроі. Разгаварыліся. Вось ён і кажа:

— Што, не ведаеш, дзе падзеўся Сіняк? Яго арыштавалі. Знайшлі дакументы, што быў канфідэнтам, выдаваў таварышаў нават у Картуз-Бярозе.

І верылася і не верылася. Але больш верылася, бо надта хутка арыштавалі. Пры гэтым Чарняўскі расказаў таксама, што прыходзілі ў рэдакцыю з Чамяроў з даносам на мяне. Але, па словах рэдактара, ён іх тут жа адправіў, сказаўшы, што мяне лепш ведае, чым яны. Дзякую за гэта добраму чалавеку, што не паверыў паклёпнікам.

Работа ў рэдакцыі зблізіла з цудоўным чалавекам, журналістам, адказным сакратаром газеты Майсеем Сямёнавічам Гваздзюкевічам, жартаўніком, весялуном. Ён дапамагаў мне і Пятру Дабрыяну спасцігаць мудрасці журналісцкай справы. Ніколі не ганарыўся сваёй перавагай.

Трэба адзначыць, што я жыў на вуліцы Косаўскі тракт побач з ваенным гарадком, дзе служыў малады

беларускі празаік Мікола Ткачоў. Вось Гваздзюкевіч і пазнаёміў мяне з гэтым пісьменнікам. Пасябравалі. І Мікола часта заходзіў да нас.

На вуліцы 3-га Мая (цяпер Чырвонаармейская), дзе за польскім часам вучыўся ў настаўніцкай семінарыі Валянцін Таўлай, у гэтым самым будынку адкрылася Беларуская сярэдняя школа № 1. Тут пачынаў сваю вучобу вядомы беларускі паэт, прафесар Алег Антонавіч Лойка. Штодзённа праходзячы каля гэтага гістарычнага будынка, было прыемна параўноўваць абрэвіятуру школы (БСШ № 1) з абрэвіятурай Віленскай беларускай гімназіі (ВБГ), якія маюць падабенства. Гэтая нітка параўнання звязала маё мінулае, якое праглядалася ўжо праз лінзы адвернутага бінокля, з сучаснасцю. І здавалася, што ўсё ідзе нармальна.

Але гэта толькі здавалася. Нечакана мяне паклікалі ў НКВД, што размяшчалася ў цяперашнім будынку, паказаўшы паперку, мне выпісалі пропуск да следчага. Следчы глянуў на пропуск і ветліва прапанаваў сесці.

Гутарка пачалася прыблізна так:

— Знаете ли вы Ивана Герасимовича Миско?

— Чаму ж не знаю? Знаю. Ён мой сусед, разам вучыліся.

— А что вы можете сказать о его предательской деятельности?

— Нічога не магу сказаць, бо не ведаю.

— Ладно. Идите домой. Сегодня суббота, Завтра выходной, хорошенько подумайте и напишите. А в понедельник приходите.

У нядзелю я ўсё напісаў пра Івана, што ведаў, аб тым, як нас выкідалі з Віленскай і Клецкай беларускіх гімназій, і аб тым, як арыштоўвалі і каталі ў слонімскай дэфензіве.

У панядзелак, як і было загадана, з'явіўся ў згаданую ўстанову і, атрымаўшы пропуск, паўстаў перад тым самым следчым.

— Напісалі? — коратка спытаў ён.

— Напісаў, — і паклаў яму на стол спісаны лісток.

Следчы ўважліва прачытаў напісанае. Скамячыў і кінуў у смецце.

— Что вы написали? Мне надо о его предательской деятельности. Обо всём положительном он сам скажет.

У гэты час у кабінет зайшоў начальнік НКВД. Прыслухаўся да размовы і здзекліва загаварыў, мяшаючы рускія і ўкраінскія словы:

— Што ты з ім возішся. Нічога талковага не скажа, гэта ж яго таварыш. Падпішы пропуск і няхай ідзе.

Выйшаў я з гэтай страшнай установы скамечаны, як тая паперка.

Аднак у вёсцы Чамяры знайшліся паклёпнікі, якія набрахалі не толькі на Івана, але і на яго братоў Васіля і Якава. Неўзабаве ўсіх трох арыштавалі. Гэтую вестку я і прынёс з вёскі ў рэдакцыю. Пятро Дабрыян, які шмат адпакутаваў, прайшоўшы праз пастарунак, дэфензіву, турму і Картуз-Бярозу і думаў, што насталі спакой і шчаслівыя дні, сказаў з нейкім засмучэннем: «І бальшавікі арыштоўваюць...»

Якуба арыштавалі ў Лідзе, дзе ён працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Уперад». Ён напісаў скаргу сакратару ЦК КП (б) Б таварышу Панамарэнку. А той напісаў рэзалюцыю: «Разобраться по существу».

Потым Якуб расказваў, што яго зноў дапытвалі. Але допыт праводзіў ужо новы следчы, які прытворна здзівіўся:

— Вас неправильно обвинили, а вы до сих пор молчали.

Новы следчы «разобрался по существу» і Якуба выпусцілі на волю. А Івана і Васіля засудзілі на 8 гадоў зняволення. Пакаранне адбывалі на лесанарыхтоўках у Карэльскай АССР. Старэйшы Васіль там і памёр. А як пачалася вайна, Івана перакінулі ў Комі АССР, дзе ён і закончыў сваю васьмігадовую катаргу. Пасля вайны атрымаў рэабілітацыйны дакумент аб поўнай невіноўнасці.

*1994*

## Гаркавы салдацкі сухар

Аднойчы ноччу, ідучы з дзяжурства па выпуску газеты, недалёка ад сваёй кватэры наткнуўся на папяровы мяшок з сухарамі. Знаходку я падняў і прынёс дадому. Мяшок з сухарамі падвесілі на гарышчы. Потым высушаны хлеб вельмі спатрэбіўся, размачвалі і елі. Смачныя сухары.

Становішча ў першыя дні акупацыі 1941 года заставалася трывожным. Немцы праводзілі арышты, расстрэлы, у лепшым выпадку заганялі ў лагер для ваеннапалонных, дзе таксама чакала смерць. Каля нашага дома праз праламаную танкам дзірку ў плоце заехала і размясцілася на агародзе нямецкая ваенная часць, што яшчэ больш сціснула наша пражыванне.

А надвор’е днём і ноччу стаяла ціхае, бясхмарнае. Прыгажосць у прыродзе. Здавалася, і вайны няма. Толькі ў аддаленасці часам прарывалася глухая кулямётная чарга, пэўна расстрэльвалі нявінных людзей.

Каб зайсці ў нашу кватэру, трэба было падняцца па драўляных прыступках на дашчаную пляцоўку. Сама пляцоўка з чатырох бакоў была абшытая вагонкай. Пры фундаменце адкрываліся дзверы, каб пакласці пад памост гачку, рыдлёўку і другі агародны інструмент.

Яшчэ не ўзышло сонца, як мая жонка Вера адкрыла дзверы, ступіла на памост. У гэты час з-пад памосту выскачыў чырвонаармеец і ўбег у памяшканне. Гэта быў беларускі пісьменнік Мікола Ткачоў. Ноччу, як немцы спалі ў сваіх машынах, ён ціхутка падышоў да памоста, адкрыў дзверы і залез пад дашчаны насціл. Стукаць у акно або ў дзверы не рашыўся, каб не разбудзіць немцаў. А немцы маглі і не спаць… Словам, вельмі ўдачна прабраўся Мікола праз шчыльнае варожае атачэнне.

Перш-наперш пераадзелі салдата ў мой касцюм. Накармілі. А ягоную ваенную форму сунулі ў печку. Я прапанаваў сябру крыху перачакаць, і мы пойдзем да бацькі на хутар. Мікола не згадзіўся заставацца тут. І хоць доўгая і небяспечная дарога, вырашыў прабірацца на ўсход, маўляў, у яго такое заданне. Нічога не зробіш, салдат павінен выконваць даручанае. Вера напхала ў кішэні сухароў, і мы развіталіся ці не на век.

Часта ўспаміналі Міколу, трывожыліся, ці дабраўся, куды трэба, ці перайшоў лінію фронту. А потым, як не стала Веры, я ўжо адзін перабіраў у памяці дэталі апошняга развітання.

Пад канец красавіка 1945 года атрымаў ад Міколы ліст з Магілёва: «Дзень добры, Анатоль! Месяцы тры таму назад я пісаў табе, але, відаць, ты не атрымаў мой ліст. Гэта я мяркую па дзвюх прычынах: па-першае, што ты не даў адказу і, па-другое, Валаснёў піша, што ты пакрыўджаны маім маўчаннем.

Наша пошта, у дакор сказаць ёй, часамі абурае сваёй “аператыўнасцю”. Ведаеш, яшчэ зімой прыязджаў да нас у рэдакцыю на практыку Ізя Міндлін (прыгадай яго па даваеннаму слонімскаму жыццю). Зараз ён — студэнт факультэта журналістыкі

Свярдлоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дык вось Ізя адбыў у нас практыку і паехаў на Урал. Пазаўчора я атрымаў ад яго ліст і быў вельмі здзіўлены, калі прачытаў дату яго напісання — 27.1.45 г.

…Анатоль, трагедыя тваёй сям'і, тваёй Веры — не выпадак у гэтай вайне. Тым не менш яна скаланула мяне надзвычайна. Я помню Веру, ціхую, удумлівую і пытлівую сяброўку тваю. Так я разумеў яе і цяпер уяўляю так. Гэтым яна мне заўсёды падабалася. Я ведаю яе, як простую, пакладлівую і чуллівую жанчыну. І той гаркавы салдацкі сухар, які яна спакойна клала мне ў кішэнь у тую ліпеньскую раніцу апошняга нашага расстання, не раз я прыгадваў пасля, як праяву чуллівасці і дабраты да мяне, увогуле да чалавека, да байца Чырвонай Арміі. Яе і твая дабрата ў тую раніцу, скажу нават больш — бясстрашна ў варожым акружэнні дапамаглі мне тады шчасліва выбрацца з горада і далучыцца да сваіх часцей, сыгралі неацанімую паслугу. Гэты выпадак я паклаў у аснову свайго аднаго апавядання.

Анатоль, аб сваім жыцці на працягу ўсёй вайны я пісаў табе ў першым лісце. Калі ты не атрымаў яго, я пра ўсё раскажу табе наступны раз».

«Наступнага разу» не было. Як Міколу, так і мяне пасля вайны не адпускалі газетныя справы на доўгія разважанні. Праўда, мы некалькі разоў бачыліся ў Мінску, куды сяды-тады наведваўся. Сустрэчы былі шчырыя, але непрацяглыя, кожны кудысьці спяшаўся.

*1995*

## Водгукі катаванняў у дэфензіве

Паводле польска-рускага слоўніка, выдадзенага ў Варшаве ў 1958 годзе, слова дэфензіва ў першым значэнні — абарона, у другім — контрразведка ў буржуазнай Польшчы. Беларуская савецкая энцыклапедыя дадае: «а таксама палітычная паліцыя, якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам у Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне». Карацей кажучы, дэфензіва з таго гатунку, што сталінскія ГПУ і КГБ, гітлераўскія СД і гестапа.

Многія беларусы за 20 гадоў белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі прайшлі праз падвалы дэфензівы. Некаторыя з іх загінулі ў катоўнях. Не абмінула пакутлівая смерць і нашых землякоў. Над Мікалаем Гуда доўга здзекаваліся ў дэфензіўных засценках, пакуль не замучылі. Пасля катаванняў Валодзя Бялько хутка памёр. Піліп Маркевіч таксама перанёс цяжкія крывавыя пабоі, пасля чаго захварэў на сухоты — памёр. Дэфензіўшчыкі неміласэрна катавалі Георгія Кавалеўскага, кінулі ў беластоцкую турму, адкуль ён жывым не выйшаў.

Як ні лютавала тайная і мундзірная паліцыя на беларускіх землях, заўсёды імкнулася скрыць сляды ўчыненых забойстваў. Карнікі не хацелі нават пакідаць сляды на целе катаванага. Яны стараліся біць так, каб арыштаванаму моцна балела і нідзе не было відаць знаку катаванняў. Нават калі вырашылі ліквідаваць асобу, то таксама прымянялі «хітрыкі». Вось адзін з такіх прыёмаў: чалавека клалі спіною на падлогу, на грудзі прымацоўвалі дошку, па якой білі цяжкай гірай. У ахвяры адбіваліся лёгкія — і зверху ніякага знаку.

У сярэдзіне 1930-х гадоў трапіў і я ў тую страшэнную катоўню.

А пачалося гэта здалёк. Сяляне маёй вёскі Чамяры, яе больш свядомай заходняй часткі, вырашылі за ўласныя сродкі пабудаваць народны дом, дзе можна было б наладзіць спектакль, правесці іншую вечарыну, каб моладзь займалася карыснай грамадска-культурнай справай. Для гэтай мэты выдзелілі лепшы кавалак грамадскай сенажаці, зрэзалі альховы гай. Дарэчы, у спілоўванні драўніны прымаў удзел і я.

Дом пабудавалі. Але пан павятовы староста забараніў ставіць спектаклі, праводзіць маладзёжныя вечарыны. Будынак пуставаў. І яго перадалі школе ўзамен на старое памяшканне, якое моладзь прыстасавала пад танцавальную залу.

Не памятаю ў якім годзе, здаецца ў 1937 годзе, на каляды ў старым будынку школы іграў гармонік, кружыліся маладыя пары. Нечакана ўварваліся некалькі хлопцаў з польскай арганізацыі «Гурток вясковай моладзі» з патрабаваннем апаражніць для іх залу. Вядома, ніхто ім не падпарадкаваўся. Неўзабаве з'явілася паліцыя (відаць, недзе чакала) і загадала пакінуць памяшканне. Моладзь адмовілася выконваць бязглуздыя загады. Тады «стражнікі парадку» пад дуламі вінтовак і пісталетаў дамагліся свайго. На двары пачуліся воклікі: «Прэч з паліцыяй!», «Ганьба кулкоўцам!»

Назаўтра прыехала са Слоніма паліцыя і арыштавала некалькі хлопцаў, у тым ліку і мяне. Завезлі нас у дэфензіву. Пачаліся допыты. Абвінавачвалі, што на вуліцы кідалі ў паліцыю каменнем. Мы апраўдваліся, што не кідалі і што зімою, калі зямля замерзла і пакрылася снегам, немагчыма знайсці каменя.

Нашы апраўданні не дапамаглі. Дэфензіўшчыкі прыходзілі ў ярасць. Яны па аднаму выводзілі арыштаваных у падвал. Дайшла чарга і да мяне. У падваль-

най клетцы ўбачыў на падлозе таз з вадой, вакол якога віднеліся сляды босых ног.

Загадалі скінуць штаны і разуцца. Скавалі ланцужком рукі і перакінулі цераз калені сагнутых ног. А каб рукі не ссоўваліся з каленяў, пад калені прасунулі кія. Так сядзеў я пару хвілін, пакуль эсдовец не штурхнуў мяне нагою і паваліў на спіну. Другі кат накінуў на галаву паліто і сеў вярхом. Тады другі пачаў біць гумавай палкай у пяты. Боль даходзіў аж да мазгоў. Спачатку я лічыў удары: пяць, дзесяць, дваццаць… Збіўся з ліку, крычаў, крычаў, як мог, пад палітом. Пачаў задыхацца, замоўк.

Выцягнулі з-пад рук і ног кія, казалі станавіцца ў таз з вадой, а потым хадзіць вакол таза. Ад болю не мог станавіцца на ўсю ступу, стараўся хадзіць на пальчыках. Прымусілі рабіць адбітак босых ног з усёй ступой.

Раніцай завялі на «прыём» да пана старосты, які пакараў кожнага арыштам на восем сутак. Кару адбывалі ў Касцянёўскім пастарунку. А потым судзілі «за чынны опур владзы», далі яшчэ 6 месяцаў турэмнага зняволення. Аднак сядзець не давялося, бо невялікія прысуды падпалі пад амністыю.

А тое, што нас катавалі, суд кваліфікаваў як паклёп на дзяржаўныя органы, бо на целе арыштаваных не было слядоў пабояў. Адвакат Валадковіч тлумачыў суддзі, што білі ў пяты, каб не было знаку.

З таго памятнага «візіту» ў дэфензіву прайшло 60 гадоў. А сёлета ноччу, як лягу спаць, пад ранак пачынаюць балець пяты, быццам іх білі ўчора гумавымі палкамі. Знаёмы ўрач сказаў мне, што гэта водгукі работы дэфензіўшчыкаў.

*1997*

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Іверс** Анатоль (Іван Дарафеевіч Міско)

З ГЛЫБІНЬ ЖЫЦЦЯ

*Нататкі прамінулай эпохі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Андрэева*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 18.04.2012. Фармат 84×108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 10,92. Ул.-выд. арк. 7,08.
Наклад 50 ас. Зак. 250.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.